ISSN 2617-2305



# Наша Гісторыя

@Пішам добрыя тэксты ад 1906 www.nn.by

№ 3 – 2018

ЗАХАПЛЯЛЬНЫЯ БІЯГРАФІІ
ЦІКАВЫЯ ЗНАХОДКІ
ВАЖНЫЯ АДКРЫЦЦІ

## ІВАН ШАМЯКІН: ЯК ЖЫЛА ЭЛІТА БССР



ГАЛЕНДРЫ
ЯНЫ ЖЫЛІ ПАД БРЭСТАМ І АД ІХ ЗАСТАЛІСЯ ТОЛЬКІ КВЕТКІ І КАМЯНІ



БАЯВЫЯ ЖУРАВЫ
СТАРАЖЫТНЫХ ЛІТВІНАЎ

# ЖЫЦЦЁ І СМЕРЦЬ НА МЯЖЫ З РЭЙХАМ

## БАЗЫЛЬ МАРГЕЛАЎ І ЯНКА ЯКУБОЎСКІ:
ХТО І ШТО ПІСАЎ У БЕЛАРУСКАМОЎНУЮ «ЧЫРВОНААРМЕЙСКУЮ ПРАЎДУ»

## КОМІКСЫ: ТРАФЕІ
З-ПАД КІРХГОЛЬМА... ФРАНЦЫСК. ЛІХІЯ 1490-Я...

16+

Нацыянальны гісторыка-культурны музей-запаведнік «Нясвіж»
Музей Фіцвільяма (Кембрыдж, Велікабрытанія)
Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь

Belavia

The Fitzwilliam Museum
CAMBRIDGE

НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГІСТАРЫЧНЫ  МУЗЕЙ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ



НЯСВІЖ
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНЫ МУЗЕЙ-ЗАПАВЕДНІК

# ДАСПЕХІ РАДЗІВІЛАЎСКАГА НЯСВІЖА

Залатая зала палацавага ансамбля
(Нясвіж)
www.niasvizh.by

з 8 верасня 2018 г.

ДЗЯРЖАЎНАЯ ЎСТАНОВА «НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНЫ МУЗЕЙ-ЗАПАВЕДНІК "НЯСВІЖ"» УНП 600207920

Наша Гісторыя
3/2018
www.nn.by

**Навукова-папулярны, літаратурна-мастацкі часопіс**

Выдаецца з 2018 г.

ISSN 2617-2305

Зарэгістраваны Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб рэгістрацыі №1921 ад 11.07.2018 г.

**Галоўны рэдактар** Андрэй Васільевіч Дынько

**Намеснік галоўнага рэдактара** Аляксандр Пашкевіч

**Дызайн і вёрстка** Уладзя Бурымская

**Карэктура** Таццяна Кур'ян

Часопіс «Наша гісторыя» выходзіць на беларускай і рускай мовах.
Перыядычнасць — 1 раз на месяц.




На першай старонцы вокладкі — малюнак Рамана Плавінскага.


**Заснавальнік:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Суродзічы».
Р/р BY84BLBB30120190786828001001 у аддз. 539 ААТ «Белінвестбанк» г. Мінск, вул. Калектарная, 11 код BLBBBY2X, УНП 190786828.

**Адрас рэдакцыі:** 220030, Мінск, вул. Энгельса, 34А.

**Адрас для допісаў:** 220004, Мінск, а/с 62.

**Тэлефоны:** (017) 316-48-13, (029) 613-32-32, (029) 707-73-29

**E-mail:** nn@nn.by

Цана дамоўная.

**Падпісаны ў друк** 08.10.2018.
Афсетны друк. Папера лёгкакрэйдаваная.
Фармат 60×84/8.
Умоўных друкаваных аркушаў 11,16.
Гарнітура PetersburgC.
Замова № 0867/18.
Наклад 7 000 асобнікаў.

Часопіс надрукаваны ў друкарні «Акварэль-прынт». Вул. Радыяльная, 40-202, 220070, г. Мінск. УНП 101282916. ЛД 02330/78 ад 03.03.2014 да 9.03.2019.
Пасведчанне аб рэгістрацыі ў Дзяржаўным рэестры выдаўцоў, вытворцаў і распаўсюднікаў друкаваных выданняў № 2/16 ад 21.11.2013 г.


**Ад рэдакцыі**

Некаторыя з чытачоў «Нашай гісторыі» здзівяцца, пабачыўшы, што адной з цэнтральных фігур гэтага нумара стаў класік беларускай савецкай літаратуры **Іван Шамякін (старонкі 4–12)**. Не сакрэт, што для многіх гэты пісьменнік з'яўляецца сімвалам беларускай інтэлігенцыі, прыкормленай камуністычнай уладай. А таму неразрыўна асацыюецца з нудным афіцыёзам, якога ўдосталь наеліся, пачынаючы са школьных падручнікаў.

Такое ўспрыманне ўзнікла не на пустым месцы. Савецкая сістэма, уключаючы чалавека ў свой сімвалічны пантэон, намагалася ствараць яму ідэальную з пункту гледжання афіцыйнай ідэалогіі біяграфію. Для грамадства той мусіў адпавядаць пэўным крытэрыям, а, каб пад іх асобу падагнаць, яе публічны вобраз фармалізаваўся і амярцвяўся. Людзям у выніку савецкі герой прадстаўляўся як забранзавелы, шаблонны, а таму і нецікавы.

Між тым выдатныя людзі Беларусі пражылі не менш цікавае жыццё, чым выдатныя людзі іншых краін і культур. За ідэальным афіцыйным фасадам і ў кожнага з беларускіх савецкіх пісьменнікаў была ўласная жыццёвая гісторыя, а за парадным аблічам хавалася шмат нечаканых нюансаў. Людзі ж прыходзілі да свайго высокага грамадскага статусу не проста так, не па волі сляпога выпадку. Яны да гэтага, як правіла, ішлі доўга і мэтанакіравана, адны — адольваючы перашкоды, іншыя — ідучы на кампрамісы з сумленнем.

У людзей таго пакалення была і няжжытая вера ў ідэалы гадоў сваёй маладосці. Нам сённяшнім, якія на свае вочы бачылі дэградацыю і крах гэтых ідэй, гэта не заўсёды проста зразумець, але так сапраўды было. І якраз праз асабістыя лёсы добра пазнаецца і сама эпоха, і яе норавы, і той выбар, які перад чалавекам — ва ўсе часы — паўстае.

Урэшце, нам нікуды не дзецца і ад пытання: што гэтыя людзі пакінулі пасля сябе?

Адказ не відавочны. Такія людзі, як Іван Шамякін, любілі Беларусь і рабілі для яе тое, што было ў іхніх сілах і што яны лічылі магчымым. Будучы ў той жа самы час людзьмі сістэмнымі, і за рамкі сістэмы выходзіць нават не імкнучыся.

Таму ж Шамякіну аддавалі належнае і тыя яго калегі, якія ў цэлым не падзялялі ягоныя погляды. Так, пісьменнік, былы партызан Валянцін Тарас у сваіх успамінах адзначаў: «Іван Шамякін быў да мозгу костак савецкі пісьменнік, савецкі артадокс, але ў той жа час для яго прынцыпова важным было тое, што ён беларускі пісьменнік. І, думаецца, ён таксама прагнуў нацыянальнага адраджэння, па-свойму, у адпаведнасці са сваім савецкім светапоглядам, але нацыянальнага адраджэння, марыў, каб родная мова перастала быць Папялушкай у сваёй хаце, у сваёй дзяржаве».

Разважаючы над захапляльнай біяграфіяй Шамякіна, над планідай таго пакалення, мы шукаем адказ і на пытанне, як ставіцца да савецкай часткі нашай гісторыі і ацэньваць асоб, якія вызначалі тую эпоху ў Беларусі. Для «Нашай гісторыі» гэта важныя пытанні.


4


A NEW YORK TIMES AND WALL STREET JOURNAL BESTSELLER
THE ORIGINS OF POWER, PROSPERITY, AND POVERTY
WHY NATIONS FAIL
DARON ACEMOGLU JAMES A. ROBINSON
53


28


22




48


40


56


62


25


81




88


78




94
Мы ўзялі багата здабычы!
Усё вязем дадому!

**Ён ненавідзеў капіталізм. Савецкай дзяржаве гэты сын лесніка з-пад Добруша быў удзячны за жыццёвы шанц. Ён жыў у раскошы, якая савецкім настаўнікам і сялянам не снілася. І пры гэтым застаўся беларускім патрыётам да мозгу касцей. Піша Андрэй Скурко.**


SVABODA.ORG

# Іван Шамякін: багатае жыццё

**«Мінaчка кручаны»**

Яго дзед Міна Васілевіч усё жыццё працаваў як вол, каб выбіцца з беднасці ў лясістым куце між Гомелем і Навазыбкавам — пры самай расійскай мяжы. Яшчэ больш эфемерная, чым цяпер, яна нейкі час нават падзяляла надвое бацькоўскі падворак.

За рэзкі характар дзеда называлі «Мінaчка кручаны». Ён быў першым у родзе з прозвішчам Шамяка — а яго дзеці-ўнукі сталі ўжо Шамякінымі. (На ўсходзе Беларусі прозвішчы замацаваліся пазней, чым на захадзе, і расійскія ўлады масава перараблялі Шамяк у Шамякіных, Машэраў у Машэравых, а Мазураў — у Мазуравых.)

А прозвішча, згодна з сямейнай легендай, прывёз з царскага войска старэйшы брат Міны, Пімен Васілевіч. Прыйшоў з салдатаў з казённай паперай, у якой чамусьці значыўся Шамякам. А прадзеды яшчэ зваліся Чарназёмамі. Такое прозвішча было адно на ўсю вёску Карма ў семсот двароў.

Маці Шамякіна мела рэдкае імя Сынклета, яе бацька быў за царом старастам Кармы. Падабенства з дзедам па маці, Сцяпанам Калініным, сваякі бачылі ў Іване, адзначаючы: «Такі ж пузаты і такі ж галавасты». Салідны, значыць, і з практычным розумам.

Пасля рэвалюцыі дзеда не запісалі ў «эксплуататары», бо адзін з яго сыноў, Аляксей, арганізаваў у грамадзянскую чырвоны партызанскі атрад ды быў забіты ў спіну каля роднай хаты.

Каб атрымаць уяўленне пра дзяцінства Шамякіна, трэба чытаць... «Новую зямлю». Паэма, напісаная сынам наднёманскага лесніка Якубам Коласам, і праз пакаленне дакладна ілюстравала жыццё. Дзяржава была іншая, лад змяніўся, мясцовасць за 400 км ад коласаўскай, а сутнасць засталася: пераезды, нішчымніца, частая несправядлівасць начальства. Шамякін успамінаў, як дзядзькі-леснікі збіраліся ды ўслых чыталі паэму, ухвальна мацюкаючы аўтара: «Во змей! Як у нас падглядзеў!»

Пасля вайны, у Мінску, Шамякін, нягледзячы на розніцу ў веку, сышоўся з Якубам Коласам. Маладога сакратара Саюза пісьменнікаў штомесяц пасылалі ў асабняк самотнага класіка прымаць членскія складкі. Яны бралі па чарцы, ажно жонка Шамякіна з часам пачала заўважна нервавацца, калі ён казаў ёй раніцай, што ў сённяшніх планах — паход да Коласа.

**Вестэрн пад Добрушам**

Бацька Івана, Пятро Шамякін, быў леснікам усё жыццё. За выключэннем перыяду, калі яго перавялі на новы ўчастак, а папярэднік сустрэў сям'ю на парозе

са стрэльбай у руках і адмовіўся сыходзіць. Шамякін пайшоў у крамнікі, але за пару месяцаў прагарэў, аддаў у кампенсацыю цялушку ды папрасіўся зноў у лес.

Леснікам у 1930-я жылося лягчэй, чым калгаснікам: можна было трымаць каня, напрыклад. Але была і свая спецыфіка. Пятро Шамякін быў кульгавы: злоўлены ў лесе парубшчык біў яго доўбняй, трапіўшы па стрэльбе, што вісела на плячы руляй уніз. Залп з двух ствалоў раздрабіў косткі — нагу цудам удалося выратаваць. А праз год страляў ужо бацька — ратуючы калегу-лесніка ад пяці парубшчыкаў з сякерамі. І забіў аднаго. Баючыся помсты, ён адсылаў сям'ю начаваць па знаёмых, кожную ноч у новае месца, а сам з аўстрыйскай трафейнай вінтоўкай сядзеў на гарышчы і чакаў нападу...

### Жонка як крыніца вобразаў

Ідэальная Саша Траянава з «Непаўторнай вясны», раўнівая Галіна Яраш з «Сэрца на далоні» — жонка Марыя Філатаўна была для Шамякіна крыніцай вобразаў.

Раскідаў ён па творах згадкі і пра іншыя свае закаханасці і каханні. Найбольш, прызнаваўся, у «Трывожным шчасці».

Была дзіцячая закаханасць у настаўніцу; у шостым класе на танцах ён цалаваўся са старэйшай на год Маняй; пасля закахаўся ў другую Марусю, прыйшоў на спатканне за 14 кіламетраў і быў зняслаўлены яе аднавяскоўцамі... З будучай жонкай Машай Кротавай ён вучыўся ў адным класе ў пасёлку Церуха. Яна была адзінай, хто не смяяўся, калі малога Івана, які запусціў быў валасы, перад усім класам абкарнаў авечымі нажніцамі настаўнік. Пачуцці ў Івана і Марыі з'явіліся ўжо ў Гомелі, у тэхнікуме: ён вучыўся ў аўтадарожным, яна — у медычным.

Пасля тэхнікума Маша працавала фельчаркай у Рэчыцкім раёне, Іван ездзіў да яе. Яна называла яго стрыечным братам, але людзі ўсё разумелі. Хутка яны пажаніліся, нарадзілася дачка Ліна.

Быў у біяграфіі Шамякіна і адзюльтэр, пра які ён шчыра напісаў у дзённіках. У ваенны час Шамякін, як і Быкаў, быў артылерыстам. Яму трохі больш пашанцавала: трапіў у зенітчыкі — усё ж не лоб у лоб з нямецкімі танкамі.

Шамякін, камандзір гарматы і камсарг, меў «сувязь з падначаленай», якую хутка спыніў камандзір батарэі. У часе пабыўкі Іван прызнаўся жонцы. Яна адразу ж пералегла на іншы ложак. І доўга яшчэ не магла дараваць. Але ўсё ж кахала яго: «Дзе я знайду другога такога дурня».

**«Прыехалі ў жніўні 1948-га ў Мінск і акунуліся ў ізобіліе. Колькі каўбас! Ікра, крабы — еж не хачу»**

Яны пражылі больш за паўстагоддзя душа ў душу. Гэта не выключала выбухаў рэўнасці, падчас якіх жонка магла спіхнуць яго з ложка, чымсьці (мяккім) ударыць, спаліць лісты прыхільніцы творчасці. Выбухі былі беспадстаўныя: тая ваенная гісторыя, прызнаваўся Шамякін, на ўсё жыццё яго навучыла.

Іван Пятровіч перажыў жонку на шэсць гадоў, яе сыход быў найвялікшай яго трагедыяй. Кнігу ўспамінаў пра Марыю Філатаўну камуніст Шамякін назваў па-евангельску: «Слаўся, Марыя!».

### Весялей круці, Пятровіч!

«Гэта парадокс: магу пераканаўча напісаць і аратага, і слесара, і архітэктара, і доктара, а сам нічога не ўмею, цвіка забіць, каб добра трымаў», — прызнаваўся Шамякін. Цяжкую фізічную працу ён, як і Салжаніцын ці Шаламаў, успрымаў як зняваrу для чалавека, што працуе галавой.

У пасляваенную нішчымніцу Шамякін, малады настаўнік, атрымліваў на паёк збожжа, якое трэба было ўручную малоць. Жорнаў не мелі, хадзілі да сялян, бацькоў яго вучняў. «Яны глядзелі, як настаўнік абліваецца потам, і — што думалі? Гаспадар пасміхаўся: "Весялей круці, Пятровіч!" Мне здавалася, што занятак такі, як не што іншае, падрывае і аўтарытэт настаўніка, і аўтарытэт сакратара партарганізацыі». ▶



ФОТА З АСАБІСТАГА АРХІВА АЛЕСІ ШАМЯКІНАЙ

**Агульны тыраж кніг Івана Шамякіна перавысіў 25 мільёнаў асобнікаў.** Сустрэча Шамякіна з чытачамі і чытачкамі.




**Дом па Камсамольскай, 23**, з відам на КГБ, дзе Шамякіны атрымалі першую асобную кватэру з кабінетам.

Але Шамякін не быў цельпукомрамантыкам. Яго надзвычайная мяккасць, чалавечнасць і эмпатыя спалучаліся з практычнасцю, разуменнем, што трэба для жыцця. Нясхільны да канфліктаў, сентыментальны і скоры на слязу Іван Пятровіч здолеў у Мінску дабіцца для сваёй сям'і найлепшых з магчымых жыццёвых умоваў, забяспечыць кватэрамі і аўто дзяцей.

А цвікі забіваць — можна і цесляра паклікаць. Абы было чым плаціць.

**За Сталінскую прэмію Шамякін купіў аўтамабіль «Пабеда». Правоў не меў, і тры гады сям'я трымала кіроўцу, які бессаромна рабаваў даверлівага празаіка, вымагаючы грошай на ліквідацыю міфічных паломак**

## Акунуліся ў «ізабіліе»

Дабрабыт Шамякіных неймаверна ўзляцеў цягам аднаго пасляваеннага дзесяцігоддзя.

«Прыехалі ў жніўні 1948-га ў Мінск і акунуліся ў *ізобіліе*. Колькі было самых разнастайных каўбас! Кракаўская, палтаўская, маскоўская... Ікра, рыба, крабы — еж не хачу. За 1 200 руб. стыпендыі, якія я атрымліваў у партшколе, можна было нябедна жыць нам, чацвярым», — пісаў Шамякін. Увогуле, яго ўспаміны, якія ён пачаў публікаваць яшчэ ў 1980-х, зрабілі фурор сваёй шчырасцю. Да яго так адкрыта не пісалі пра алкаголь, калегаў, маёмасць.

«Сацыяльным ліфтам» для празаіка, які надрукаваў аповесць «Помста» і рыхтаваў да публікацыі раман «Глыбокая плынь», стала Вышэйшая партыйная школа. Ён паступіў туды па рэкамендацыі Саюза пісьменнікаў і сустрэў там сябра на ўсё жыццё, Андрэя Макаёнка. У адной з біяграфій славутага драматурга напісана, што ён «палову стыпендыі адсылаў родным, а на другую палову выжываў». Выжываць на палову стыпендыі ў 1 200 рублёў пры сярэднім заробку настаўніка ў 600 было няцяжка. Хлеб каштаваў 3 рублі, бутэлька «Маскоўскай» — каля 60. Калгаснікі ж у той час працавалі практычна задарма.

## Адрасы

Прыехаўшы з сям'ёй у Мінск, Шамякін з цяжкасцю зняў пакойчык на Лагойскім тракце, у прыватным сектары: Мінск разбомблены, жылля мала. Усёй маёмасці ў Івана ды Мар'і быў адзін жалезны ложак. У 1950-м ім выдзелілі два пакоі ў чатырохпакаёўцы на пачатку вуліцы Маркса — 24 метры. Другую палову кватэры займала сям'я празаіка Аляксея Кулакоўскага. На тых 24 метрах жылі ўшасцёх: у Шамякіных на той час было ўжо трое дзяцей, з імі жыла і жончына сястра-студэнтка.

Праз год гарсавет даў Шамякіну, лаўрэату Сталінскай прэміі за «Глыбокую плынь», асобную трохпакаёўку на вуліцы Камсамольскай, насупраць увахода ў Клуб імя Дзяржынскага. Гэта быў нізкаваты першы паверх, з вокнаў прахожыя былі відаць цалкам, з нагамі. Але ў кватэры былі асобны кабінет і асобная кухня. Набылі прыстойную мэблю, дубовую шафу для адзежы.

У 1953 Шамякіны зноў пераехалі на Маркса — у «пісьменніцкі» дом № 36. «Кватэра плошчай 72 кв. м., чатыры пакоі. Пліту на кухні палілі



дрывамі, цягалі на чацвёрты паверх, і ўсё роўна — гэта раскоша, нават па мерках сённяшняга дня», — успамінаў Шамякін.

Расказваюць, што той дом быў збудаваны дзякуючы Якубу Коласу. Ён жаніў сына з дачкой Янкі Маўра, і паўстала пытанне жылплошчы для маладых. На дом не пайшло ні капейкі з бюджэту БССР, яго цалкам прафінансаваў агульнасаюзны Літфонд (падраздзяленне Саюза пісьменнікаў, адказнае за матэрыяльную падтрымку творцаў), выдаткаваўшы два мільёны рублёў. Узначальваў Саюз пісьменнікаў СССР тады Аляксандр Фадзееў, сябар Якуба Коласа.

Дом збудавалі па тыпавым праекце: пісьменніцкі дом у Маскве меў дакладна такую ж планіроўку — па дзве кватэры на пляцоўцы, трохпакаёўка і чатырохпакаёўка. Пісьменнікам адвялі два пад'езды — і то туды трапілі пару вайсковых ды міліцэйскіх чыноў.

На адной пляцоўцы з Шамякіным жыў Мележ, ніжэй — Глебка і Вітка, вышэй — Брыль і Скрыган.

У 1964-м Мележ перабраўся ў большую кватэру на Леніна, у дом над тагачасным рэстаранам «Патсдам» (цяпер *Grand Cafe*). У яго кватэру пераехала, і дагэтуль жыве, сям'я Івана Навуменкі. І нашчадкі Коласа, дарэчы, дагэтуль жывуць на Маркса, 36.



### Кашаль за сцяной

Шамякін успамінаў, як, жывучы на Маркса, чуў за сцяной глухі кашаль Івана Мележа. Аўтар «Палескай хронікі» меў хворыя лёгкія, гэта і звяло яго без пары ў магілу. «Мы пачалі з ім з самага шчырага сяброўства», — успамінае Шамякін свайго аднагодка. Чым скончылі — не піша, можна меркаваць па эпізадычных згадках. Шамякін адзначае толькі, што чалавек Мележ быў складаны, што не ўспрымаў яго «Атлантаў і карыятыдаў» — «самы чытаны раман 1970-х»... Магчыма, было тут і звычайнае мужчынскае ды творчае спаборніцтва: Мележ за «Палескую хроніку» атрымаў Ленінскую прэмію, Шамякін пасля цэліўся на Дзяржаўную са сваім раманам-ленініянай «Петраград – Брэст».

Цікава Шамякін апісвае працэс стварэння белетрыстыкі 1970-х. Задумаўшы напісаць раман пра архітэктара, ён тры гады хадзіў на пасяджэнні архітэктурнай рады, на калегіі Дзяржбуда, пазнаёміўся з галоўнымі архітэктарамі Брэста, Гомеля, Магілёва. Галоўнаму герою, архітэктару Максіму Карначу, аўтар надаў рысы Андрэя Макаёнка. Уласна, задумка «Атлантаў і карыятыдаў» і ўзнікла з жадання «выпісаць» характар сябра.

**«Пісьменніцкі дом» на Маркса, 36,** збудаваны дзякуючы сяброўству Якуба Коласа і ўсёмагутнага аўтара «Маладой гвардыі» Фадзеева.

Паводле рамана ў канцы 1970-х знялі васьмісерыйны фільм.

Агульны наклад кніг Шамякіна перавысіў 25 мільёнаў экзэмпляраў! Гэта была рэальна масавая літаратура.

### Кватэра Прытыцкага

У канцы 1950-х Шамякіны займелі, у дадатак да летняга дома на Гомельшчыне, у Церусе, дачу ў Ждановічах. Выбіць участкі ўдалося, злавіўшы на слове чыноўніка: той на партактыве апраўдваўся за дачы, якія Міністэрства будаўніцтва ставіла для «патрэбных людзей» — маўляў, яны будуць для пісьменнікаў і вучоных. У выніку Шамякін і Мележ атрымалі надзелы па суседстве.

А ў 1969-м 48-гадовы Шамякін пераехаў у апошнюю сваю кватэру: у дом па вуліцы Янкі Купалы, 11. Тую кватэру раней займаў старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Сяргей Прытыцкі. Яна была большая, дом зручнейшы для жыцця — з ліфтам. Лепшага жытла ў тагачасным Мінску не было.

Шамякіна ў апошнія дзесяцігоддзі жыцця можна было бачыць на «Інфарктэнштрасэ» — алеі ў парку Горкага, дзе шпацыравала мноства заслужаных пенсіянераў.

### Пісталет у стале

Але старасць яго была невясёлая. У пачатку 1990-х трагічна памёр ▸

### Што было б, калі б Шамякін жыў не пры сацыялізме, а пры капіталізме?

Ён быў бы мільянерам. Можа, без гучных рэгалій і ордэнаў, але даў бы фору нават Добсанам, стваральнікам «Санта-Барбары».
Уявіце: 1977 год, Беларуская Народная Рэспубліка. Штовечар тысячы хатніх гаспадынь кідаюць усе справы і сядаюць перад тэлевізарамі «Нёман» глядзець 375-ю серыю «Трывожнага шчасця»… Хоць сам Шамякін, канечне, і ў страшным сне не прысніў бы такое.



АНДРЭЙ СКУРКО

**Канапа ў кабінеце. На ёй Шамякін памёр.** Ад красавіка да верасня 2004 ён ляжаў у Лечкамісіі з хваробай Паркінсона. Дажываць яго адправілі дахаты. Ад той самай хваробы, дарэчы, пакутаваў іншы народны, Рыгор Барадулін.



**Кватэру ў доме па Янкі Купалы, 11** Шамякіны атрымалі ў 1969. Да таго ў ёй жыў Сяргей Прытыцкі. У Савецкім Саюзе, у гарадах, кватэры найчасцей не куплялі, а атрымлівалі ад дзяржавы. Кватэры былі малыя. Толькі эліта магла разлічваць на жытло агульнай плошчай большай за 70 квадратных метраў. Кватэр плошчай 100 квадратных метраў было ўсяго некалькі дзясяткаў на цэлы Мінск. Найвышэйшыя партыйныя кіраўнікі жылі ў прэстыжных дамах у цэнтры сталіцы, і ў іх кватэрах былі нават пакойчыкі для прыслугі. Жытло ў гэтых шматпавярховіках на вуліцах Янкі Купалы, Пуліхава, Чырвонаармейскай, на Вайсковым і Бранявым завулках дагэтуль каштуе касмічна дорага. Уласныя асабнякі ў тыя часы ў Мінску мелі толькі асобныя генералы і, дзеля майстэрняў, асабліва заслужаныя мастакі.

▶ 41-гадовы сын Аляксандр. «Бяда, калі грошай няма, але яшчэ большая бяда здараецца, калі дзеці ведаюць, што яны ёсць і ўмеюць атрымаць іх, карыстаючыся мацярынскай ці бацькоўскай любоўю», — горка пісаў Шамякін. Саша вывучыўся на геолага, працаваў у Інстытуце інжынерных вышуканняў, але «лішнюю чарку браў». Яго мучыла бяссонніца, лекі ад яе ён спалучаў з алкаголем, што і прывяло да фатальнага канца. Марыю Філатаўну гэта падкасіла, яна страціла цікавасць да жыцця і мала не штодня ездзіла на Паўночныя могілкі.

Развалiўся Савецкі Саюз, інфляцыя зжэрла ўклады і зберажэнні. На ашчаднай кніжцы Шамякіна «згарэлі» 90 тысяч савецкіх рублёў. Для параўнання: сярэдні заробак

**У Мінску гаварылі, што ў Марыі Філатаўны ў духоўцы ўвесь час смажыліся чатыры курыцы, бо Шамякін мог у любы момант заявіцца з гасцямі**



АНДРЭЙ СКУРКО

**Працоўны стол Івана Шамякіна.** Дачка пісьменніка зберагла атмасферу бацькавага кабінета.

у 1985-м у гарадах складаў 200 рублёў, самая дарагая машына, «Волга», ад 1983 года каштавала 11 200 рублёў.

Народны пісьменнік, які за 45 гадоў прывык да клопату і падтрымкі з боку дзяржавы, быў дэзарыентаваны. З аднаго боку, растылі матэрыяльныя даброты, з другога — была зламаная зразумелая схема ўзаемадзеяння з уладай.

## Кнігу ўспамінаў пра жонку камуніст Шамякін назваў па-евангельску: «Слаўся, Марыя!»

У савецкі час Броўка, Танк, Шамякін ішлі ў ЦК і знаходзілі ўправу на чыноўнікаў, якія душылі беларускую мову: «Нешта выбівалі: выдавецтвы, часопісы, пастанову аб кніжным гандлі, крытыку міністраў асветы, культуры, "Белспажыўсаюза", а тады яны баяліся крытыкі зверху — з ЦК. Ва ўсялякім разе пры, безумоўна, ненармальным становішчы з мовай ніхто з нас не баяўся, што заўтра не выйдуць "Полымя", "Нёман", "Маладосць". Гэта было б ЧП, за гэта паляцелі б галовы. А цяпер пагроза такая вісіць і нікому няма справы...»

Разгубленасць, песімізм, злосць чытаюцца ў апошніх яго творах — «Сатанінскі тур», «Падзенне», «Губернатар».

Адзін раз на пасяджэнне рады Саюза пісьменнікаў стары Шамякін прыйшоў з авоськай, поўнай пачкаў банкнот: забраў якісьці ганарар. Так і сядзеў, паклаўшы на калені купу абясцэненых грошай. У дзённіках ён успамінаў, як пасля вайны яны з жонкай, настаўнік і фельчарка, ад вялікай беднасці купілі казу. Тое самае здарылася ў 1990-я: «З казы пачыналі — казой канчаем». ▶

ФОТА З АСАБІСТАГА АРХІВА АЛЕСІ ШАМЯКІНАЙ



З жонкай Марыяй Філатаўнай **і ўнучкай Марыйкай.**

### Марыя Філатаўна была такім жа практычным чалавекам, як і сам Шамякін

Яна паехала з мужам на з'езд КПСС у Маскву і, пакуль ён падымаў мандат у зале, затаварвалася ў спецмагазіне для дэпутатаў і адпраўляла набыткі ў Мінск пасылкамі — у руках жа не павалачэш.

«Праз тры тыдні пасля свята і траўмы з загіпсаванай рукой я паехаў на XXVI з'езд КПСС. Паехаў з Машай, мне дазволілі, без яе я не мог яшчэ апранууца, завязаць гальштук. З'езд цягнуўся дзён дзевяць, здаецца, і я дагэтуль помню, як пакутліва сядзець там было — з рукой, якая ныла, балела, слухаць алілуйшчыну Брэжневу. І вось ён перада мной — "вождь" "вялікі і мудры". А ў сапраўднасці — стары хворы чалавек. Чытаў даклад — пыкаў, запінаўся, глытаў словы, абліваўся потам. Па-людску мне шкада было Леаніда Ільіча: чалавеча, на храна табе гэта трэба? Пасля першага перапынку Брэжнеў зусім аслабеў, хістаўся за трыбунай, праз паўгадзіны папрасіў новы перапынак. У кулуарах абмяркоўвалі, хто прадоўжыць даклад. Не. Зноў Брэжнеў. І як ажыў. Атрымаў допінг. Скончыў даклад на высокай ноце, бадзёра. Дэталь. Побач са мной, на крайнім ад прахода месцы, сядзеў народны мастак СССР Налбандзян і ўвесь час рысаваў Брэжнева, эскізаў 20 зрабіў. Стараўся! Пакутліва мне было слухаць нудныя прамовы. А ў гасцініцы сумавала Маша. Праўда, невялікі занятак у яе быў, прыемны. У гасцініцы быў арганізаваны для дэлегатаў гандаль сувенірамі і прадуктамі. Тавары пераважна імпартныя. Прадукты, якія там прадаваліся, адменныя. І ўсё без нацэнак, у найпрыгажэйшай сувенірнай тары. У фае — паштовае аддзяленне з незвычайнай для нас арганізацыяй прыёму пасылак: спецыяльныя фанерныя каробкі, клейкая лента. Упакоўка — тры-чатыры хвіліны. Канвеер».

«У першы дзень Маша паведаміла мне, што адаслала ажно чатыры пасылкі. Я жахнуўся:

— Ды ты што! Што пра нас скажуць?

— Адна дама ў сабалях, з Сібіры, на поўны голас хвалілася, што адаслала дваццаць пасылак. Не баіцца, што скажуць».

«Колькі было падману, фальшу! Было? А цяпер няма? Тады куплялі прадуктовымі пасылкамі. Цяпер прыхільнікаў ладу купляюць за фірмы, заводы, магазіны, катэджы. Горка пра гэта думаць».

▶ Песімізм Шамякіна, аднак, не пераходзіў у беспрасвецце, ён быў вялікі жыццялюб: «Баюся піць, але выпіць хочацца. Гэтага патрабуе душэўны стан, настрой. Жыць хочацца! Жыццё не абрыдла. Я люблю яго, жыццё. Сядзелі на ўрачыстым вечары 70-годдзя БДУ з Іванам Чыгрынавым. Закранулі тэму, што рабуюць кватэры. Я кажу: "Пісталет трэба мець". Іван адказвае: "Не хачу пісталета... Яшчэ застрэлішся". Скаланула мяне. Няўжо чалавек думае пра такі канец? У мяне вось ён, пісталет, пад рукой, у шуфлядзе стала. Але ў мяне ніколі не з'явілася гэтая страшная думка — ні ў якія хвіліны роспачы, гора, болю».

Пасля смерці жонкі той узнагародны пісталет Шамякін здаў.

## «А які гэта цуд — армянскія марачныя каньякі!»

### «Пабеда» і «Волга»

Атрымаўшы ў 1951-м Сталінскую прэмію, 25 тысяч рублёў за «Глыбокую плынь», Шамякін купіў аўтамабіль «Пабеда». Правоў не меў, і амаль тры гады сям'я трымала кіроўцу, які бессаромна рабаваў даверлівага празаіка, вымагаючы грошай на ліквідацыю нейкіх міфічных паломак у новым аўто. Нажыўся так, што за кароткі час збудаваў сабе дом, пакуль Іван Пятровіч сам не атрымаў правы. Здаць было няцяжка: экзаменатаркай трапілася гарачая прыхільніца яго творчасці. Гаварылі на экзамене пра «Глыбокую плынь».

На машыне ён з сям'ёй ездзіў аж у Адэсу ў Дом адпачынку. Таксама, жывучы летам у Церусе, дзе з прадуктамі была «не лепшая сітуацыя», Шамякіны рэгулярна ездзілі закупацца ў Кіеў, за 240 кіламетраў: «Жыць у Мінску прывыклі багата; дзецям Маша ні ў чым не адмаўляла».

З паркоўкай у амаль безмашынным Мінску тады праблем не было, дый гаражы ЦК пад бокам — на месцы цяперашняга кінатэатра «Піянер».

Дабіў шамякінскую «Пабеду» Усевалад Краўчанка, пісьменнік, які пасля загадкава загінуў у Францыі, выкінуўшыся з акна гатэля. Краўчанка пазычыў машыну для паездкі ў Калінкавіцкі раён і наўмысна, падазраваў Шамякін, з нейкай зайздрасці да яго творчых поспехаў, раздзёўб яе на тагачасных дарогах...

У 1957-м Шамякін набывае «Волгу» з пробнай партыі — першую ў Беларусі. Савецкія лімузіны тады толькі пачалі выпускаць, нават у парку Саўміна БССР іх яшчэ не было. Новая «Волга» ў 1957 каштавала 17 400 рублёў пры сярэднім заробку 750.

### Гулялі казакі

«А які гэта цуд — армянскія марачныя каньякі!» — п'янства савецкага часу Шамякін апісвае як неад'емны складнік жыцця. Суседзі ўспаміналі, што ў Марыі Філатаўны ў духоўцы ўвесь час смажыліся чатыры курыцы, бо Іван мог у любы момант заявіцца з гасцямі.

Штонядзелі прыходзіў Макаёнак — жонка ўпікала, што ён ужо зрабіўся для Івана раднейшым за яе. Але, да гонару Шамякіна, суседзі па доме ні разу не бачылі, каб ён хістаўся ці валяўся.




**Андрэй Макаёнак** быў найлепшым сябрам Шамякіна. І не менш багатым чалавекам: драматургі атрымлівалі касмічныя ганарары з кожнага выкананага спектакля. Траціць грошы, акрамя як на рэстараны, асабліва не было на што. Выбар тавараў у СССР быў абмежаваны. А будаваць катэджы ў камуністаў было не прынята, лічылася нясціпласцю, за гэта можна было і «партбілет на стол пакласці».

За ўменне піць яго раз пахваліў рэдактар «Новага міра» Аляксандр Твардоўскі. Шамякін успамінаў страшную п'янку з ім у маскоўскім гатэлі. Твардоўскі заліваў трыма бутэлькамі гарэлкі сваё сумленне: у той час шальмавалі Барыса Пастэрнака, і Твардоўскі ездзіў збіраць подпісы пад асуджэннем рамана «Доктар Жывага».

А на 60-гадовы юбілей, які супаў з прысваеннем звання Героя Сацыялістычнай Працы, Шамякін пасля банкету зламаў руку. Ці то быў выпіўшы, ці то не — у розных кнігах успамінаў апісваецца па-рознаму.

Чаму ў СССР гэтак піў народ і яго эліта? Можа, ад страшэннай нудоты і шэрасці жыцця? Заходнікі, трапляючы ў Маскву, адзначалі, што заняцца тут у вольны час проста няма чым. На тое самае, дарэчы, скардзіўся ў Мінску Лі Харві Освальд.

Бывалі і светлыя застоллі. Дачка празаіка Івана Навуменкі, Валерыя ▶



**Эксклюзіўны падарунак ад землякоў: сервіз з ініцыяламі «ІПШ»**, зроблены на Добрушскай фарфоравай фабрыцы на 60-годдзе Шамякіна.

**Іван Шамякін** нарадзіўся 30 студзеня 1921 года ў вёсцы Карма Добрушскага раёна Гомельскай вобласці.
Перад вайной скончыў Гомельскі тэхнікум будаўнічых матэрыялаў, пасля вайны — Гомельскі педагагічны інстытут (завочна) і Рэспубліканскую партыйную школу пры ЦК КПБ.
Падчас вайны ваяваў у зенітнай артылерыі пад Мурманскам, удзельнічаў у вызваленні Польшчы і ў баях на Одэры.
Працаваў настаўнікам на Гомельшчыне, рэдактарам у Беларускім дзяржаўным выдавецтве.
З сярэдзіны 1950-х быў адным з кіраўнікоў Саюза пісьменнікаў БССР, у 1976–1980 яго ўзначальваў. У 1980–1990 галоўны рэдактар выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі».
У 1971–1985 быў старшынёй Вярхоўнага Савета БССР (цырыманіяльная пасада, якая зводзілася да вядзення сесій).
Аўтар шматлікіх аповесцяў, раманаў і апавяданняў, многія з ягоных твораў сталі ў савецкі час сапраўднымі бестселерамі. Сярод іх — раманы «Атланты і карыятыды», «Вазьму твой боль», «Сэрца на далоні», пенталогія «Трывожнае шчасце», аповесці «Гандлярка і паэт» і «Слаўся, Марыя!».
Адзін з найбольш чытаных пісьменнікаў за ўсю гісторыю беларускай літаратуры.
Народны пісьменнік Беларусі, лаўрэат шматлікіх савецкіх літаратурных прэмій як на беларускім, так і на агульнасаюзным узроўні. Лаўрэат Сталінскай прэміі (1951) — атрымаў яе 30-гадовым. Герой Сацыялістычнай Працы (1981), акадэмік.
З жонкай, зямлячкай Марыяй Філатаўнай, ажаніўся яшчэ да вайны. Яны выгадавалі трох дачок і сына.
Памёр 14 кастрычніка 2004-га. Пахаваны на Усходніх могілках Мінска.

СА ЗБОРАЎ НАЦЫЯНАЛЬНАГА МАСТАЦКАГА МУЗЕЯ БЕЛАРУСІ



Нінэль Шчасная. **У снежныя зімы. Партрэт пісьменніка Івана Шамякіна.**

**Выдавецтва «Кнігазбор»** — адно з найбуйнейшых выдавецтваў Беларусі. Заснавана ў сакавіку 1995 года выбітнымі беларускімі пісьменнікамі, навукоўцамі і дзеячамі культуры. Першай мэтай яго было выданне шматтомнай кніжнай серыі класікі беларускай літаратуры і літаратуры пра Беларусь пад аднайменнай назвай. Ініцыятарам праекта і галоўным рэдактарам з'яўляецца пісьменнік Кастусь Цвірка. На сёння выдадзена 97 грунтоўных тамоў.

Апроч кніг праекта «Беларускі кнігазбор», выдавецтва выпускае і іншыя кнігі літаратурна-мастацкага, навукова-папулярнага, даведачнага і іншых кірункаў. Штогод выдаецца каля 100 найменняў кніг.

Выдавецтва «Кнігазбор» мае найцяснейшыя партнёрскія адносіны з Саюзам беларускіх пісьменнікаў (СБП) і Згуртаваннем беларусаў свету «Бацькаўшчына».




Сумесна з СБП «Кнігазбор» выдае кніжную серыю сучаснай беларускай літаратуры «Кнігарня пісьменніка», у якой пабачылі свет больш за 100 кніг. Таксама сумесна выдаюцца серыя твораў маладых беларускіх пісьменнікаў «Дэбют» і серыя літаратуры для дзетак «Каляровы ровар».

Са Згуртаваннем беларусаў свету «Бацькаўшчына» «Кнігазбор» выдае кніжную серыю пра беларусаў замежжа «Бібліятэка Бацькаўшчыны», у якой пабачылі свет больш за 30 кніг, а таксама кніжны праект «Людзі Беларусі».

Кнігі, падрыхтаваныя і выдадзеныя ў «Кнігазборы», штогод прызнаюцца найлепшымі кнігамі Беларусі ў розных намінацыях, становяцца пераможцамі літаратурных прэмій.

Выданні выдавецтва «Кнігазбор» даступныя ў большасці кнігарняў Беларусі.



З АСАБІСТАГА АРХІВА ЛАРЫСЫ МЕЛЕЖ

Злева направа: **Іван Шамякін, Іван Мележ, Пятро Машэраў.**

▶ Іванаўна, успамінае такі эпізод з маленства: «Пачатак лютага 1964-га, мне пяць год. Раптам знікла кудысьці мая мама. Пасля мне сказалі, што яна ў раддоме, нарадзіўся мой брат Павел. Мы толькі пераехалі ў кватэру на Маркса, бацька паклікаў суседзяў. З мэблі на кухні былі толькі стол і табурэткі. І вось чатыры Іваны — Ян Скрыган, Іван Шамякін, Янка Брыль і мой тата — сядзелі да дзесяці гадзін раніцы, закусвалі салёнымі сыраежкамі і гаварылі-гаварылі...» Кожнаму было што ўспомніць: вайна, фронт, палон, ГУЛАГ — у выпадку Скрыгана.

Шамякін, які прыйшоў у літаратуру пасля вайны, быў па-за даўнімі рахункамі старэйшых пісьменнікаў. Ён быў яшчэ малы ў 1930-я, калі адны пісьменнікі, ратуючыся, даносілі на іншых — учорашніх таварышаў. І меў роўныя адносіны з Броўкам і Крапівой, Скрыганам і Бярозкіным.

Чаму ў СССР гэтак піў народ і яго эліта? Можа, ад страшэннай нудоты і шэрасці жыцця? Заходнікі, трапляючы ў Маскву, адзначалі, што заняцца тут у вольны час проста няма чым. Тое самае, дарэчы, пісаў пра Мінск Лі Харві Освальд.

За чаркай, успамінаў ён, якой толькі крамолы яны з сябрамі не гаварылі. І не баяліся: лічылі, што ў вайну заслужылі сабе права голасу. Праўда, у размовах з чужымі Шамякін быў заўжды асцярожны.

### Зглумленыя таленты

«Вялізнае злачынства савецкага ладу перад беларускай культурай — ён зглуміў таленты. Колькі пісалі на патрэбу дня тыя ж Куляшоў, Броўка! Колькі славілі камуністаў!» — кажа гісторык Анатоль Сідарэвіч. Якуб Колас называў гэтае славаслоўе, што пераходзіла межы прыстойнасці і густу, «брындушкамі». Цэлыя тамы надзённага-аднадзённага сёння маральна састарэлі.

Шамякін ганарыўся, што ў напісаных ім 10–12 тамах няма і абзаца «панегірчыкаў» ды «сіропу», які лілі партыі некаторыя яго калегі.

Але ўсё ж многія выдатна закручаныя фабулы Шамякіна не ўспрымаюцца сёння, бо цяжка прадрацца скрозь савецка-партыйную рэчаіснасць.

Шамякін да апошніх дзён жыцця заставаўся верным камуністам, хадзіў, пакуль ногі насілі, на мітынгі 7 лістапада, хваліў публіцыстыку Прахханава, лаяў апошнімі словамі Гарбачова. Ён шчыра не разумеў, што СССР развалілі зусім не Гарбачоў і не Захад, ён сам упаў пад уласнымі грахамі і маразмам.

І разам з тым Шамякін быў беларускім патрыётам да мозгу касцей. Машэраву, якога ён абагаўляў, не мог дараваць русіфікацыі. (Пятро Міронавіч, які мог на памяць чытаць «Сказ пра Лысую гару», нават з народнымі пісьменнікамі баяўся гаварыць па-беларуску.)

У 1995-м Шамякін — як жа цяжка было гэтаму чалавеку ісці супраць улады — асудзіў рэферэндум аб мове.

**За чаркай чаго толькі не гаварылі! І не баяліся: лічылі, што ў вайну заслужылі сабе права голасу**

І такіх нацыянал-камуністаў, як Шамякін, было нямала.

Да захавання нацыі і беларускай незалежнасці Іван Шамякін меў непасрэднае дачыненне. Сама беларуская мова выжыла ў другой палове XX стагоддзя дзякуючы масавай літаратуры. Так што ў жарце пра хатніх гаспадынь і тэлесерыял «Трывожнае шчасце» доля праўды ёсць. ◆



У апошнія гады жыцця камуніст Шамякін звярнуўся да веры. **Асабістая ікона-складзень Шамякіна.**

# «Дзякуй за гэты цуд»

* * *

У мае рукі цудам трапіў першы нумар часопіса «Наша гісторыя». Каб выказаць сваю радасць з гэтай нагоды, у мяне не хопіць слоў, таму скажу коратка: так трымаць!!!

**Валянцін Стэх, Вільня (Літва)**

* * *

Шаноўныя рэдактары й выдаўцы «Нашай гісторыі»! З вялікім зацікаўленнем перагледзеў і крыху прачытаў першы нумар часопіса «Наша гісторыя». Нельга было ўстрымацца ад захаплення якаснасцю выдання: ілюстрацыямі, графікай, падборам і падачай матэрыялу, тэматычнай разнастайнасцю, далучэннем да замежнай тэматыкі, смелым паглядам на сваю мінуўшчыну. Вялікая праца й вялікая ўдача! Буду чытаць, цешыцца ды чакаць працягу. Ад душы віншую й шчыра дзякую за высілак, накіраваны ў лепшую будучыню.

**Доктар гісторыі Янка Запруднік, Нью-Джэрсі (ЗША)**






**Усім, хто прачытаў #1 часопіса «Наша гісторыя» ўвесь, ад вокладкі да вокладкі, прыз — пячэнькі**, якія згатавала паводле рэцэпта са старонкі 83 вышэйзгаданага выдання! Самавываз з Лімерыка.

**Алеся Федаровіч, Лімерык (Ірландыя)**

* * *

Дзякуем за выдатную ідэю выдання «Нашай гісторыі» і яе бліскучую рэалізацыю! Усе артыкулы цікавыя, тэматыка разнастайная. Што датычыцца тэхнічных прапаноў, то чытаць было б прыемней, калі быў бы трошкі большы шрыфт. Можа быць, было б карысным зрабіць рубрыку накшталт «Гістарычнай геаграфіі Беларусі», дзе можна даваць слова краязнаўцам. Да артыкулаў прыкладаць маленькую мапу падарожжа і фота асноўных аб'ектаў — гэта было б карысна і школьнікам. Было б, магчыма, карысным пісаць пра вядомых военачальнікаў, вучоных, зладзеяў, палітыкаў, аферыстаў, герояў працы і г. д., звязаных з нашай краінай (штосьці накшталт «Жыцця незвычайных людзей»).

**Уладзіслаў Ермаловіч, Мінск**

**Ад рэдактара.** Каб шрыфт стаў трохі большы, многія чытачы просяць. Пачынаючы ад гэтага нумара, ідзём насустрач гэтым просьбам.

* * *

«НГ» вярнула радасць друкаванага слова. І азарт пошуку выдання ў саюздрукаўскіх шапіках.

**Анатоль Івашчанка, Мінск**

* * *

Вялікі вам дзякуй за гэты цуд, які вы зрабілі! З задавальненнем чытаю ваш першы нумар і дакладна гатова аформіць рэгулярную падпіску на паштовую скрыню.

**Карына Сітнік**

**Ад рэдактара.** Падпісацца можна на 2019 год. Падпісны індэкс — **00469**.




«Наша гісторыя» трапіла ў рукі **«Паляўнічых за мінулым» са Слабадской школы,** што на Лепельшчыне.

**Валерый Тухта**

## «Прачытала пра Міхлю Сінаеўну — і слёзы пацяклі. Гэта ж мая родная цётка!»

Прачытала пра Міхлю Сінаеўну — і слёзы пацяклі. Гэта ж мая родная цётка Маня! [«Міхля Сінаеўна і яе кухня», НГ №1].
Але ж адна недакладнасць ёсць. Пра абутак. Гэта я неяк у савецкія «дэфіцытныя часы набыла Элі такія саба, і мы якраз пайшлі на дзень народзінаў да дзядзькі Валерыя. Баба Маня як убачыла гэты туфлікі — вочы загарэліся: «Я памераю!» Надзела, прайшлася... Уздыхнула: «Вось калі б пяць гадоў таму, я сабе такія ж набыла б...» А было ёй 75. Я ў 54 пра абутак на абцасах забылася, а яна... І тады ж распавядала: «Я як ішла па вуліцы, дык толькі шэпт: “Ножкі! Ножкі!”»

**Аляксандра Лабзова, Мінск**

## Некалькі заўваг да артыкула «Стараверы і злябы»

**Хочам падзякаваць вам за некалькі вечароў захапляльнага чытання №1 за 2018. Мы ў Рызе таксама адчулі дэфіцыт выдання і будзем адсочваць новыя нумары! Дазвольце зрабіць некалькі заўваг да артыкула «Стараверы і злябы».**

1. «Слова алілуя вымаўляюць два разы...»
Насамрэч, у паморцаў падчас малітвы слова «алілуя» вымаўляецца наступным чынам: «Алілуя, Алілуя, Слава Табе Божа». «Слава Табе Божа» — гэта і ёсць «алілуя». Таму падчас малітвы мы славім Бога Нашага ўсё адно тры разы.

2. «Стараверы моляцца “о богохранимой стране нашей Российской...”»
Ад дзяцінства да пачатку 2017 года я наведваў маленную ў Відзах і добра ведаю суполкі Браслаўскага, Мёрскага, Шаркаўшчынскага і Пастаўскага раёнаў Беларусі. Мне невядома, каб стараверы-паморцы маліліся аб «краіне нашае Расейскае». Таксама з цяжкасцю магу ўявіць, каб гомельскія і веткаўскія «папоўцы» маліліся за Расейскую дзяржаву.
Мы не молімся за якую-небудзь уладу, акрамя ўлады духоўнае, то бок Божае.

3. «Для заключэння шлюбу ў часткі стараверaў...»
Наколькі мне вядома, у федасееўцаў насамрэч шлюб не прызнаецца ў прынцыпе. Што ж да нашай паморскай веткі, дык прынята браць блаславенне не толькі ў бацькоў, але таксама і ў настаўніка абшчыны, альбо як у Рызе — у Рады. Таксама не заўважана ўвогуле, што да апошняга часу не давалася блаславення на шлюб з іншаверцамі, уключна нававерцамі (праваслаўнымі новага абраду).

4. «У паморцаў жанчынам афіцыйна дазволена выконваць функцыі духоўных лідараў».
Жанчынам у паморцаў не дазволена афіцыйна выконваць функцыі духоўных лідараў (настаўнікаў). Пры гэтым сведчым, што напраўду нават у месцах найбольш кампактнага пражывання стараверaў (прыкладам Латгалія — усходняя правінцыя Латвіі) так ёсць, што пры адсутнасці мужчыны-настаўніка жанчыны выконвалі ці выконваюць абрады ў маленных. Але ж — падкрэслю — афіцыйна не дазволена і Рада абшчын іх не рукапакладае.

Мы дужа просім вас не спыняцца на першым нумары. Хай наступныя будуць яшчэ больш цікавымі і тоўстымі! Хочам атрымліваць ваш часопіс рэгулярна, будзем замаўляць па пяць асобнікаў, каб таксама перадаваць іх у беларускія школкі, не ведаем, ці будзе гэтым займацца мясцовае беларускае таварыства.

**Аляксандр Міхайлаў, прыход Рыжскай Грабеншчыкоўскай старавераскай абшчыны**

## «Забыліся могілкі ў Шароеўцы»

**Прашу перадаць крыўду маіх землякоў кандыдату гістарычных навук Дзянісу Лісейчыкаву, аўтару артыкула ў №1 пра надмагільныя камяні.**

Аўтар напісаў, што каменныя надмагіллі можна сустрэць «у кожным кутку ВКЛ — ад Вільні да Магілёва». А павінен быў напісаць як найменш «ад Вільні да Крычава».
Бо чаму гэта навуковец павыкідваў усіх, хто на ўсход далей Магілёва, з ВКЛ і старадаўняй беларускай гісторыі?
Калі на той жа Чэрыкаўшчыне надмагільныя камяні ды з выбітымі на іх крыжамі і надпісамі захаваліся ажно на двух старадаўніх вясковых могілках.
І па каменны некропаль не абавязкова ехаць пад тыя Ганцавічы, куды пасылае аўтар. Бо не нашмат меншы на Чэрыкаўшчыне ёсць, на могілках вёскі Шароеўка. Да якіх і прайсці якіх метраў 300 лясной дарогай ад шашы Магілёў – Чэрыкаў. А можна нават і пад'ехаць маленькім кругам вакол лесу — дарогай ад шашы, якой цяпер возяць нябожчыкаў. Адно толькі, што, у адрозненне ад ганцавіцкага, на некропалі шароеўскіх могілак камянёў не «сотні» (у чым, дарэчы, нават гледзячы на здымак у часопісе, усё ж ёсць сумнеў), а некалькі дзясяткаў.
І не так гэты некропаль глядзіцца, бо паміж надмагільнымі камянямі нямала пазнейшых пахаванняў, ды зрэдку стаяць дрэвы.
Але тым не менш.

**Аляксандр Фралоў, Жодзіна (ураджэнец вёскі Шароеўка)**

**Ад аўтара.** Паважаны спадар Аляксандр! Вялікі дзякуй за ўвагу да артыкула. Крыўду не трымайце — аўтар не можа ведаць пра ўсе захаваныя старажытныя могілкі ў Беларусі. Ваша інфармацыя пра старажытныя могілкі ў Шароеўцы вельмі цікавая і карысная. Можа быць, у вас будзе магчымасць выслаць некалькі фота найбольш цікавых камянёў з надпісамі? Дзякуй за цікаўнасць і неабыякавасць.

**Дзяніс Лісейчыкаў**




Часопіс #нашагісторыя паехаў са мной у #Berlin! Файна, што ў нас з'явілася такое цікавае выданне. **Асабліва грэе душу, што другі нумар ужо чакае мяне дома.**

**Яўген Меркіс, Гомель**

# Як пад Драгічынам схавалі гармату ад вывазу ў Расію

**У «Нашай гісторыі» №1 я быў прыемна здзіўлены артыкулам пра гісторыю Жаберскага замка, які быў знішчаны падчас Паўночнай вайны. Да нашага часу ад яго амаль нічога не захавалася, акрамя магутных валоў на беразе ракі Ясельды, якія працягваюць знішчацца часам і людзьмі. Але існуе яшчэ адзін цікавы артэфакт, звязаны з мінулым замка Вішнявецкіх.**

У пачатку XX стагоддзя мясцовыя рыбакі выцягнулі з Ясельды некалькі гармат, якія былі канфіскаваныя мясцовымі царскімі ўладамі і мусілі быць знішчаныя. Калі гарматы былі на станцыі Драгічын, іх заўважыў Антоній Віславух — уласнік маёнтка Пырковічы (цяпер вёска Пярковічы Драгічынскага раёна Брэсцкай вобласці). Антоній паходзіў са славутага шляхецкага роду, быў шчырым патрыётам Палесся і былой Рэчы Паспалітай. Ягоны бацька быў у атрадзе Рамуальда Траўгута падчас паўстання 1863–1864 гадоў, а маці сябравала з Элізай Ажэшка. Антоній быў прафесарам класічнай філалогіі, выкладчыкам Брэсцкай мужчынскай гімназіі, дэпутатам сейма міжваеннай Польшчы. Ён бацька прафесара-праўніка Севярына Віславуха і палескага пісьменніка Францішка Віславуха.

**Антоній Ізыдар Віславух** (1864–1940).

Пабачыўшы гарматы, Антоній Віславух вырашыў дзейнічаць на свой страх і рызыку, нягледзячы на тое, што за такую «аперацыю» можна было атрымаць нават дэпартацыю ў Сібір. Абставіны выкрадання гарматы дакладна не вядомыя, але ёсць меркаванне, што Віславуху ў гэтым дапамагалі мясцовыя яўрэі з мястэчка Хомск. Адну з гармат, якая добра захавалася і была прыгожа гравіраваная, схавалі ў маёнтку Пырковічы ў лямусе недалёка ад дома, пад аўсом. Там яна ляжала некалькі год.



**Дом Віславухаў** у Пярковічах, пабудаваны ў 1805 годзе.

Пачалася Першая сусветная вайна. Мясцовае праваслаўнае насельніцтва, падманутае прапагандай і выгнанае са сваіх хат царскімі войскамі, кідае родныя мясціны і адпраўляецца ў бежанцы ўглыб Расіі. Большасць з іх ужо ніколі не вернецца... Адыходзячы, расійскае войска знішчае ўсе вёскі, папросту паліць іх. Віславухі вырашылі выратаваць гармату, баючыся, што лямус, у якім яна схаваная, згарыць. Ноччу, пад дажджом, нягледзячы на наяўнасць войска ў маёнтку, прафесар з сынамі закопваюць гармату. Гэта было нялёгка, бо яна важыла ажно 33 пуды — больш за 540 кг!



**Аўтар артыкула разам з нашчадкамі Антонія Віславуха** — Войцехам і Янай Віславухамі.

Пасля адыходу расійскіх войскаў прыйшлі немцы. У маёнтку размясціўся нямецкі штаб пад кіраўніцтвам маёра Брунса. Адносіны паміж Віславухамі і Брунсам былі прыязныя і даверлівыя. Але нехта даведаўся пра таямніцу і данёс маёру, што Віславухі хаваюць гармату (не ведаючы, якая гэта гармата). Маёр вырашыў дапытаць Антонія Віславуха, думаючы, што гэта сучасная зброя. Прафесар усё падрабязна распавёў пра гармату і яе гісторыю, і маёр вырашыў нават не адкопваць гэтую рэліквію, разумеючы яе гістарычную каштоўнасць.
Гармата праляжала ў зямлі да канца Першай сусветнай вайны. Праляжала там і бальшавіцка-польскую вайну. Калі надышлі мірныя часы, Віславухі перадалі гармату пры дапамозе славутага польскага генерала і палітыка Уладзіслава Сікорскага ў Нацыянальны музей у Варшаве. Нягледзячы на руйнаванне горада падчас Варшаўскага паўстання 1944 года, гармата не была пашкоджаная.
У пачатку студзеня 2018 года я вырашыў адшукаць «нашу» жаберскую гармату ў Варшаве. Мой пошук скончыўся поспехам. Зараз яна захоўваецца ва ўнутраным дворыку Музея Войска Польскага, дзе кожны можа яе, гэтую памятку з мінулых часоў, убачыць.
Вось такі дэтэктыўны і шчаслівы лёс напаткаў гармату з Жаберскага замка.

**Аляксандр Квачук,**
**доктар-інтэрн, краязнавец, Брэст**

# ЖЫЦЦЁ І СМЕРЦЬ на мяжы з Рэйхам

**Юнак пайшоў працаваць на чыгунку па заданні партызан, цудам выйшаў з турмы СД, а загінуў у дзень адыходу немцаў з-за памылкі ўласнага бацькі. У страшныя гады вайны людзям цяжка адрозніць праўду ад прапаганды, шчырасць — ад правакацыі, сваіх — ад чужых. Як нечакана перапляталіся лёсы беларускіх партызан, нямецкіх салдат і калабарацыяністаў, піша гісторык Антон Рудак.**



МАЛЮНАК РАМАНА ПЛАВІНСКАГА

### Улада зноў мяняецца

У 1939 годзе Леаніду Якубеню з хутара Медухава на Зэльвеншчыне было 16 гадоў. Свой дзённік Лёня вырашыў пачаць у дзень нападу Германіі на Савецкі Саюз. Ад 22 чэрвеня 1941 года ён запісваў тое, што бачыў: разгром савецкіх аэрадромаў у першыя ж дні вайны, бязладнае адступленне Чырвонай Арміі, марадзёрства мясцовых жыхароў, зверствы нацыстаў...

Немцы так падзялілі Беларусь, што Медухава адносілася да Генеральнай акругі Беларусь, а Зэльва была ўжо далучаная да Рэйху. На тэрыторыі Рэйху акупацыйны рэжым быў не такім жорсткім. А вось за яго межамі немцы абвясцілі 13-гадзінны працоўны дзень, і Лёня бедаваў: «Выдадзены немцамі рабочы рэгулямін яшчэ больш жорсткі за савецкі — даходзяць справы да расстрэлу».

### Смяротная калекцыя

Да 1939 года Лёня павучыўся ў польскай школе, а да нападу немцаў на СССР — і ў савецкай. Юнак вырас веруючым, таму балюча перажываў бязвер'е, якое запанавала з прыходам Саветаў, а пасля і нацыстаў. Менавіта вера штурхала сумленнага юнака на барацьбу з нацыстамі.



**Перакладчык гебітскамісарыята, а на самай справе агент падполля Юрый Пыталь** (крайні справа) перакладае прамову гебітскамісара Эрэна на першамайскім мітынгу ў Слоніме. 1943 год.

ФОТА З АРХІВА БАРЫСА ДАНІЛЮКА (БЕЛАРУСКІ РЭЗЫСТАНС, № 1, 2011).

На пачатку 1942-га Лёня занатаваў: «Сёння страляў першы раз з нагана... Зброю расцягваюць пастухі, у мяне сцягнулі ўжо дзве вінтоўкі». Рызыка была відавочнай: «Расстралялі Рудога Колю за рэвальвер і яшчэ двух чалавек... забілі гумамі [гумовымі дубінкамі]... Хаваць пакуль не дазволілі». А былі ж і такія, хто, узяўшы ў рукі зброю, выкарыстоўваў яе для рабунку: «Двое “партызан” адабралі пазаўчора ў Ціхана гадзіннік і 19 марак».

Але Лёня не спыняў збіраць сваю «смяротную», ва ўсіх сэнсах, калекцыю — у пэўны момант яна налічвала некалькі кулямётаў (у тым ліку адзін станковы, максім) і некалькі дзясяткаў вінтовак, не кажучы пра патроны, якія збіраліся скрынямі. Зброю пара было пускаць у ход, і Леанід зрабіўся сувязным брыгады імя Ракасоўскага, якая дзейнічала ў навакольных лясах.

Пастраляць па ворагах яму, аднак, так і не давялося. Па заданні партызанаў Леанід Якубеня ўладкаваўся на чыгунку пуцявым абходчыкам на раз'езд Пляцянічы. Партызанам з Лёневай дапамогай стала лягчэй падабрацца да чыгункі, а часам ён і сам, не выклікаючы падазрэнняў, пераносіў і закладаў міны. Рызыка была смяротная: сярод чыгуначнікаў было поўна нямецкіх агентаў і правакатараў. Прычым хлопец адзначаў, што большасць з іх складалі не мясцовыя, а «ўсходнікі».

**Бывала, што Лёню даводзілася закладаць міну, а потым рамантаваць рэйкі пасля яе выбуху**

Часта бывала, што Лёню даводзілася перш перадаваць ці закладаць міну, а потым рамантаваць рэйкі пасля яе выбуху. Але аднойчы ўсё-такі хтосьці з калегаў данёс, што бачыў Леаніда на чыгунцы з партызанамі. Хлопца кінулі ў турму — але яму ўдалося выкруціцца.

### «Чалавек жыве як муха»

Насіла Лёню перадачы і дапамагала збіраць зброю малодшая сястра, Міла. У 1939-м годзе ёй было толькі 12 гадоў, таму савецкі светапогляд больш паўплываў на дзяўчынку, чым на яе брата. Прынамсі, у Бога Міла ўжо не верыла. Жыццё сваё, таксама як і брат, яна апісвала ў дзённіку з першага дня вайны: «Пачынаю пісаць гэты дзённік з 22 чэрвеня 1941 года, бо ў гэты дзень пачалася савецка-нямецкая вайна. Час цяпер вельмі цікавы. Чалавек жыве як муха. Сёння жыве, заўтра не».

І тут жа Міла апісвае бясконцы рух на ўсход эшалонаў, запоўненых людзьмі, якога не спыніў нават пачатак вайны: «Вязуць людзей, асуджаных на перасяленне ў СССР».

Дзяўчынка перажывае, як бы праз вайну не прапусціць навучальны год. «Людзі кажуць, што як Польшча прастаяла 21 год, Саветы — 21 месяц, а немцы будуць 21 тыдзень».

Жыць падчас вайны цяжка, і час цягнецца марудна: «Чаму, чаму няма мне якіх 5–6 гадоў, пра што б мне тады думаць». А ў лістападзе 1941-га пачаліся дажджы з градам, гнулі дрэвы да зямлі, і Міла занатоўвае: «Старыя прадказваюць, што падзенне дрэваў — гэта прыкмета строгай вайны. Перад “Першай імперыялістычнай” таксама так было».

### Слонімскі вальс

Дзяўчынка з абурэннем апісвае знішчэнне слонімскага гета — а яшчэ больш узрушаная тым, што суседзі паехалі туды і нахапалі дабра, якое засталося ад яўрэяў.

Калі ў ваколіцах праходзіла карная акцыя СС, Лёня сядзеў у турме СД у Слоніме. Уратаваў Лёню ад расстрэлу выпадковы знаёмы, нямецкі афіцэр Філіп дэ Рос, які зрабіўся для Якубеняў сапраўдным анёлам-ахоўнікам. Ён папярэджваў іх пра карныя акцыі, і сям’я хавалася.

Лёню выпусцілі, але неўзабаве арыштавалі бацьку. Міла зноў пайшла ў Слонім, дзе ёй параілі звярнуцца да перакладчыка гебітскамісарыята Юрыя Пыталя, а таксама да ягонага калегі і цёзкі з СД, Касцюкевіча, каб даць хабар.

Па дарозе з горада Мілу падвёз Сцяпан Лабовіч, «стары кавалер» з вёскі Азярніца. Ён пачаў быў непрыстойныя размовы, але 15-гадовая дзяўчына прыгразіла ▶

саскочыць з воза ды пайсці ў завіруху дадому пехам — тады мужчына сумеўся і давёз яе да месца без прыгодаў. Наогул, Міла была баявітая: аднойчы пасварылася з суседам-палякам, які сказаў, што беларускія пісьменнікі кепскія, а мова грубая.

### Смерць ходзіць навокал

А смерць заўсёды была побач. Лёня збіраў і абменьваў зброю, а Міла, па яго даручэнні, цягала патроны. Страляць у лесе яны вучыліся разам. Ці чыталі Лёня і Міла дзённікі адно аднаго? Сюжэты не могуць не паўтарацца, але ў Мілы ўсё нашмат драматычней. Яна вядзе падлік забітых і палеглых — і нават не на вайне, не ў баі з ворагам.

**Час цяпер вельмі цікавы. Чалавек жыве як муха. Сёння жыве, заўтра не**

Вось загінуў на чыгунцы хлопец-рабочы — на Іванаў дзень яшчэ ў абед усе перапіліся самагонкі, і ён не заўважыў набліжэння цягніка. А вось бацька вырашыў, што сын, які тады быў у камандзіроўцы, загінуў, і накінуўся на патруль — яго забілі. А вось сусед-раўнівец стаў біць і ганяць па ўсім доме жонку, якая да вар’яцтва яго кахае. Суседзі паклікалі на дапамогу немцаў, а, калі тыя прыйшлі, ён кінуўся на іх, спрабаваў адабраць зброю — і яго застрэлілі.

На Радаўніцу 1943-га Міла з сяброўкай наводзілі парадак на магілах нямецкіх і савецкіх салдат, якія загінулі ў першыя дні вайны. Падчас вайны ўсё пераблыталася — і ў мёртвых, і ў жывых. У сярэдзіне чэрвеня 1944-га ў вёску прыехала Ніна Лабовіч, якая працавала ў Слоніме на немцаў у лясной управе — і Міла павяла яе... у лес знаёміць з партызанамі.

### За 5 дзён да вызвалення

Страшнае здарылася ў апошнія дні акупацыі, калі фронт падступаў і вызваленне было такім блізкім.

Усе, хто хацеў сысці з немцамі, сышлі. 5 ліпеня 1944 года з Зэльвы прыйшоў эшалон з паліцыяй і немцамі, якія рухаўся ў бок фронту. Двое мужчын у цывільным з цягніка прыйшлі ў дом Якубеняў. Выпіўшы з бацькам Лёні і Мілы гарэлкі, яны пачалі скардзіцца на немцаў. А той вазьмі і ляпні: няма чаго вам рабіць з тымі немцамі, пераходзьце да партызанаў — мой сын вас правядзе.

Як толькі паказаўся Лёня, «цывільных» як падмянілі — яны кінуліся яго хапаць... Апошняе, што бачыла Міла з суседняга пакоя, — як адзін з «гасцей» стрэліў у Лёню з пісталета. Міла і яе маці выскачылі ў акно, ім удалося ўцячы. А вось бацьку з сынам пасля здзекаў выкінулі з эшалона мёртвымі на чыгуначны насып, за кіламетр ад Азярніцы.

### Такія дзіўныя лёсы

Пасля вызвалення Беларусі Міла спраўдзіць даўнюю мару і вывучыцца ў Мінску на бухгалтарку.

9 мая 1945 года Міла робіць апошні запіс у сваім ваенным дзённіку — пра перамогу і капітуляцыю: «На сэрцы нейк цяжэй, чым калі-небудзь. Жыццё ранейшае, сумнае. Аперацыі на фронце ўжо скончаныя. У палон больш не бяруць». Дзень вызвалення ад нацыстаў для яе назаўжды застанецца азмрочаным гібеллю брата і таты, да якой яна будзе бясконца вяртацца ў думках — і не знаходзіць спакою.

У 1953 годзе Людміла Якубеня скончыла сельскагаспадарчую акадэмію ў Горках, у 1967-м — Цімiразеўскую акадэмію ў Маскве. А як жа склаліся лёсы тых, з кім жыццё звяло Мілу падчас вайны?

Ніна Лабовіч, супрацоўніца лясной управы, якую Міла з рызыкай для свайго жыцця знаёміла з партызанамі, у выніку сышла на Захад з немцамі. Незадоўга перад тым яна выйшла замуж, і напрыканцы 1944-га разам з мужам, які быў жаўнерам працоўнай роты,



Слонім перад 1940-м.

З КНІГІ СЯРГЕЯ ЧЫГРЫНА «ГІСТОРЫЯ СЛОНІМА НА СТАРЫХ ФОТАЗДЫМКАХ І ПАШТОЎКАХ (1900–1950)»

У 1974 годзе Тацццяна Якубеня перадала ў архіў мінскага Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ дзённікі сваіх дзяцей — Леаніда і Людмілы Якубеняў. Гэта былі два сшыткі фармату А6 па 60 з лішнім аркушаў кожны. На вокладцы Лёневага сшытка напісана «Прыватная жаночая гімназія сясцёр Ордэна Беззаганнай у Слоніме», на вокладцы Мілінага — надпіс «Сшытак агульны» з савецкай зоркай. Абодва дзённікі захоўваюцца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь, у фондзе партызанскіх фарміраванняў Баранавіцкай вобласці.









**Польская і савецкая карты** мясцовасці наўкол хутара Медухава і чыгуначнага раз'езда Пляцянічы

скончыла разведшколу абвера ў Дальвіцы ва Усходняй Прусіі (цяпер — Калінінградская вобласць Расіі), дзе праходзілі навучанне беларусы — былыя ўдзельнікі арганізаваных немцамі ўзброеных фарміраванняў і арганізацый. Далейшы лёс Ніны дакладна невядомы: паводле адных звестак, яна была дэсантаваная ў Беларусь і затым арыштаваная МГБ, паводле іншых — асуджаная за шпіянаж на карысць СССР у амерыканскай зоне акупацыі Германіі. Зрэшты, адно не выключае другога.

Няўдачлівы кавалер Сцяпан Лабовіч за немцамі нейкі час служыў у паліцыі. У ліпені 1944-га ён паведаміў пра гэты факт пры мабілізацыі ў Чырвоную Армію — але, западозрыўшы нядобрае, перайшоў на нелегальнае становішча. Быў забіты пры спробе затрымання ў 1951 годзе.

Філіп дэ Рос, анёл-ахоўнік Якубеняў, які папярэджваў іх пра карныя аперацыі, загінуў у партызанскай засадзе пад Мінскам у 1944-м, пра гэта стала вядома яшчэ да адыходу немцаў з Беларусі — і Міла плакала па ім.

Перакладчыкі слонімскіх гебітскамісарыята і СД Юрый Пыталь і Юрый Касцюкевіч у лістападзе 1943 года сышлі ў лес і зрабіліся, адпаведна, камісарам і камандзірам савецкіх партызанскіх атрадаў. Аказваецца, у акупаваным Слоніме яны былі агентамі савецкіх спецслужбаў. ◆

## Землякі з Азярычына

Дарагія азярыкі!

Гэтак мы звяртаемся да сваіх землякоў — тых, хто нарадзіўся ў вёсцы Азярычына (а таксама ў Таварскіх, Рэчках, Астраўках, Махоўцы, Вялікай Луцэ, Кухараўцы, Будзёнаўцы і Вераб'ёўцы) Пухавіцкага раёна, або тых, чые бацькі і дзяды паходзяць адтуль. Мы, Зміцер і Юрась Санько, выпускнікі Азярычынскай школы 1966 года, рыхтуем кнігу пра нашу родную вёску. Яна будзе змяшчаць разнастайны матэрыял: вынікі археалагічных даследаванняў; гістарычны нарыс; песні, якія спявалі нашыя продкі; мікратапаніміку вёскі і наваколля; традыцыйныя імёны; слоўнік азярыцкай гаворкі; спіс ахвяраў рэпрэсій 30–40-х гадоў, а таксама звесткі, якія дапамогуць скласці свой радавод кожнаму з вас, хто гэтым цікавіцца.

Просім вас дапамагчы ў гэтай справе: даслаць старыя фотаздымкі. Нас цікавяць у асноўным даваенныя і дарэвалюцыйныя. Гэта могуць быць не толькі звычайныя сямейныя здымкі, але і фатаграфіі тых, хто служыў у царскай арміі, быў на прымусовай працы ў Германіі або з'ехаў у Амерыку. Можа, у каго захаваліся старыя здымкі даўнейшых хат, іх інтэр'ераў, гаспадарчых пабудоў, млына, які стаяў на Пцічы, старога моста, гатара, будаўніцтва ГЭС (гідраэлектрастанцыі), працы ў полі на жніве, на сенакосе, святкавання Вялікадня, Калядаў і г. д.

Фатаграфіі абавязкова павінны быць падпісаныя. Калі здымак групавы, трэба пералічыць асобаў (злева направа): прозвішча, імя і імя па бацьку,а таксама, калі ведаеце, — як звалі чалавека па-вулічнаму, па-вясковаму (напрыклад, Ярмолавы, Крыськавы, Мамекавы, Бабенькавы). Канечне, трэба пазначыць і год.

Здымкі трэба прысылаць у сканаваным выглядзе на **technalohija@gmail.com**. Калі вы не маеце магчымасці сканаваць, можаце перадаць самі фота.
Зміцер Санько: 8-044 752-86-85; 8-017 243-19-40 (Мінск). Людміла Бялевіч: 8-029 345-93-60 (Азярычын). Усе арыгіналы здымкаў абавязкова вернем.



# «Чакайце, *я вярнуся па вас...*»



**Гродзенскі футбаліст Пінхас Малевіч.**
Фота зроблена паміж 1922 і 1926 гадамі ў Гродне.

**Вядомы ў міжваенны перыяд футбаліст каманды «Макабі» Пінхас Малевіч перажыў вайну ў ЗША, падчас Халакосту страціў усю сям'ю, але да канца жыцця не забыўся пра сваю радзіму. Ягоны сын Павел Малевіч падзяліўся трагічнай сямейнай гісторыяй, расказвае Руслан Кулевіч.**

### У Гродне і Варонежы

Пінхас Малевіч нарадзіўся ў 1904 годзе ў Гродне. Ён быў чацвёртым з васьмі дзяцей у сям'і. Малевічы жылі на Базарным завулку, 4, што знаходзіўся каля Рыбнага рынка. За Польшчай вуліца і называлася Рынкавай. У наш час на гэтым месцы знаходзіцца аўтастаянка ў цэнтры горада, пад якой закатаныя ў асфальт старыя яўрэйскія могілкі.

**Доля футбаліста яўрэйскай футбольнай каманды з Гродна, які сам уратаваўся ад немцаў, а сям'я яго засталася тут і загінула**




**Пінхас Малевіч стаіць другі справа.** Левай рукой абдымае хлопца ў шапцы. Пінхас быў у «Макабі» брамнікам. Фота зроблена паміж 1922 і 1926 гадамі.

**«Макабі»** — сетка яўрэйскіх спартовых клубаў, створаная на пачатку XX стагоддзя. Яна атрымала назву ў гонар паўстанцаў-Макавеяў, на іўрыце — Макабі. Гэта аналагічна таму, як калі б беларускія спартклубы называлі «касінерамі», «каліноўцамі» ці «партызанамі».

Футбольны клуб «Макабі» быў заснаваны ў Гродне ў 1922 годзе. Колеры каманды — блакітныя. Выступала яна ў чэмпіянатах Гродна, Віленскай футбольнай акругі, БАФС (Беластоцкага акруговага футбольнага саюза). З 1929 года каманда з'яўлялася пастаянным удзельнікам чэмпіянатаў БАФС у класе «А». Па выніку гэтых спаборніцтваў наймацнейшая каманда ўдзельнічала ў пераходным турніры за права гуляць у 1-й лізе чэмпіянату Польшчы па футболе. Найлепшыя футбалісты «Макабі» рэгулярна выступалі за зборную каманду Гродна ў таварыскіх матчах. Яўрэйскія футбалісты ў чэмпіянаце вялі «святую вайну» з землякамі-гродзенцамі з каманды Вайсковага спартыўнага клуба. У пачатку 1930-х гадоў адзін з матчаў гэтых каманд у Гродне выклікаў такі напал, што суддзі прыйшлося наводзіць парадак з дапамогай пісталета. Каманда «Макабі» спыніла існаванне з пачаткам Другой сусветнай вайны.

Да Першай сусветнай вайны Пінхас Малевіч вучыўся ў яўрэйскай школе ў Гродне. Але ў 1915 годзе, перад прыходам у горад нямецкага войска, многія гродзенскія яўрэі разам з іншымі жыхарамі заходнебеларускага рэгіёна выправіліся ў бежанства на ўсход. Сям'я Малевіча апынулася ў Варонежы, дзе пражыла некалькі гадоў.

У Расіі тым часам адбылася рэвалюцыя, якая перарасла ў грамадзянскую вайну. Бежанцам нічога не заставалася, як вяртацца на радзіму. Калі сям'я Малевічаў вярнулася ў родны Гродна, ён быў ужо польскім горадам. Малевічы, аднак, хутка адаптаваліся да новай сітуацыі і пачалі наладжваць сваё жыццё.

## Футбаліст і трэнер

Малады Пінхас стаў займацца спортам, пастаянна гуляў у навамодны футбол з сябрамі на вуліцы. А ў 1922 годзе гродзенская яўрэйская моладзь заснавала ўласны спартыўны клуб «Макабі». Пінхас Малевіч стаяў на варотах.

Пінхас Малевіч быў у той час адным з найвядомейшых гродзенскіх футбалістаў, а пасля стаў такім жа вядомым трэнерам. Менавіта пад ягоным кіраўніцтвам у 1930-я гады яўрэйская каманда дамаглася самых сур'ёзных вынікаў за час свайго існавання. У таварыскіх матчах футбалісты «Макабі» неаднаразова перамагалі больш заслужаныя клубы з Вільні і Варшавы. Някепска ішлі справы і ў чэмпіянаце Беластоцкага акруговага футбольнага саюза: кіраваная Малевічам каманда рэгулярна патрапляла ў «прызы».

## На заробкі праз акіян

Але футбол быў толькі захапленнем, а не прафесіяй, трэ' было карміць сям'ю. У 1934 годзе Пінхас ажаніўся з Ханнай Любоўскай. У 1936-м і 1938-м у пары нарадзіліся дочкі Мір'ям і Двейра. Грошы на ўтрыманне сям'і ▸



**Фота дочак Пінхаса**: чатырохгадовай Мір'ям і двухгадовай Двейры. Здымак зроблены ў снежні 1940 года.

### Трагедыя

Але гэтым планам ніколі не было суджана здзейсніцца. У верасні 1939 года пачалася Другая сусветная вайна. Гродна спачатку патрапіла пад савецкую ўладу. СССР жа быў такой краінай, выехаць з якой за мяжу было зусім няпроста. Вось і сям'і Пінхаса Малевіча савецкія ўлады ў дазволе не выезд адмовілі, хоць сам ён за кароткі час здолеў назбіраць патрэбную суму, якой мусіла хапіць на візу і квіткі ў Амерыку для ўсёй сям'і. Хоць жонка з дзецьмі ўжо была нават выехала ў Маскву, у выніку яна ўсё ж мусіла вярнуцца ў Гродна.



**На Занёманскіх могілках** ацалела магіла бабулі Пінхаса Малевіча, Міры.

▶ Пінхас Малевіч зарабляў як механік і кіроўца грузавіка.

Грошай гэтых, аднак, увесь час не хапала, таму за год да пачатку Другой сусветнай вайны ў пошуках лепшага жыцця для сваёй сям'і Пінхас наважыўся паехаць на заробкі за акіян. Сям'ю ён пакуль што пакідаў у Гродне, але ў будучыні планаваў забраць у Амерыку і яе. Перад ад'ездам Пінхас Малевіч сказаў жонцы і дзецям: «Чакайце, я вярнуся па вас праз год...»

## Сям'і Пінхаса Малевіча савецкія ўлады ў дазволе на выезд адмовілі. А ў чэрвені 1941-га Гродна занялі немцы

У чэрвені 1941 года Гродна было занята нямецкім войскам. Усіх гродзенскіх яўрэяў, у тым ліку і Малевічаў, сагналі ў два гета. Кагосьці з сям'і расстралялі яшчэ ў Гродне, а жонка Ханна з дзецьмі загінулі ў лагеры смерці Трэблінка.



**Механік Пінхас Малевіч — крайні справа.** Чыкага, 1953 год.

### Памяць праз гады і адлегласць

Страціўшы ўсю сям'ю, Пінхас Малевіч доўгі час не мог знайсці сабе месца. Ён ускладаў віну за гэтую трагедыю і на сябе, лічачы, што ў той момант мусіў і сам быць з сям'ёй.

З гадамі, аднак, боль трохі аціх, і Пінхас ажаніўся другі раз. Ягонай другой жонкай стала Іда Перэльман. Яна сама нарадзілася ўжо ў ЗША, а бацькі яе прыехалі ў Штаты з Украіны яшчэ да рэвалюцыі. Ужо ў гэтай сям'і ў 1949 годзе ў Пінхаса нарадзіўся сын Павел, які і распавёў аўтару гэтага артыкула гісторыю свайго бацькі. Паводле яго, Пінхас Малевіч працаваў у ЗША, як і на радзіме, аўтамеханікам. Да канца жыцця ён захаваў і любоў да футбола, не прапускаючы ніводнага матча сваёй каманды. У той жа час, стаўшы амерыканцам, Пінхас ніколі не забываўся пра роднае Гродна, дзе пражылі шэсць пакаленняў ягонай сям'і. Памёр Пінхас Малевіч у 1963 годзе.

У Гродне ж адзінае, што сёння нагадвае пра гісторыю гэтага роду, — ацалелая на мясцовых яўрэйскіх могілках магіла бабулі Пінхаса Малевіча, Міры Абрамаўны. ◆



# «Ніхто не хацеў ехаць на Баранавічы»

**Рэйкавая вайна: краязнавец з Ваўкавыска Мікалай Быхаўцаў расказвае, якое гэта было пекла для беларускіх чыгуначнікаў.**

У адну летнюю раніцу 1942 года каля адзінаццаці гадзін, у самы разгар нядзельнай імшы, праз расчыненыя дзверы ваўкавыскага касцёла парафіяне пачулі гучны выбух. Напалоханыя людзі скіраваліся на вуліцу, упэўненыя, што на горад наляцела савецкая авіяцыя. Але больш выбухаў не было, а ў бясхмарным небе не было відаць ніводнага самалёта. Затое за якія 300–400 метраў ад касцёла на чыгуначных шляхах стаяў доўгі састаў з паравозам, што ўскідаў велізарныя клубы белай пары. Цікаўная моладзь кінулася туды.

Хутка перад паравозам утварыўся натоўп з нямецкіх салдат, якія цягніком ехалі на фронт. На адхоне чыгуначнага палатна ляжаў апрануты ў цывільную вопратку малады чалавек. З ягонага разарванага жывата вываліліся кішкі, а са шматлікіх ран выцякала на зямлю кроў. Чалавек паміраў. Побач з рэйкамі была неглыбокая варонка са свежай раскіданай зямлёй. Усё было зразумела без слоў: пры спробе закласці міну перад цягніком зарад выбухнуў у руках нявопытнага дыверсанта.

Чаму смяльчак закладаў міну перад цягнікам, які рухаўся? У той час яшчэ не былі распаўсюджаныя радыёкіраваныя фугасы і ўзрывальнік міны спрацоўваў пад дзеяннем сілы цяжару або пры вырыванні засцерагальніка выбухоўніка з дапамогай доўгага шнура. Закласці міну загадзя было нельга, бо яе выявілі б патрулі, якія рэгулярна праходзілі ўздоўж рэек. Вось і рызыкнуў невядомы патрыёт сваім маладым жыццём, кінуўшыся пад цягнік. Хто гэта мог быць — савецкі партызан ці ўдзельнік Арміі Краёвай, — засталося невядомым.

Прайшоў некаторы час, і партызаны прыстасаваліся да цяжкасцяў. У 1943 годзе міны пад нямецкімі эшалонамі сталі выбухаць усё часцей. Па сведчаннях Вацлава Наўроцкага, які працаваў тады дзяжурным па станцыі Ваўкавыск-горад, амаль не было такой ночы, каб на адрэзку чыгункі ад Ваўкавыска да Баранавіч не выбухалі пад цягнікамі міны. Больш за ўсё выпадкаў прыходзілася на ўчастак паміж Слонімам і Баранавічамі. Вядома, далёка не ўсе закладзеныя ▸

Аперацыя «Рэйкавая вайна» — дзеянні партызан летам 1943–1944 гадоў, каб перашкодзіць нацыстам перакідваць тэхніку і падмацаванні на фронт. Выбухі на чыгунцы ладзіліся і раней, але начальнік Цэнтральнага штаба партызанскага руху Панцеляймон Панамарэнка ініцыяваў масіраваную кампанію. У выніку аперацыі на Беларусі было падарвана больш за 800 цягнікоў. Немцы праводзілі абходы, выстаўлялі калючы дрот, закладалі міны ўздоўж чыгункі. Адказвалі на выбухі карнымі аперацыямі.



Партызаны за працай.

▸ партызанамі міны выбухалі пад паравозам ці вагонамі і далёка не ўсе міны наносілі тую шкоду, на якую разлічвалі дыверсанты. Аднак рэгулярныя выбухі моцна запалохалі паравозныя брыгады. Замоўленая паравозная брыгада з надыходам змяркання адмаўлялася першай выязджаць на Баранавічы, матывуючы адмову няспраўнасцю:

— О то халера! Помпа* перастала працаваць! — абураўся машыніст.

Як толькі іншая брыгада адпраўлялася на начны перагон, машыніст першай дакладваў, што помпа адрамантаваная і ён гатовы падаць паравоз пад наступны састаў. Брыгада спадзявалася, што калі партызанская міна закладзена, то яна спрацуе пад першым эшалонам, а яны такім чынам уратуюцца.

Нарэшце немцы дадумаліся прычапляць наперадзе паравоза дзве-тры платформы, гружаныя камянямі або пяском. Цяжкая платформа заязджала на закладзеную пад рэйкамі міну, рэйкі прагіналіся і націскалі на ўзрывальнік. Міна выбухала, не прычыняючы шкоды паравозу. Тады партызаны змянілі тактыку: падрывалі міну з дапамогай шнура, але рабіць гэта стала значна цяжэй. Паспрабуй непрыкметна замаскіраваць яшчэ і шнур даўжынёю сто метраў, каб ахова яго не заўважыла! Гэта пазней яны пачнуць выкарыстоўваць выбухоўнікі запаволенага дзеяння і іншыя хітрыя штучкі.

## Немцы дадумаліся чапляць перад цягнікам платформы, гружаныя пяском

«У Ваўкавыск з Гамбурга прыехаў спецыяльны кран, які падымаў з адхонаў раскіданыя выбухамі паравозы і вагоны. Бацька казаў, што паравозы ляжалі ў адхонах праз кожныя пяць кіламетраў», — расказвае мясцовы жыхар, бацька якога падчас акупацыі працаваў у паравозным дэпо.

### Дыверсіі па дамове з машыністамі

Чыгуначная лінія Беласток – Ваўкавыск выкарыстоўвалася інтэнсіўна, бо забяспечвала грузам і жывою сілаю Усходні фронт — яна ж вяла з Усходняй Прусіі на ўсход. З гэтай прычыны яна знаходзілася пад пільнай увагай Беластоцкага аддзела польскай падпольнай Арміі Краёвай і нават мела ўмоўны шыфр «Шлях №8». Кожны састаў браўся на ўлік і рэгістраваўся АК. Звесткі аб руху эшалонаў перадаваліся па радыё ў Лондан, дзе брытанская

Машыністамі пры немцах працавалі тыя самыя людзі, што і за польскім часам, і ў час СССР. За ўхіленне ад працы машыністаў расстрэльвалі, а іх сем'і падлягалі зняволенню ў канцэнтрацыйныя лагеры.




**Савецкі агітацыйны плакат «Крушэнне».** Аўтар Уладзімір Прагер.

* Даўней у беларускай мове часцей казалі «помпа», а не «насос».

разведка, аналізуючы рух цягнікоў па ўсіх кірунках і характар грузаў, рабіла дакладныя прагнозы аб хуткім наступе на тым ці іншым участку Усходняга фронту.

Былі выпадкі, калі партызаны па дамоўленасці з чыгуначнікамі пускалі лоб у лоб два цягнікі. Такі выпадак адбыўся ў лістападзе 1943 года на станцыі Андрэевічы за 8 кіламетраў на захад ад Ваўкавыска на Беластоцкім кірунку. Група падпольшчыкаў-акаўцаў пад кіраўніцтвам капрала Альгерда Зажыцкага, у змове з мясцовымі чыгуначнікамі, пусціла на адзін і той жа шлях два сустрэчныя цягнікі — таварны з сенам і конямі, які кіраваўся на фронт, і пасажырскі, які рухаўся ў Германію. Цягнік вёз з фронту ў адпачынак некалькі соцень салдат і афіцэраў. У выніку 35 вагонаў з конямі і сенам згарэлі дашчэнту. Пасажырскі цягнік пацярпеў часткова. Колькі загінула адпускнікоў — невядома. Неўзабаве завязалася перастрэлка з нямецкай аховай — капрал Зажыцкі атрымаў цяжкае раненне, а двое чыгуначнікаў загінула.

## Цягнікі ляжалі ў адхонах праз кожныя пяць кіламетраў

Эшалоны, якімі кіраваў машыніст Раман Складаноўскі, падрывалі сем разоў. Першы раз паранены машыніст некалькі гадзін праляжаў у паравозе, перш чым яго выцягнулі. Месяц ён праляжаў у шпіталі, пасля чаго немцы вярнулі яго на працу. Праз тры месяцы, у ліпені 1943-га, на тым жа ўчастку чыгункі каля Свіслачы яго паравоз зноў наскочыў на партызанскую міну. З часам з машыністам Складаноўскім наладзілі сувязь савецкія партызаны, якія падрывалі міны ўжо не пад яго паравозам, а пад вагонамі. ◆

# Аляксей Карпюк. **Пушчанская адысея**

(Урывак)

Ля Зубкоў цячэ рэчка, яе перасякае чыгунка. Невялічкі мост вартуюць два дзясяткі немцаў. Салдат тут ніхто ніколі не трывожыў, яны жывуць сабе, як дачнікі, у будцы на пераездзе...

Днём высыпаемся пад Зубкамі ў жыце. Вечарам падкрадваемся да пераезда. Сашка з кулямётам прыадстае, каб блакаваць у выпадку чаго нас ад вартаўнікоў на мосце, а мы з Лідай паўзём да пуці. Узрывацеля няма, мусім камбінраваць. Яшчэ днём у торбу з толам ушылі туга лімонку, да канца яе прывязалі сто метраў тэлефоннага кабелю...

На пуці ціха, пуста. Таямніча гудуць правады...

Прыкладваю да рэйкі з сярэдзіны цяжкую торбу, шапчу ў цемру:

— Ліда, размотвай!

Прытрымліваю мяшок. Дзяўчына цягне ў поле кабель. Па дроце перадаецца кожны яе рух. Магу нават сказаць, калі яна спатыкаецца і падае. Вось кабель перастае ўздрыгваць і замірае. Два разы дзяўчына ім тузае. Гэта сігнал — гатова!

Адгінаю ў кальцы ад гранаты алюмініевыя вусікі і адпаўзаю. Па нітцы кабелю знаходжу Ліду, падаю побач у баразну і бяру з яе рук кіёчак, да якога прымацаваны канец кабелю. Такі спосаб узрыву ў партызан называецца «вудзіць рыбу». Цяпер толькі дачакайся цягніка, пацягні за кіёчак, вырві кальцо — і граната здэтаніруе, ад гэтага ўзарвецца і тол. Чорт, павінен узарвацца, прынамсі, а як будзе на самай справе?..

З-за будкі жвава і бяспечна выныраюць цьмяныя слепакі фараў, а за імі, на фоне неба, памалу разварочваецца бясконцы гармонік вагонаў.

— Лёшка, упусціш, дальбог! — панічна крычыць мне ў вуха Ліда.

— Не перашкаджай!

Саджуся выгодна на раллю, нагамі ўпіраюся ў баразну. Дзвюма рукамі бяруся за кіёчак, да якога прымацаваны кабель. Капсула-дэтанатар у гранаце — замаруджанага дзеяння, тол узарвецца толькі праз шэсць секунд пасля таго, як рвану шнур. Трэба ўлічыць хуткасць цягніка і зрабіць так, каб выбух наступіў пад паравозам. Ад напружання, ад вострага адчування важнасці моманту галава ясная.

Цягнік імчыць, калі браць на слых, з хуткасцю кіламетраў семдзесят у гадзіну. Гэта прыблізна тысяча дзвесце метраў у мінуту. У секунду — дваццаць. Дваццаць на шэсць — сто дваццаць. Ад аднаго тэлеграфнага слупа да другога — дакладна пяцьдзясят метраў. Упіваюся вачыма ў цемру. Перад фарамі ўжо толькі тры слупы! Два і тры чвэрці! Два з паловай!.. О, самы раз!

З усяе сілы тузаю кабель і ўвесь ператвараюся ў слых.

— Пштах! — чуецца праз гудзенне колаў і рэек кволенькі стрэл узрывацеля.

Ёсць!

Цягнік яшчэ імчыць, у ім ніхто нічога не ведае, але іхні лёс вырашаны. А ці так? Выбух гранаты не параскідвае тол раней, чым узарвецца, кавалкі яго былі зусім не колеру жаўтка, а якіясьці шэрыя, мо Навасёлаў Ліду ашукаў?!

Шэсць гэтых секунд здаюцца вечнасцю. Нарэшце раптоўна і перад самым носам паравоза бліскае на імгненне сонца, рэзка выдзяляе контуры пузатай машыны з комінам, асляпляе нас з Лідай, аглушае ды рве ноч на часткі. Рэха выбуху адзываецца спачатку ў Ліпніках, затым у Сітозе, Свіслачанскім лесе, Берастаўіцкім. Відаць, цягніку выбухам вырвала шланг паветраных тармазоў, бо на ўсю даўжыню эшалона пырскаюць фантаны іскраў ды цэлыя струмені жывога агню. Тармазы яго ўжо не ратуюць, цягнік набраў занадта вялікую хуткасць.

Я ўсё ж такі недакладна разлічыў выбух, і ён прыйшоўся метраў за дваццаць перад паравозам, але гэта яшчэ лепш. Тол вырваў добры кавалак рэйкі, абодва рваныя канцы задраў угору, нібы палазы саней. Але пра гэта даведаліся мы потым. Цяпер, як зачараваныя, з жахлівым захапленнем глядзім на вынік сваёй работы. Вагоны на вялікай хуткасці дабягаюць да месца, дзе тол парваў рэйкі, з'язджаюць убок. Рухомыя, вялізныя і наладаваныя куфры адзін за другім знікаюць са светлага фона неба, валяцца ў кювет — толькі стогнам і хадуном ходзіць зямля.

Ачуняюся першы. Зараз зашыпяць ракеты і пойдзе страляніна. Трэба выносіць ногі.

— Прэч адгэтуль, Сашка, здымай кулямёт! Немцы зараз ачухаюцца! — крычу.

Зрываемся і ляцім у бок Свіслачы.

# Базыль Маргелаў і Янка Якубоўскі:

## хто і што пісаў у беларускамоўную «Чырвонаармейскую праўду»

**Лыжныя марафоны, маршы па «пляцы Волі», варта па сонцы... Расказвае вайсковы гісторык Віталь Чырвінскі.**

Нацыянальная бібліятэка, зала перыядычных выданняў. На маім стале — зжаўцелыя нумары газеты «Чырвонаармейская праўда». Удыхаю спецыфічны архіўна-бібліятэчны водар, перагортваю крохкія старонкі вялікай, фармату А-1, падшыўкі...

«Залатое дзесяцігоддзе беларусізацыі» другой паловы 1920-х – першай паловы 1930-х закранула многія сферы, і вайсковая не была выключэннем.

### Ідэя Фрунзэ

Чэрвень 1923 года. За 10 тысяч кіламетраў на ўсход ад Беларусі толькі нядаўна адгрымелі апошнія кулямётныя стрэлы і гарматныя выбухі. Чырвоная Армія выгнала белагвардзейцаў з Уладзівастока, і на гэтым грамадзянская вайна ў Расіі нарэшце скончылася. На змену палітыцы «ваеннага камунізму» з яе чырвоным тэрорам прыйшла новая эканамічная палітыка (НЭП). Савецкія правадыры шукаюць новыя ідэі, каб утрымаць і замацаваць сваю пакуль яшчэ даволі хісткую ўладу.

Адной з такіх ідэй стала палітычная і культурная кампанія, што атрымала назву карэнізацыі. У Рабоча-сялянскай Чырвонай Арміі (так тады афіцыйна называлася савецкае войска) яна пачалася ў 1924 годзе і прадугледжвала стварэнне нацыянальных фарміраванняў. Ініцыятарам гэтага быў Міхаіл Фрунзэ. Ён лічыў, што выкарыстанне роднай мовы зробіць Чырвоную Армію раднейшай для людзей.

У Заходняй вайсковай акрузе (пазней Беларуская вайсковая акруга) першымі беларусізаваліся ваенкаматы, прытым настолькі фундаментальна, што ішлі ў гэтым фарватары амаль да пачатку Другой сусветнай вайны.

9 снежня 1923 года народны камісар па вайсковых справах БССР Язэп Адамовіч падпісаў загад № 77 аб пераходзе апарату ваенкаматаў на становішча нацыянальна-беларускіх. Супрацоўнікам ваенкаматаў загадвалася са студзеня 1924-га распачаць вывучэнне беларускай мовы з разлікам, каб да 1 жніўня 1924 года іх супрацоўнікам вывучыць і перайсці на размоўную беларускую мову, а з пачатку 1925-га перавесці на гэтую мову ўсё справаводства. Асобам, якія валодаюць беларускай мовай, пры прыёме на службу загадвалася аддаваць перавагу.

Першымі беларускімі нацыянальнымі фарміраваннямі сталі 2-я Беларуская стралковая дывізія імя Фрунзэ (штаб у Мінску) і 33-я Беларуская стралковая дывізія (штаб у Магілёве), якія камплектаваліся прызыўнікамі паводле тэрытарыяльнага прынцыпу.

У красавіку 1924-га для падрыхтоўкі сярэдняга каманднага складу беларускіх нацыянальных часцей Заходняй вайсковай акругі была створана Аб'яднаная беларуская вайсковая школа (АБВШ) імя Цэнтральнага выканаўчага камітэта БССР (з 1934 года школа насіла імя Міхаіла Калініна). Аб'яднанай школа называлася таму, што ў ёй рыхтавалі камандзіраў адразу для трох родаў войскаў: пяхоты, кавалерыі і артылерыі. Размясцілася яна ў будынках былых духоўнага вучылішча і Казённай палаты. Цяпер там Мінскае суvoраўскае вучылішча.

З'яўленне беларускіх нацыянальных вайсковых часцей, натуральна, выклікала патрэбу ў выданні вайсковай газеты на беларускай мове.



Пры руху ўперад упірацца на левую руку і на абцас правай нагі, прыпаднімаць цела і, выпростваючы правую нагу ў калене

Рыс. 6.

перасоўваць тулава ўперад да локця левай рукі, пакідаючы пры гэтым левую нагу ў сагнутым палажэнні. Потым перасоўваць левую сагнутую ў локці руку ўперад і адначасова згінаць правую нагу ў калене (каленам уверх), упёршы яе абцасам у зямлю каля калена левай нагі.

Рыс. 7. Выгляд збоку.

2. *Поўзанне ніцма* (рыс. 7 і 8). Легчы на зямлю грудзьмі, ногі разам, сагнутыя рукі прыцiснуць шчыльна да тулава, упіраючыся

22

на іх; вінтоўку трымаць у правай руцэ, прапусціўшы між рукой і тулавам. Перасунуць сагнутую левую руку ўперад, падабраўшы

Рыс. 8. Выгляд зверху.

наскі; падцягнуцца ўперад, дапамагаючы наскамі ног. Перасунуць правую сагнутую руку ўперад, падабраць наскі і зноў падцягнуцца ўперад.

3. *Поў*
Легчы н
іх некал
Для пач
нагу, па

Ба 6680

Пролетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

БАЯВЫ СТАТУТ ПЯХОТЫ

РСЧА

ЧАСТКА ПЕРШАЯ

(1928)

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВАЕННАЕ ВЫДАВЕЦТВА БССР
1934 МЕНСК

**Беларускамоўны «Баявы статут пяхоты»**, выдадзены Беларускім дзяржаўным выдавецтвам.

### 420 выданняў

«Чырвонаармейская праўда» пачыналася з невялікага «Кутка беларуса», які месціўся на трэцяй старонцы акруговай газеты «Красноармейская правда», што друкавалася ў Смаленску. Пасля, як пісалі ў газеце, «крок за крокам куток мацнеў і згуртоўваў вакол сябе невялікі асяродак вайскараў [г.зн. вайсковых карэспандэнтаў]». 30 сакавіка 1928 года выйшаў першы нумар старонкі «Чырвонаармейская праўда» як дадатак да той жа рускамоўнай газеты, а праз год, з 1 лютага 1929-га, газета афармілася ў цалкам самастойнае выданне.

Найбольшага росквіту газета дасягнула ў 1931 годзе, калі яе адказным рэдактарам быў прызначаны Аляксандр (Алесь) Самахвалаў. Наклад штодзённага «баявога рупара чырвонаармейскай грамадскасці» тады дасягнуў 15 тысяч асобнікаў.

У газеце друкавалася шмат карысных інфармацыі пра развіццё вайсковай справы ў нацыянальных часцях акругі. Яе чытачы рэгулярна знаёміліся з навінамі пра новыя беларускамоўныя кнігі і брашуры па вайсковай тэматыцы, якіх у часы беларусізацыі было выдадзена аж 420 найменняў! У наш час валоданне экзэмплярамі такіх кніг — гонар для калекцыянера, а знайсці іх у букіністычных крамах амаль нерэальна. Нават у бібліятэцы Цэнтральнага дома ▶

## Ваенкаматы перавялі ўсё справаводства на беларускую мову за год



72 СЕКРЕТНО.

ПРИКАЗ
НАРОДНОГО КОМИССАРИАТА ПО ВОЕННЫМ ДЕЛАМ ССР. БЕЛОРУССИИ.

9 декабря 1923 года №77 гор. Минск.

В настоящее время РВС.СССР. проводится ряд подготовительных практических мероприятий, направленных к тому, чтобы создать возможность в ближайшем будущем приступить к формированию национальных частей РККА. В числе прочих формирований намечено создание белорусских национальных частей.

Создание национальных частей предпологает одновременно также необходимость перехода всего аппарата Военкоматов на положение национально- белорусского аппарата. Наиболее трудным будет здесь, конечно вопрос о языке, на котором должно вестись делопроизводство и на котором должны об"ясняться с гражданами сотрудники Военкоматов. Главнейшая трудность будет заключаться в невозможности подобрать кадр вполне опытных работников, в то же время владеющих белорусским языком.

Поэтому предлагаю с начала 1924 года приступить к изучению всеми сотрудниками Военкоматов белорусского языка с таким разделением календарной программы, чтобы к первому августа изучить и перейти на разговорный белорусский язык, а затем постепенно переходить к ведению делопроизводства Военкоматов на белорусском языке с тем, чтобы уже с начала 1925 года целиком и вполне перевести Военкоматы на национально-белорусские аппараты.

На лиц отказавшихся работать в национально- белорусских аппаратах УВК представить в Нарвоенкомат списки с обозначением занимаемой должности на предмет постепенной замены таковых и уже в дальнейшем при приеме служащих отдавать предпочтение, при прочих равных условиях, лицам, владеющим белорусским языком, рассматривая знание такового, как определенную квалификацию.

п. п.: НАРКОМВОЕН БЕЛОРУССИИ Адамович

С подлин. верно:

НАЦЫЯНАЛЬНЫ АРХІЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ, Ф. 4-П, ВОП. 1, СПР. 6311, АРК. 297

Загад наркама па вайсковых справах БССР Язэпа Адамовіча **аб пераходзе апарату ваенкаматаў на становішча нацыянальна-беларускіх**, 9 снежня 1923 года.


МЕНСК — МАСКВА

Мінск-Масква



Ка анда АБВШ, удзельніца зьвёздна-лыжнага прабега, ... прыбыла ў Маскву з рапартам

Паведамленне «Чырвонаармейскай праўды» пра **лыжны пераход «Мінск – Масква».**

АНДРЭЙ ШПУНТ


**Васіль Піліпавіч Маргелаў.**

афіцэраў у Мінску цудам захаваліся толькі тры дзясяткі выданняў, у тым ліку трактат Карла фон Клаўзевіца «Аб вайне», перакладзены ў 1920-я гады на беларускую мову.

Матэрыялы «Чырвонаармейскай праўды» вельмі дапамагалі кіраўнікам гурткоў баявой падрыхтоўкі дапрызыўнікоў. У газеце ўздымаліся розныя праблемы: забеспячэнне, побыт, адпачынак, дысцыпліна. У адпаведнасці з духам часу значная частка плошчы была прысвечана камуністычнай ідэалогіі, а таксама міжнародным навінам.

«Літаратурная старонка» друкавала вершы і апавяданні як знакамітых беларускіх паэтаў і пісьменнікаў, так і звычайных чырвонаармейцаў і курсантаў. «Гутаркі з пачынаючымі пісьменнікамі на літаратурныя тэмы» праводзіў пісьменнік Анатоль Вольны. Паэты Тодар Кляшторны і Сяргей Грахоўскі ў сваіх вершах услаўлялі Аб'яднаную беларускую вайсковую школу і яе асабовы склад. Частымі гасцямі на старонках газеты былі Янка Купала, Якуб Колас.

Засвяціліся на старонках «Чырвонаармейскай праўды» і два будучыя вядомыя савецкія военачальнікі.

### У Маскву на лыжах

Пра ваенныя заслугі генерала арміі Васіля Маргелава напісана шмат. Герой Савецкага Саюза, дэсантнік №1, які за кароткі час стварыў з савецкіх паветрана-дэсантных войскаў эліту Узброеных сіл, навучыў дэсантаванню ў самых складаных умовах надвор'я, укараніў новыя спосабы і сродкі дэсантавання.

## Мінскія курсанты прайшлі на лыжах у Маскву ў гонар 50-годдзя Варашылава

У пачатку 1930-х усё гэта было яшчэ наперадзе. Але ўжо і тады імя Васіля Маргелава з Касцюковіч, хоць і ў іншым кантэксце, прагучала на ўвесь Савецкі Саюз. У лютым 1931-га ў гонар 50-годдзя з дня нараджэння наркама па вайсковых і марскіх справах СССР Клімента Варашылава адбыўся лыжны пераход каманды курсантаў АБВШ з Мінска ў Маскву (725 км за 14 дзён). Старшына курсанцкай роты Маргелаў асабіста ўручыў

Аўтару невядомы лёс асабістага гадзінніка-цыбуліны Васіля Маргелава. Але па фотаздымках можна ўявіць, як той мог выглядаць. Цыбулінай гэты кішэнны гадзіннік называлі з-за залатой «шкарлупіны», якая магла быць адліваная або разная.
У 1920–1930-я гады ў РСЧА ўзнагароджанне кішэнным гадзіннікам было распаўсюджанай формай заахвочвання вайскоўцаў. Узята гэта традыцыя з Расійскай імператарскай арміі, дзе гадзіннікі выкарыстоўваліся ў якасці ўзнагароды афіцэраў, якія з адзнакай скончылі ваенныя вучылішчы або спецыяльныя курсы, і шараговых салдат, якія перамаглі ў спаборніцтвах па стральбе або коннай яздзе. Найчасцей гэта былі гадзіннікі пецярбургскай фабрыкі Паўла Бурэ ў залатым, сярэбраным і стальным корпусе (фабрыка мела ганаровае званне Пастаўшчыка Двара Яго Імператарскай Высокасці).
Пасля экспрапрыяцыі бальшавікамі каласальных запасаў узнагароднага матэрыялу, які належаў спачатку імператарскаму двару, а затым Часоваму ўраду, канфіскаваныя гадзіннікі пачалі выкарыстоўвацца ў якасці ўзнагароды вайскоўцаў РСЧА. Гадзіннік «Павел Бурэ» спадабаўся новай уладзе і нават атрымаў неафіцыйную назву «гадзіннік Рэвалюцыі».




ARTLOT24.RU

юбіляру «Рапарт аб дасягненнях і недахопах», падрыхтаваны кіраўніцтвам школы. У адказ Васіль атрымаў з рук Варашылава залаты гадзіннік – «цыбуліну». З гэтым падарункам Маргелаў прайшоў пасля праз тры вайны. І менавіта тады імя «Базыля Маргелава» ўпершыню з'явілася на старонках «Чырвонаармейскай праўды». (Базыль – гэта форма імені Васіль, якая часта ўжывалася ў Беларусі даўней, да прыкладу – верш Максіма Багдановіча «Як Базыль у паходзе канаў, усё старонку сваю ўспамінаў...»)

Выдатная лыжная загартоўка, якую Васіль атрымаў тады, калі яшчэ працаваў леснікам і прайшоў сотні кіламетраў па касцюковіцкіх лясах, давала вынікі. Ён стаў улюбёнцам «Чырвонаармейкі», на старонках якой пачалі рэгулярна друкавацца матэрыялы пра «найлепшага ўдарніка баявой і палітычнай падрыхтоўкі». Пасля рэзананснага зорна-лыжнага прабегу курсантаў вайсковых школ у студзені 1934 года капітану лыжнай каманды Васілю Маргелаву прысвяціў верш беларускі паэт Сяргей Грахоўскі.

> ...Ты нядаўна прайшоў
> Найвялікшы рэйс
> (За 11 дзён –
> Да Масквы на лыжах)
> Беларускі застаўся далёка лес
> І крамлёўскія вежы
> Здаваліся бліжай.

### «Янка Якубоўскі, Ігнатаў сын»

7 лістапада 1934 года «Чырвонаармейская праўда» пісала пра выпускны парад АБВШ на пляцы Волі (менавіта так афіцыйна звалася плошча Свабоды), на якім прысутнічалі тагачасныя кіраўнікі БССР Мікалай Гікала і Аляксандр Чарвякоў:

> «АБВШ праходзіць урачыстым маршам. Шчыльна, адзін каля другога, з вінтоўкамі "на руку" ідуць па 12 у рад. На грудзёх у большасці выпускнікоў 2 значкі — "Варашылаўскага стралка" і "Гатоў да працы і абароны". Бадзёрасцю, сілаю вее ад гэтых шчыльных радоў. Наперадзі калоны — выпускнікі-камандзіры…».

Сярод 99 выпускнікоў Аб'яднанай беларускай вайсковай школы таго




Фота найлепшых выпускнікоў АБВШ 1934 года. **Янка Якубоўскі — першы злева.**

года быў Іван Ігнатавіч Якубоўскі. 7 лістапада ён цвёрдым крокам ішоў правафланговым першай шарэнгі каробкі выпускнікоў. Як адзін з найлепшых. Напярэдадні ён адправіў сваякам на родную Магілёўшчыну (вёска Зайцава Горацкага раёна) пухлы канверт, у які разам з пісьмом уклаў нумар ▶



**Будучы маршал Якубоўскі** — курсант Аб'яднанай беларускай вайсковай школы. Мінск, 1932 год.

### «Не ўсе ў 99-м палку тварам да тэхнікі павярнуліся»

«Чырвонаармейская праўда» мела аўтарытэт сярод чытачоў. У газету пісалі, газету чыталі, газету чакалі. На пачатку 1930-х газета была жывой і смелай, наколькі гэта было магчыма ў той час. На яе старонках былі і крытыка, і гумар. Пульс штодзённага жыцця беларускіх аддзелаў Чырвонай Арміі 30-х гадоў мінулага стагоддзя можна адчуць праз некалькі невялічкіх нарэзак, датаваных першай паловай 1931 года.

«У каравульным памяшканні 99-га палка няма гадзінніка. Вартавыя заступаюць **на варту па сонцы**.
Ну, а калі на небе хмары ды сонца няма? А на гэты выпадак у 99-м палку ёсць чайнік. Самы сапраўдны чайнік, у якім добрыя людзі ваду грэюць.
Так, чайнік, толькі з малюсенькай дзірачкаю, каб вада маленечкім цурком, нават па кропельцы, з яго выцякала.
Заступае гэта вартавы на варту, нальё ў чайнік вады. Выцеча вада з чайніка, значыць, змяняцца час надышоў.
А кажуць, што не ўсе ў 99-м палку тварам да тэхнікі павярнуліся, не ўсе, кажуць, рацыяналізацыяй займаюцца. Хлусяць! Далібог хлусяць!
Як вы думаеце, тав. памкампалка па гаспадарчай часці?

Цынгель»

НАЦЫЯНАЛЬНЫ АРХІЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ. Ф. 4-П, ВОП. 1, СПР. 1107, АРК. 72

АНДРЭЙ ШПУНТ

Маршал Савецкага Саюза
**Іван Ігнатавіч Якубоўскі**

▶ «Чырвонаармейскай праўды» за 5 лістапада. На 3-й старонцы газеты — фота найлепшых курсантаў-выпускнікоў, сярод якіх быў і Якубоўскі — «камсарг, выдатны стралок».

Здаецца, толькі ўчора юнак выводзіў у анкеце, якую запаўняў перад паступленнем, — «Якубоўскі Янка, Ігнатаў сын», а вось ён ужо і камандзір, размеркаваны ў 27-ю Омскую двойчы Чырванасцяжную стралковую дывізію, якая дыслакуецца ў Віцебску...

Вайсковая кар'ера Янкі Якубоўскага атрымаецца па-сапраўднаму баявой. У 1935 годзе ён скончыць бранятанкавыя курсы ў Ленінградзе, пасля чаго вернецца ў Беларускую вайсковую акругу. Будзе прызначаны камандзірам танкавага ўзвода, затым роты, паўдзельнічае ў савецка-польскай і савецка-фінляндскай войнах 1939—1940 гадоў. Пачне выкладаць аўтабранятанкавую справу ў Пухавіцкім пяхотным вучылішчы. За два месяцы да нападзення Германіі на Савецкі Саюз прыме пад камандаванне вучэбны танкавы батальён. А 26 чэрвеня 1941 года ў Мінску, у раёне плошчы Свабоды, той самай, дзе сем гадоў таму маршыраваў падчас выпуску,

«Начальнік баявога забеспячэння 98-га стр. палка **вельмі крые матам**. Так, 25-га сакавіка ў зброймайстэрні ён аблаяў свайго падлеглага загадчыка артскладу. Патрэбна камандаванню палка зрабіць належную заўвагу, бо не спадабае так рабіць камандзіру РСЧА.

Вайко»

«Кравецкая майстэрня АБВШ пашыла курсантам шынялі з добрага матэрыялу, але пашыла так, што **насіць нельга** — адзін рукаў даўжэйшы за другі, сантыметраў на 5. Зад шыняля даўжэйшы за перад сантыметраў на 20. Панеслі хлопцы гэтыя шынялі ў гэтую ж майстэрню на перашыўку. А там кажуць: няма часу. Цікава, як жа гэта? Калі курсанты запыталіся, ці можна шынялі перашыць за свой кошт, дык ім адказалі: "Калі ласка, праз два дні будуць гатовы".

Вайскар Ш-м.»

«Цырульнік 190-га палка зусім не адпавядае сваёй пасадзе. Няма ніводнага чырвонаармейца, які выйшаў бы з цырульні без парэзанага твару. Не так даўно ён **чуць не адрэзаў губу** чырвонаармейцу Волкаву».




Аўтар карыкатуры, намаляванай у 1931 годзе, **як у ваду глядзеў, пазначыўшы датай на календары 1991 год.**



**Від з самалёта на Мінск, верасень 1941-га.** У цэнтры кадра — сучасная плошча Свабоды. Тут да вайны адбываўся выпускны парад Аб'яднанай беларускай вайсковай школы. Выпускнікі ішлі ад цяперашняга Суvolоўскага вучылішча, дзе знаходзілася Школа, пераходзілі мост праз Свіслач і падымаліся на пляц перад цяперашнім Кафедральным касцёлам. Парад адбываўся там, дзе цяпер праезджая частка вуліцы Леніна паміж касцёлам і ратушай. Тут жа, ля плошчы Свабоды, 26 чэрвеня 1941-га будучы маршал Якубоўскі знішчыў дэсант нацыстаў.

КРЫНІЦА: БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ МУЗЕЙ ГІСТОРЫІ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ, ФОНДАВЫ НУМАР НД24243. ФОТА ДЛЯ ДРУКУ НАДАЎ ПАВЕЛ РАСТОЎЦАЎ

у трохгадзінным баі Якубоўскі знішчыць варожы дэсант.

Затым у жыцці Якубоўскага будуць баі пад Мінскам і на Бярэзіне, абарона Магілёва, Сталінград, Курская дуга, бітва за Дняпро, захоп Сандамірскага плацдарма, дзе ягоны перадавы атрад выканае ролю ўдарнага наканечніка 3-й гвардзейскай танкавай арміі. Беларус будзе гарэць у танку, залечваць атрыманыя раны і зноў ірвацца на фронт. Ягоныя грудзі ўпрыгожаць дзве залатыя зоркі Героя Савецкага Саюза, найвышэйшая ўзнагарода Чэхаславакіі і дзясяткі баявых ордэнаў і медалёў, а на малой радзіме, у Горках, паўстане прыжыццёвы бронзавы бюст. У 1967 годзе Іван Якубоўскі трэцім з беларусаў (пасля Васіля Сакалоўскага і Сцяпана Красоўскага) прымерыць мундзір Маршала Савецкага Саюза...

## Вялікі тэрор

Лёс газеты «Чырвонаармейская праўда» і людзей, якія яе выпускалі, склаўся, як і звычайна ў той час, трагічна. У 1937 годзе газета працягвала выходзіць штодзённа, але толькі на адным аркушы. І паміж сухіх афіцыйных радкоў на змрочных газетных старонках нават цяпер адчуваецца ліпкае пачуццё страху і нейкай прыцiснутасці. Апошні нумар, які захаваўся, датуецца 16 мая 1937 года і мае № 110 (2069).

А лёсы амаль усіх згаданых у гэтым тэксце людзей, якія рабілі газету, бязлітасна паламаў так званы «Вялікі тэрор».

Язэп Адамовіч 22 красавіка 1937 года застрэліўся.

Аляксандр Самахвалаў, Анатоль Ажгірэй (Вольны) і Тодар Кляшторны расстраляныя ў ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937 года ў мінскай унутранай турме НКВД.

Сяргей Грахоўскі арыштаваны ў кастрычніку 1936-га, асуджаны як «член контррэвалюцыйнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі» на 10 гадоў. У 1949 годзе паўторна арыштаваны і асуджаны на пасяленне ў Новасібірскай вобласці. Вызвалены і рэабілітаваны ў 1955 годзе. ◆

# ГАЛЕНДРЫ



## Яны жылі пад Брэстам і ад іх засталіся толькі кветкі і камяні

**Кожную вясну ў лесе на берагах Буга зацвітаюць нарцысы. Гэтае хараство бачаць толькі тыя, хто мае пропускі ў пагранічную зону. Гэтыя нарцысы, на першы погляд, адзіная памяць, якую пакінулі па сабе галендры — этнічная група, што пражыла каля Брэста тры з паловай стагоддзі. Пішуць культуролаг Віктар Місіюк і гісторык Паўліна Скурко.**

### Хто такія галендры

Загадка. Адказу не знаюць ні даследчыкі, ні сам народ. Паводле адной версіі, гэта галандцы, якія невядома калі прыйшлі ў Прусію, германізаваліся мясцовымі прусакамі, а потым з Прусіі, з ваколіц Аленштайна (цяперашняга Ольштына), прыйшлі на Буг. Назву галендры атрымалі ад нямецкага *holländer* — «галандзец». Паводле другой версіі, галендры — немцы, а *haulander* са старанямецкай — чалавек, што высякае лес пад апрацоўку зямлі. Прозвішчы галендраў тыпова германскія: Людвіг, Гільдэбрант, Віт, Зелент, Баўм, Ота, Келт... Ёсць і трэцяя версія: нібыта галендры — нашчадкі славян-кашубаў, якія жылі ў ваколіцах Гданьска і ў XVI стагоддзі пераехалі на ўсход, на землі Радзівілаў. Разабрацца тут паможа хіба толькі генетычны аналіз і добрае этналагічнае даследаванне.

Адкуль бы ні прыйшлі галендры, іх першыя паселішчы ў Рэчы Паспалітай дакладна вядомыя: гэта Нэйдорф і Нэйброў, заснаваныя 400 гадоў таму на поўдзень ад




**Сяляне Нэйдорфа і Нэйброва, 1928 год.**

Берасця, цяперашняга Брэста. Нэйдорф — за 5–6 км на паўночны захад ад мястэчка Дамачава, Нэйброў — за 2–3 км на захад. Цяпер там палі і лугі, апошнія сляды галендраў — калодзежы — зруйнавалі 30 гадоў таму. Усё, што засталося, — 10 каменных надгробкаў ды ржавыя прылады для апрацоўкі зямлі, якія вясной тырчаць з разоры.

### Мова і вера

Галендры — лютэране. Прыйшоўшы на Буг, адразу пабудавалі ў Нэйдорфе кірху. Усё, што засталося ад яе, — звон і дзве жырандолі, якія вісяць цяпер у дамачаўскай царкве Святога Лукі.

Першы агульны перапіс насельніцтва Расійскай Імперыі 1897 года выявіў, што галендры, якіх тады было дзевяць вёсак, гавораць ужо на «маларасійскай», г.зн. украінскай мове. У Берасцейскім павеце на ёй размаўлялі 858 лютэран і 834 лютэранкі. Частка галендраў перайшла ў каталіцтва і збудавала ў Дамачаве сваю капліцу.

Як і беларускія татары, яны захавалі сваю веру, але перайшлі на мову навакольнага насельніцтва.

## Першыя нашы меліяратары: Ганс Міхалюк і Гертруда Янчук

### Рэдкія ўменні

Бужскія галендры спецыялізаваліся на меліярацыі, будавалі чыгункі, дарогі, вайсковыя ўмацаванні. Ёсць версія, што галендраў запрасіла каралева Бона: ствараць сістэму ірыгацыі. Гэты народ умеў засвойваць нізіны, быў спецам у пракладцы грэбляў і каналаў, якія ўмацоўвалі вярбой і таполяй. З вярбы таксама рабілі агароджы, што не давалі Бугу ў час паводак змываць з палёў урадлівы грунт. Гэты народ не змагаўся са штогадовымі веснавымі водамі, а навучыўся жыць у такіх умовах, піша нашчадак галендраў Антоній Харонжы. Гарышчы ў дамах рабілі такія, каб падчас паводкі там і чалавек, і жывёла маглі пераждаць некалькі тыдняў. Асобныя рыштаванні на па́лях будавалі для коней, кароў і інвентару.

«Пасля таго, як веснавая вада спадае, амаль усе мужчыны і многа хлопцаў ад 12 гадоў адпраўляюцца ў свет на заробкі. Дзе б ні будаваліся новыя фарты, дарогі, чыгункі, знойдуцца на земляных работах нэйдорфцы. Трэба бачыць, як спраўна і хутка яны працуюць з маленькімі, але моцнымі коньмі і маленькімі калёсамі ад світання да цёмнай ночы». Рабілі галендры пад Санкт-Пецярбургам, на Урале, у Сібіры, у Венгрыі, Румыніі, Славакіі ды Фінляндыі.
У 1937-м група галендраў працавала ў Кракаве — раўняла рэчышча Віслы. Іх вупраж з дугой і аглоблямі прыцягвала ўвагу мясцовых. Такая вупраж распаўсюджаная толькі ва ўсходніх славян. А нямецкую вупраж «у шлейку», якая была ва ўжытку ад Прыкарпацця да Дняпра, галендры якраз не выкарыстоўвалі.

Яшчэ адзін галяндэрскі навык — малочка. «Савушкаў прадукт» на Берасцейшчыне мае выбітных папярэднікаў. Да пачатку XX стагоддзя бужскія галендры мелі свой малочны кааператыў і славіліся сырамі — шляхетнымі, цвёрдымі, выспелымі да крышталікаў. Сыраварныя традыцыі аднаўляюць цяпер нашчадкі галендраў у Польшчы: падрабязней пра гэта чытайце ▸




**Кірха ў Нэйдорфе.**

▶ ў артыкуле Алеся Белага «Ці трэба абуваць беларускіх сыравараў у лапці» ў №2 «Нашай гісторыі».

### Што прынеслі галендры на Берасцейшчыну

Прозвішчы. Па-першае, нямецкія: Людвігі, Зеленты, Кунцы, Рылі, Бытавы, Пастрыкі, Бэндыкі, вытворныя ад іх. Раней лічылася, што галендры пазбягалі змяшаных шлюбаў, аднак шматлікія галяндэрскія прозвішчы, распаўсюджаныя цяпер у Беларусі, сведчаць, што нашчадкі лютэран — сярод нас. Па-другое, на Берасцейшчыне жывуць людзі з прозвішчам Алендар, і багата. Ясна, што ў саміх галяндэрскіх паселішчах такога прозвішча не было, яго давалі мясцовыя жыхары выхадцам з Нэйброва і Нэйдорфа. Значыць, сярод нас засталіся і нашчадкі галендраў. Прычым усе, хто трапляўся нам з такім прозвішчам, — высокія, рудавалосыя людзі, якія нібы сышлі з палотнаў Ван Дэйка.

Тэхналогіі: напрыклад, стрэхі на кроквах. Таксама галендры, відаць, прынеслі з сабой драўляны абутак — трэпы. Верхняя частка трэпаў скураная, а аснова з дрэва. Падобны абутак здаўна вядомы ў Галандыі, і гэта можа быць аргументам на карысць галандскага паходжання галендраў. Але драўляны абутак быў і ў іншых рэгіёнах...

А яшчэ адна памяць па галендрах — кірхі. Адно з найбольшых будаўніцтваў Брэста апошняга часу — новы аўтавакзал. Калі яго будавалі, захацелі знесці малы будыначак побач, былую кантору таварнай станцыі насупраць чыгуначнага вакзала. Але краязнаўцы падnялі дакументы, і выявілася, што гэта кірха. Ясна, што гэту кірху наведвалі не толькі немцы ды шведы, якія прыехалі ў Берасце ў канцы XIX стагоддзя, але і нашчадкі сялян-галендраў, што перабраліся ў горад. На Трышынскіх могілках Брэста захаваліся іхнія магілы.



ВІКТАР МІСІЮК

Ад Нэйдорфа – Нэйброва захавалася некалькі надгробкаў, і ўсе яны — камяні. Відаць, большасць помнікаў на галяндэрскіх могілках былі драўлянымі крыжамі. **Мясцовае насельніцтва галендраў слаба памятае, могілкі з імі ўжо не атаясамлівае: «якісь німці, якісь німэцькі могілкы».**

### Што галендры пераnялі з мясцовай культуры

Ды практычна ўсё. Усе каляндарныя святы галендраў паўтараюць мясцовыя, пераймаюцца і абрады. Напрыклад, Вялікдзень суправаджаецца знаёмымі ўсім палешукам абрадавымі дзеяннямі: біццём вярбой, упрыгожваннем хаты галінкамі з зялёным лісцем — і тэкстамі: «За тыждэнь Вэлыкдэнь. Будьтэ здоровы, як вэрба, будьтэ богаты, як вэсна, уставайтэ ранэнько, умывайтэся молочком, обтырайтэся ручнычком, мыйтэся водою, обтырайтэся шматою*».

Акрамя таго, галендры маюць каляндарныя святы, звязаныя з нехарактэрным для пратэстантызму культам святых Івана, Пятра, Міхала, Марціна. Святы адзначаюць паводле юліянскага календара, як праваслаўныя.

Жыхары Нэйдорфа мелі тыповыя мянушкі, якія з часам пераходзілі ў прозвішчы: Ясяньчук, Юранчук, Міхалюк, Андрыйчук, Гандзюк, Янчук, Слюсарук, Фрыдрук, Гірук, Кавальчук, Кухарка.

Гаворцы галендраў уласцівыя агульныя сістэмныя рысы ўкраінскай мовы і набор лакальных дыялектных асаблівасцяў. Адна з характэрных рыс іх гаворкі — гэта вымаўленне ненаціскнога [о] блізка да [у], яна і цяпер засталася на Берасцейшчыне і Валыні: вуда —



ANTONI CHORĄŻY PREZENTACJA «NADBUŻAŃSKIE OLĘDRY»

**Галендры на работах.**

вада, гурыхы — арэхі, гурілка — гарэлка, пусаг — пасаг, худыты — хадзіць, тупіро — цяпер.

А наколькі моцна галендры набраліся мясцовай культуры, якая багатая яна была, значыць! Калі ў 2017-м нашчадкі галендраў з Германіі і Расіі праехалі дарогай памяці ўздоўж Буга, то падпявалі мясцовым калектывам і дзівіліся, адкуль тут памятаюць іх «голэндэрскі пісні»: «Чорні очка, як тэрэн», «Там за гаем-гаем», «У сусіда хата біла», «Коло млыну, коло броду».

### Пратэсты

Галендры займаліся гаспадаркай, вызнавалі сваю веру, хоць здараліся і канфлікты. Напрыклад, у лютым 1928-га нэйдорфскі пастар абвясціў забастоўку школьнікаў. Грамада пратэставала супраць таго, што сярод мясцовых настаўнікаў былі адныя каталікі, хоць большасць вучняў дамачаўскіх школ — лютэране. Паліцыя аштрафавала бацькоў, і забастоўка спынілася. А праз два гады польскія ўлады перайменавалі Нэйдорф і Нэйброў у Масціцэ Гурнэ і Масціцэ Дольнэ. Многа прыкладаў дурных перайменаванняў мы ведаем з Савецкага Саюза, але аказваецца, што аналагічныя працэсы былі і ў міжваеннай Польшчы.

### Раскідала вайна

З 1939-га жыццё Нэйдорфа і Нэйброва — Мосціц Гурных і Дольных — кардынальна змянілася. Вёскі да таго часу разрасліся на два бакі Буга. 28 верасня Германія і СССР правялі па Бугу

* Шмата, шматка, анучка, кавалак палатна.

## Вяселле

Галяндэрскае вяселле было амаль такое ж, як і ў іншых берасцейскіх вёсках. І па парадку: першы дзень у маладой, другі дзень у маладога. І па ролях удзельнікаў: сваты, дружкі, свацці. І па стравах: з кашай у фінале. Абрады пачыналіся са сватання, сват меў пры сабе хлеб, загорнуты ў ручнік. Вяселле пачыналася з выканання песні «З'ездзіў коніка», якая спявалася ў кульмінацыйных момантах. Але штосьці засталося адметным з прадаўніх часоў. Звычай даваць кошык, каб адмовіць хлопцу падчас сватання — такі ж звычай быў у Германіі ды Галандыі.

Пасаг — ярка вышытыя падушкі, які рыхтуюць мамы, бабулі і сяброўкі нявесты. Пасаг — маёмасць, якую даюць дзяўчыне, якая выходзіць замуж. Акрамя адзення і посуду, багатыя сем'і давалі ў пасаг таксама зямлю і грошы.

Вясельныя чапцы вельмі цікавай формы, з рушачкамі. Іх адзяваюць на другі дзень вяселля, замест вэлюма, у гэтым жа чапцы жанчыну і хаваюць. Калі паглядзець вясельныя чапцы Германіі, Швейцарыі, іншых краін, то яны вельмі розняцца ад рэгіёна да рэгіёна, але ніводнага такога ж, як у галендраў, пакуль не знайшлі.

Найважнейшы элемент галяндэрскага вяселля — каравай, які ўпрыгожвала галінка — «рогач». Каравай — вялікі і прыгожы вясельны пірог. Яго вынас быў кульмінацыяй вяселля, а ўзамен за падарункі гасцям рытуальна выдавалі кавалак каравая.

Заканчвалася галяндэрскае вяселле «потрусынамы». «Патрусіны» — гэта такі мясцовы звычай, калі самыя блізкія людзі збіраліся, каб даядаць і дапіваць рэшткі вясельных страў.



Галяндэрскае вяселле.

дэмаркацыйную лінію і жыхарам забаранілі перабірацца з берага на бераг. Нават тым гаспадарам, чыя зямля засталася па іншы бок ракі. Як успамінае галяндэр з польскага боку, «магчымасці застацца на радзіме ў нас не было: выбар быў паміж усходнім кірункам, Сібір'ю, і заходнім, Вялікапольшчай». Некалькі чалавек выбралі ўсход, колькі сем'яў здолелі схавацца і перачакаць вайну недалёка ад роднай вёскі. Большасць абрала захад: у пачатку 1940-га выехалі ў недалёкія Славатычы, адтуль у Тэрэспаль — і на Познань. Там галендраў сталі прызываць у нямецкае войска, і ў 1941-м яны прыйшлі ў родныя мясціны ўжо ў складзе варожай арміі. Пасля вайны некалькі сем'яў Зелентаў вырашылі вярнуцца з Познаньшчыны на Буг. Прайшоўшы 600 км, выявілі, што іхніх дамоў ужо няма. Тады яны ўтварылі калоніі непадалёк, у Ганне і Даньцах.

А што стала з галендрамі з беларускага боку Буга? У пачатку 1941-га Саветы перасялілі іх у Дамачава, далей ад мяжы. Хаты тых, хто не пераехаў, разабралі. А ў 1945-м рэшткі галендраў зноў перасялілі — на польскі бераг, цяпер ужо без дамоў.

### Захаваліся ў Сібіры!

Сюды ў пачатку XX стагоддзя, пасля сталыпінскай хутарызацыі, прыйшлі тры «хадакі». Знайшоўшы добрае месца, вярнуліся з сем'ямі, арыентуючыся ледзь не па зарубках на дрэвах. Перавезлі з сабой усю гаспадарку: кросны, «варстаты», начоўкі, куфры... Да Першай сусветнай сюды перасялілася 36 сем'яў (кожная, лічыце, чалавек па дзесяць) і стварылі тры паселішчы з характэрнымі назвамі: Замустэчэ, Новына і Дахны. У савецкі час яны сталі Піхцінскам, Сярэднепіхцінскам і Дагнікам. Сярэднепіхцінск мясцовыя называюць «Новыной» і па сёння.

Суседзі галендраў — татары, чувашы і стараверы. Новапасяленцаў у Сібіры вызначылі як немцаў, хоць самі сябе яны звалі ўжо звыклымі «голэндрамі» ці «олэндрамі». Але гэтае найменне знішчылі Саветы разам з пратэстанцкімі абрадамі і характэрнымі імёнамі (Людвіг, Альбярціна). Пасля вайны пра сваю нямецкасць ужо баяліся заікнуцца.

У 1930-я піхцінскія галендры перажылі раскулачванне, у вайну — «працоўныя» лагеры. Цяперашні ўпаўнаважаны па правах чалавека Іркуцкай вобласці Іван Зелент успамінае пра бацьку Зыгмунта: «Ён вярнуўся з лагера ў 1945-м, быў настолькі змучаны, што яго ніхто не пазнаў, вырашылі — злодзей, і пазналі толькі потым, па адсечаным пальцы». У сёлах энкавэдысты пакінулі толькі старых і дзяцей, расказвае пажылая галяндэрка, і сачылі за тымі, хто застаўся: чакалі, калі загавораць па-нямецку. ▶

**Галендры, перасеrange ў Сібір, захавалі лютэранства, звычаі і сакавітую берасцейскую гаворку**

## Кухня

Стравы галендраў: мясны суп, забелены з вяршкамі, дранікі — «**фушар**», клёцкі, варэнікі з бульбяна-чаромхавай начынкай, з чарніцамі і з тварагом, крывяная каўбаса. У галендраў не быў забаронены алкаголь, на святочным стале стаяла і гарэлка. Брэндавы галяндэрскі суп — «**патрава**» — гатуецца лёгка: у невялікую колькасць кіпячай вады трэба накрышыць бульбу, папярэдне замяшанае на яйках крутое цеста, як для локшыны, раскачаць, парваць на дробныя кавалачкі і кідаць у ваду ўслед за бульбай; наліць малако, дадаць соль, спецыі, давесці да кіпення.

▶ «А мы ніводнага слова не зналі, размаўлялі па-хахлацку». Нацыянальнасць перасяленцаў пры пашпартызацыі вызначылі як украінскую — па мове зносін.

### Нашы ў тайзе

У трох сёлах Заларынскага раёна Іркуцкай вобласці жывуць 2 000 галендраў. Захавалі лютэранства, зрэдзьчасу да іх прыязджае пастар з Іркуцка, але нядзельныя набажэнствы і большасць абрадаў, напрыклад «хрысціны», праводзяць самі. На службах яны чытаюць польскамоўную Біблію. У сямейных зносінах усё яшчэ гавораць па-свойму.

Быт і культура піхцінскіх галендраў — гэта цяпер адзіная крыніца для вывучэння галяндэрскага жыцця на Бугу. У Сібіры захаваліся традыцыйныя хаты. У адным будынку з жылым памяшканнем («вялікая хата», сцены ў якой абмазаныя глінай і пабеленыя звонку і знутры) знаходзіцца стайка для жывёлы і ток для сена.

Каб захаваць культуру, на тры сялы працуюць два галяндэрскія музеі. Акрамя турыстаў, да піхцінскіх галендраў прыязджаюць нашчадкі бужскіх галендраў з Германіі. Кантактуюць паміж сабой яны ўжо праз перакладчыка.

Для расіян культура галендраў дасюль экзатычная, а што ўжо казаць пра мову. Адзін з наведнікаў галяндэрскага свята, паслухаўшы мясцовы ансамбль «Квіточка» («Кветачка»), у якасці прыкладу «ў цэлым зразумелай гаворкі» прыводзіць у сваім блогу радок песні: «Коза грае-грае, очкамы моргае». «Каза», якая на чымсьці грае, можа выклікаць вялікія пытанні, калі толькі не ўспомніць суперпапулярную дагэтуль на Берасцейшчыне ўкраінскую песню: «Козак грае-грае, очкамы моргае, а хто ж його батька знае, чого він моргае: чы на мої волы, чы то на коровы, чы на мое білэ лычко, чы на чорні бровы». ◆



КАРАЛЕЎСКІ МУЗЕЙ, АМСТЭРДАМ





**Галендры страцілі сваю мову і звычаі, адно засталося: жанчыны і праз 350 гадоў працягвалі насіць на галаве тыповы галандскі чапец.** Зверху: Ёханэс Вермеер. Малочніца. 1660 год. Знізу: у XX стагоддзі жанчыны-галендры ўсё яшчэ насілі чапцы, у адрозненне ад беларусак і ўкраінак, якія завівалі хусткі.

# *Сімвалы сямейнага шчасця беларусаў:*
# яечня, жыта і буслік



**Сімвал плоднасці, пладавітай сям'і ў беларускіх арнаментах.** Яго вышывалі на вясельных ручніках.

**Свой дом, цёплая вячэра, вясёлыя дзеці і пухнаты кот. Неяк так мы ўяўляем напоўнены шчасцем дом. А што складала шчасце ў сем'ях нашых продкаў? Як яго клікалі і бераглі?**

Паняцця «сямейнага шчасця» продкі не мелі, кажа этнолаг, кандыдат гістарычных навук Ірына Махоўская. Дабрабыт умяшчаўся ў паняцце «доля»: гэта і здароўе, і багацце, і паразуменне ў сям'і. У долі былі свае магічныя сімвалы, галоўны з якіх — збожжа.

### Збожжа

Цяпер на парозе загса маладую сям'ю абсыпаюць «еўрамі» і «далярамі». А некалі абсыпалі збожжам. Гэта сялянская валюта былых часоў, нязменны сімвал дабрабыту. Збожжам асыпалі «паязд», або «поезд» (конны картэж), маладога (жаніха) перад выездам да маладой (нявесты), поезд маладых перад выездам у царкву (усё гэта робяць і цяпер, толькі замест воза — машына). Дзяўчына сыпала зерне па кутках роднай хаты, калі развітвалася з ёй. Рабіла гэта і ў хаце маладога, а потым выпускала ў пакой курыцу (тая, трэба думаць, была ў захапленні).

Хлеб пакідалі як дарунак ля святых камянёў і крыніц, крошкі кідалі ў рэчкі, каб каровы не патапіліся. Каб пазбегнуць хваробаў, нашы продкі прыносілі ў лес хлеб з закручанымі ў яго валасамі і пазногцямі. Навошта? А гэта лесавіку замест чалавечай ахвяры. Пра такі звычай піша этнолаг Уладзімір Лобач.

Хлеб надзялялі эмоцыямі і пачуццямі, гэта была істота, з якой трэба было сябраваць. Пакрыўджаны хлеб мог і звесціся — і як тады быць?




### Яйка

Збожжа можа доўга захоўвацца і, трапляючы ў глебу, дае ўраджай. Гэтак і яйка — вечная патэнцыя жыцця. Яйка — цэлае, замкнутае, і з яго можа нарадзіцца птушка.

Курыца, як і яйка, была сімвалам плоднасці. Пах печанай курыцы для нас — пах дому. Продкі верылі, што пара, якая есць курыцу на вяселлі, будзе мець многа дзяцей.

А дзесьці курыца замянялася яечняй, якую маладыя мусілі з'есці ўдваіх. Адной лыжкай і ў асобным пакоі.

Нашы продкі злучалі сілы збожжа і яйка: велікоднае яйка клалі ў зерне, падрыхтаванае на пасеў. Лепшага сродку, каб прывабіць шчасце і багацце ў хату, не прыдумалі. Мацнейшай была хіба толькі сям'я, побач з якой сяліўся бусел.

### Буслік

«Хоць лёдам падаўлюся — пад Дабравешчанне з'яўлюся» — для нашых продкаў з'яўленне бусла было знакам, што зіме канец.

Буслік — істота сацыяльная, жыць побач з чалавекам яму яўна падабаецца. І чалавеку такое суседства ў радасць. Цяпер у некаторых вёсках пад бусліныя гнёзды аддаюць старыя аўтамабільныя шыны, а раней ладзілі на вяршынях дрэваў колы ад вазоў і паламаныя бароны. Каб прывабіць бусла, у гняздо клалі што-небудзь металічнае, бліскучае, яркую тканіну, манеты, а яшчэ цукар і хлеб. Для чаго ўсё гэта? Бо бусел — ахоўнік хаты, які беражэ яе ад пажару і навальніцы, верылі продкі. Кожны гаспадар раней быў рады буслінаму гнязду ў сваёй сялібе: значыць, маланка ў хату дакладна не патрапіць.

«Бусел — хтанічная птушка», — кажа Ірына Махоўская. Гэта значыць, ён звязаны з іншым светам. З іншага свету бусел прыносіць на зямлю вясну, з іншага свету нясе ў сям'ю дзяцей.

Чаму менавіта буслік, а не голуб або які-небудзь жаўранак стаў сімвалам сям'і ды бацькоўства? Відаць, быў самай віднай з птушак, жыў пры чалавеку. Людзі бачылі, што ў буслінай сям'і ідэальны лад: адзін шукае ежу, другі сядзіць з дзецьмі, а ў канцы дня ўсе збіраюцца ў гняздзе назіраць захад сонца.

**Паўліна Скурко**

# БАЯВЫЯ ЖУРАВЫ

## *старажытных літвінаў*

**Шляхта трымала жураваў замест сабак, піша доктар гісторыі Алесь Белы.**

Назву гэтага артыкула, канечне, належыць успрымаць з пэўнай іроніяй, але факт: даўней у Беларусі журавы былі свойскай птушкай.

На інфармацыю пра баявых жураваў я выпадкова натрапіў гадоў з пяць таму, бессістэмна шукаючы звесткі пра гісторыю ваколіц вёскі Люцінка на Валожыншчыне, якая ўжо шмат гадоў для мяне як малая радзіма. Вельмі цікавы дакумент захаваўся ў актавых («гродскіх») кнігах Менска канца XVI стагоддзя. Гэта скарга ўладальніка маёнтка Кіяўца Давіда Есьмана на Пятра Ляскаўніцкага, слугу ўладальніка Івянца Мікалая Салагуба, які застрэліў ягоных ручных жураваў:

Року 1582, мая 11 дня. На ўрадзе гродскага замка гаспадарскага Менскага перада мною, Янам Войнаю Епімахам, падстаростам Менскім, апавядаў і абцяжліва жалаваў яго міласць пан Давід Есьман на служэбніка пана Мікалая Салагуба, на імя Пятра Ляскаўніцкага, іж **з іншымі слугамі пана свайго жоравы мае хаваныя, дворныя, з ручніцы пастраляў**, у нябытнасці маёй на той час у тым двары маім Кіявецкім, каторых жоравей аднаго пастраліўшы і ўзяўшы, самому пану Мікалаю Салагубу, пану свайму, даў, а другога пастраліўшы пакінуў, з каторага пастрэлу [той жораў] здох.




Дзеля лепшага разумення кантэксту згаданага канфлікту варта зрабіць невялічкае адступленне. Выглядае, што Салагубы, тагачасныя ўладальнікі Івянца і ваколіцаў, вызначаліся зацятай ваяўнічасцю ў дачыненні да суседзяў. У тым жа годзе сустракаецца яшчэ і скарга паноў Дабрылеўскіх на Станіслава Салагуба пра напад івянецкіх баяраў (шляхціцаў-воінаў) на вёску Хамічы за 7 км ад Івянца. Род жа Есьманаў, вядомы ў нашым каляпушчанскім краі ўжо сама меней 500 гадоў, шчасліва дажыў да нашага часу, і я асабіста ведаю

**Актавая кніга** — кніга рэгістрацыі судовых спраў у судах Вялікага Княства Літоўскага.

**Гродскі суд** — суд, які разбіраў крымінальныя справы шляхты. Знаходзіўся на «гродзе» — замку.

сучасных яго прадстаўнікоў... Таму, праязджаючы цяпер праз Кіявец не менш чым разы тры на тыдзень, я прыгадваю гэтую гісторыю.

## Прыручыць жорава лёгка, але характар яго заўжды застанецца ваяўнічым



**Вандроўны сюжэт схаластычных энцыклапедый** на мініяцюры з «Каталонскага атласа» канца XIV стагоддзя.

Тая дзіўная бітва з журавамі, да таго ж свойскімі, якая скончылася забойствам мужнага абаронцы і захопам ягонага суродзіча ў палон, моцна мяне ўразіла. Я пачаў ужо мэтанакіравана шукаць звесткі пра свойскіх журавоў у нашай гісторыі.

### «Наляталі журавы дый з чужое стараны...»

У беларускім фальклоры журавы фігуруюць як носьбіты ўдачы і дабрабыту. Пабачыўшы жорава, трэба было сказаць: «Здароў будзь». У некаторых гуртах калядоўшчыкаў выступалі персанажы, пераапранутыя ў Жорава. У Асіповіцкім раёне да іх звярталіся: «Жораў, жораў! Пакажы свой нораў. Сцягні блін, вылеці ў комін!» У адной народнай песні спяваецца: «Наляталі журавы дый з чужое стараны, селі-палі на раллі дый расказвалі».

Доўгая дзюба птушкі вызначыла моцныя эратычныя канатацыі яе фальклорнага вобразу. У аднайменным танцы-гульні, канчатковай мэтай якога было стварэнне будучых шлюбных пар, удзельнікі імітавалі рухі жорава. Заданнем вядучага хлопца-«жорава» было выхапіць з кола адну з дзяўчат, інакш ён ізноў мусіў вадзіць. Рэфрэнам прыпеўкі да танца была празрыстая эратычная метафара: «Панадзіўся журавель дый у нашу канапель». Падобны танец з той самай назвай, дарэчы, існуе і ў грэцкай народнай традыцыі (па-грэцку «геранікос»).

У некаторых мясцовасцях існавала табу на прамое называнне птушкі сваёй назвай: «Трэба казаць весялец, а не журавель, а то будзеш увесь год журыцца». Ну, а самы вядомы вобраз такога чароўнага фальклорнага жорава выступае ў казцы «Дзед і Жораў». У казцы Жораў дорыць беднаму Дзеду чароўныя торбачку ды рог. ►

### Як здабыць маладых жураўлянят?

Трэба блукаць па балотах, зазіраць у самыя густыя зарасці, і, можа, удасца выпадкова натрапіць на добра схаванае гняздо, вучыць часопіс «Ніва» за 1896 год. Журавель вельмі дбайна хавае сваё гняздо, ніколі не ляціць адразу да яго, апускаецца ўбаку, а потым крадзецца хаваючыся. Калі знайшлі — трэба карыстацца выпадкам і забіраць птушанят (іх звычайна пара) — піша «Ніва». Яны лёгка звыкаюць да чалавека і бяруць корм проста з рук. Бойкія і самастойныя, жураўліныя птушаняты нагадваюць шчанюкоў вялікіх парод: тыя ж тоўсценькія лапкі і няўклюдныя рухі. Жураўляняты вельмі надакучаюць сваім аднастайным піскам, ад якога адвыкаюць толькі ўжо зусім дарослымі. Але радасць сяброўства з дарослым журавом перабівае гэтую нязручнасць, запэўніваюць аўтары «Нівы». Жораў разумее расклад жыцця сям'і, пачынае жыць інтарэсамі гаспадара і гаспадыні (часопіс прыводзіць у прыклад птушку, якая вельмі любіла ігру на раялі і заўжды прыходзіла ў хату, калі гаспадыня пачынала граць). Ён заходзіць у хату, абыходзіць усе куты, паказваючы сваю прыхільнасць. Пабачыўшы ежу ў чалавека, жораў будзе церціся, круціцца вакол, як сабака, пакуль не атрымае кавалачак. Аднак жораў вельмі самалюбівы: бойцеся пакрыўдзіць яго, асабліва незаслужана — аднойчы можна атрымаць нечаканы ўдар дзюбай.



**Бітва карлікаў з журавамі.** Дрэварыт з «Гісторыі паўночных народаў» шведа Олаўса Магнуса, сярэдзіна XVI стагоддзя.



**Грозны дазорца літоўскага птушніка.** Выява з часопіса «Тыгоднік ілюстраваны» за 1867 год.

### Між птушкамі як сабака

Фальклор фальклорам, але некалі журавы ў нас былі рэальнай і распаўсюджанай свойскай птушкай!

Прыручыць жорава адносна лёгка, але характар ягоны заўжды застанецца ваяўнічым. Гэта асабліва яскрава праяўляецца ў паўночных журавоў-сцерхаў. Баронячы свае інтарэсы, яны пускаюць у ход дзюбу, крылы і самую страшную зброю — кіпцюры. У гадавальніках і заапарках паміж журавамі здараюцца бойкі са смяротным канцом. Пры сямейных сварках у няволі самец і самка часам змагаюцца так, што могуць нават зняць са свайго суперніка скальп. Самка сцерха найчасцей адкладае два яйкі, і сцершаня, толькі вылупіўшыся ды згледзеўшы брата ці сястру, адразу ж спрабуе забіць канкурэнта. Гэта закон выжывання ў паўночных балотах. Дасведчаныя бацькі, ведаючы пра гэты інстынкт, трымаюць сваіх дзяцей паасобку або нават самі падзяляюцца: кожны выхоўвае па адным птушаняці.




Калі свойскія журавы жывуць на птушыным двары, то яны наводзяць парадак сярод качак і курэй. Справа ў тым, што журавы — птушкі чародныя, а таму ў іх выдатна развітая дысцыпліна,

**Жораў разумее расклад жыцця сям'і і пачынае жыць інтарэсамі гаспадара. Аднак жораў вельмі самалюбівы**

адчуванне іерархіі, неабходнае для доўгіх пералётаў да месцаў зімоўкі і назад. Сярод драбнейшых хатніх птушак журавель паводзіць сябе як важак чарады, а «шарагоўцы» навучаюцца разумець ягоныя гукавыя сігналы. Ударамі дзюбы ён спыняе звадкі сярод птушак, а з дысцыплінаванымі гадаванцамі паводзіць сябе ласкава, робіць рэверансы і прытанцоўвае. Жораў не дапускае, каб птушкі разыходзіліся далёка адна ад адной, а ў выпадку небяспекі сочыць, каб яны хаваліся па надзейных сховішчах. Заўважыўшы каршуна ці ястраба, журавель сам смела першы кідаецца на ворага, і звычайна яму ўдаецца прагнаць драпежніка. Калі ж куры разбрыдаюцца за межы птушніка, то ўвечары журавель заганяе іх дадому.

### На варце

Іншая сфера, у якой выкарыстоўваліся магчымасці свойскіх журавоў, — ахова двара і нават удзел у баявых дзеяннях. Журавоў прыручалі яшчэ старажытныя егіпцяне, потым звычай перанялі рымляне. Са Старажытнага Егіпта паходзіць легенда пра бітвы журавоў з пігмеямі ў нільскіх балотах, пра што пасля таксама пісалі антычныя аўтары Гамер, Пліній і пазнейшыя схаласты-энцыклапедысты. Не выключана, што гэтая легенда мела рэальную аснову: для нізкарослых жыхароў вярхоўяў Ніла журавы маглі ўяўляць куды большую небяспеку, чым для ўзброеных ручніцамі або гакаўніцамі шляхцічаў-літвінаў. Зрэшты, пасля аўтар «Гісторыі паўночных народаў» швед Олаўс Магнус перанёс гэты вандроўны сюжэт і на поўнач Скандынавіі.

Варта таксама згадаць, што назву «жураўлінага» мае адзін са стыляў баявога мастацтва славутага манастыра Шаалінь, які імітуе рухі птушкі падчас бою. Так што, магчыма, журавы ахоўвалі шляхецкія двары не




**«Дзед і Жораў» — афіша спектакля Беларускага тэатра «Лялька»** паводле вядомай п'есы Віталя Вольскага, напісанай на аснове народнай казкі.

толькі ад паветраных драпежнікаў, але і ад двухногіх няпрошаных гасцей. І ахова гэтая была зусім не фармальная. Як мы бачылі, ваяўнічай івянецкай шляхце,

**З курамі і качкамі журавель паводзіць сябе як важак, наводзіць дысцыпліну і бароніць ад каршуноў**



**Юлій Клевер. Беларускі пейзаж. Сядзіба Драчалукі** (фрагмент). 1901 год. З калекцыі Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі.

каб перамагчы журавоў у сядзібе Есьманаў, давялося выкарыстаць нават агняпальную зброю. Пасля ж яны спадзяваліся выкарыстаць палоннага жорава ў якасці ахоўніка ўжо свайго двара.

### Жораў у цэнтры Мінска

Традыцыя трымання журавоў як універсальных ахоўнікаў была ў нас жывая яшчэ нават стагоддзе-паўтара таму. Ідылічны вобраз птушніка тыповага літоўскага «дворыка» з грозным дазорцам на першым плане прадстаўлены ў адным з нумароў часопіса «Тыгоднік ілюстраваны» 1867 года. Магчыма, аўтара натхнілі ўспаміны Вінцэся Каратынскага, які быў штатным пастаўшчыком «літоўскіх» сюжэтаў для славутага варшаўскага часопіса. І мне прыемна думаць, што прататып гэтага аточанага лясамі дворыка месціўся дзесьці на абшарах Налібоцкай пушчы, добра вядомай Каратынскаму з дзяцінства.

А перад самай рэвалюцыяй, паводле ўспамінаў Міхала Крыспіна Паўлікоўскага, польскага пісьменніка і публіцыста родам з Беларусі, мінчукам быў добра вядомы свойскі жораў з Архірэйскага падворка (які тады займаў цэлы квартал, большую частку якога сёння займае гмах Дома афіцэраў). Жораў часам выходзіў на прагулку па вуліцы Падгорнай (сёння Карла Маркса) і па Аляксандраўскім скверы. Пры гэтым птушка была зусім не мірнаю. Яна нападала на неабачлівых мінакоў, прычым імкнулася патрапіць ім дзюбай у вока. Ва ўспамінах Паўлікоўскага жораў выглядае своеасаблівым царскім жандарам, яшчэ адной красамоўнай дэталлю ў доўгім шэрагу прыніжэнняў і здзекаў, якія даводзілася цярпець карэнным мінчукам ад каланіяльнай адміністрацыі.

Зрэшты, рэвалюцыя неўзабаве дачыста змяце з нашай зямлі і архірэяў з іх журавамі-«дзяржымордамі», і зямянаў-абшарнікаў. Не ўсяго з таго зніклага свету аднолькава шкада, але, бадай, традыцыю трымання свойскіх журавоў на птушніках у турыстычных комплексах накшталт Дудутак варта было б адрадзіць. Хай ужо не крыўдуе на мяне Мінпрыроды. ◆




**Яшчэ 100 гадоў таму журавель з Архірэйскага падворка нападаў на людзей на вуліцы Падгорнай (цяперашняй Маркса)**

# Падляшане, якія абудзілі беларусаў

**Сыны ўніяцкіх святароў, якія сталі прафесарамі еўрапейскага ўзроўню. Міхал Баброўскі і Ігнат Даніловіч маглі ўсё жыццё прасядзець у цёплым месцы, але сталі шукаць сябе і пражылі захапляльнае жыццё. Пра гісторыю сяброўства, сварак, пошукаў і выпрабаванняў піша кандыдат сацыялагічных навук Павел Церашковіч.**




**Вялікі двор Віленскага ўніверсітэта.** Карціна з Віленскага альбома Яна Казіміра Вільчынскага. 1850 год.

Гісторыя гэта адбылася на пачатку эпохі, якую спецыялісты сёння называюць «доўгім XIX стагоддзем». Яно пачалося выбухам Французскай рэвалюцыі ў 1789 годзе, а скончылася развалам шматнацыянальных еўрапейскіх імперый (Расійскай, Аўстра-Венгерскай, Германскай) у 1917—1918 гадах. А яшчэ яго часта завуць «стагоддзем народаў», бо менавіта іх абуджэнне да вольнага жыцця і прывяло да кардынальнай змены палітычнай карты Еўропы. Як жа так сталася, што магутныя, поўныя бляску імперыі ў выніку прайгралі правінцыйным, пазбаўленым уласнай арыстакратыі і гісторыі «плебейскім» народам, чыім непаўнавартасным сялянскім гаворкам, як лічылася, наканаваны адзіны лёс — назаўсёды адысці ў небыццё?

### Імперыі самі далі народам ключы

Інстынкт выжывання прымушаў імперскія ўлады пагаджацца на мадэрнізацыю: будаваць індустрыю, новыя шляхі камунікацыі. Усё гэта патрабавала масавай пісьменнасці, а значыць — масавай адукацыі і, адпаведна, вялікай колькасці настаўнікаў. Імі маглі станавіцца і тыя людзі, якім на працягу ранейшых стагоддзяў было лёсам наканавана быць толькі сялянамі і ў рэдкіх, вельмі рэдкіх, выпадках — парафіяльнымі святарамі. Дзеці вясковых настаўнікаў пераязджалі ў гарады, станавіліся юрыстамі, журналістамі, літаратарамі, прафесарамі. Натхнёныя ідэямі прагрэсу, яны марылі пра лепшую долю для сваіх народаў. У розных краях Еўропы: па-эстонску, па-брэтонску, па-славенску, па-славацку і на многіх

**Следчыя не даказалі ўдзел прафесараў у дзейнасці тайных таварыстваў**

іншых мовах — абмяркоўваліся адны і тыя ж сюжэты:

— Як дамагчыся лепшай долі, прагрэсу?

— Трэба зрабіць народ культурным, адукаваным.

— Як зрабіць гэта хутчэй?

— Трэба, каб школа працавала на роднай, зразумелай з дзяцінства мове.

— Дык яна ж вясковая, простая!

— Яна не горшая за іншыя, трэба толькі вывучыць яе, зрабіць правапіс, падручнікі, пісаць на ёй санеты, раманы, ставіць п'есы.

— А калі гэтаму перашкаджаюць?

— Трэба ўзяць свой лёс у свае рукі!

Так нараджаліся нацыянальныя рухі. Спачатку гэта было нешматлікае кола аматараў старасветчыны, пажаўцелых манускрыптаў, старадрукаў, збіральнікаў сялянскіх казак. І ўсё гэта рабілася толькі для таго, каб пакінуць успамін нашчадкам. Думак пра будучыню, прынамсі ўголас, не было.

Але на змену аматарам-летуценнікам прыходзяць «будзіцелі», агітатары за лепшую будучыню. Заснаваныя імі газеты і часопісы не адразу дасягалі поспеху. Для гэтага была патрэбна змена пакалення. А вось калі ў імперыях пачыналася аслабленне ўлады, нацыянальныя рухі рабіліся масавымі: узнікалі палітычныя партыі і раней ці пазней паўставала пытанне аб уладзе і ўласнай дзяржаве.

# Група моладзі пачала збіраць і чытаць старыя пергаменты

## Віленская прафесура і яе шкодны ўплыў

Калі гэта пачалося ў Беларусі? Даследчык Павел Баброўскі пісаў, што «пасля Венскага кангрэсу (1815 год) у заходніх губернях утварылася малавядомая партыя, што мела на чале некаторых прафесараў Віленскага ўніверсітэта, якія хутчэй хацелі б аднаўлення Вялікага Княства Літоўскага, марылі пра адраджэнне беларускай мовы, на якой быў выдадзены Літоўскі статут» (ён тады ўсё яшчэ дзейнічаў).

Міхаіл Каяловіч, праўрадавы гісторык і ідэолаг заходнерусізму, таксама ўзгадваў «невялікую групу палякаў», якія прыходзілі да высновы, што «яны не палякі, а тым больш не польскі народ іх краіны», і «задумалі аднавіць (у навуцы) самастойнасць заходняй Расіі». Пісаў пра гэта і стваральнік грунтоўнай гісторыі Віленскага ўніверсітэта Юзаф Бялінскі: «Пасля войнаў Напалеона, калі ў розных краінах пачала абуджацца ідэя нацыянальнасці, у Вільні група моладзі, галоўным чынам сыны ўніяцкіх святароў, у пошуках сваёй нацыянальнасці і рэлігіі пачалі збіраць і чытаць старыя пергаменты... На чале гэтай групы сталі Міхал Баброўскі і Ігнат Даніловіч».

Хто ж яны такія, гэтыя згаданыя прафесары?

Абодва яны, Міхал Баброўскі (1784—1848) і Ігнат Даніловіч (1788—1843), нарадзіліся ў сем'ях уніяцкіх святароў на Беласточчыне, недалёка ад Бельска-Падляшскага. З вялікай доляй верагоднасці яны б паўтарылі лёс сваіх бацькоў, але адкрыццё Віленскага ўніверсітэта стварыла для іх новыя магчымасці, якія мы сёння завём ліфтам сацыяльнай мабільнасці: Міхал стаў філолагам і багасловам, Ігнат — юрыстам. Абодва выдатна вучыліся, а пасля заканчэння ўніверсітэта засталіся ў ім выкладчыкамі. Ім прадказвалі бліскучую акадэмічную кар'еру, якая прадугледжвала працяглую стажыроўку ў прызнаных цэнтрах навукі і ўніверсітэцкай адукацыі. У 1817-м абодва выбіраюцца ў вандроўкі: Даніловіч — у Варшаву, Маскву і Санкт-Пецярбург, Баброўскі — у Прагу, Вену, Венецыю, Балонью, Рым, Парыж. Ігнат вярнуўся ў Вільню праз два гады, Міхал — праз пяць.



**Ігнат Даніловіч.**

Гэтыя пяць гадоў стажыровак вартыя асобнай публікацыі, магчыма, нават у стылі прыгодніцкага рамана. Падчас іх Баброўскі меў безліч сустрэч з самымі вядомымі вучонымі-славістамі таго часу, у шматлікіх бібліятэках і архівах даследаваў славянскія рукапісы і старадрукі. Ён карыстаўся магчымасцямі, каб вывучаць мовы: авалодаў ажно сямнаццаццю, у тым ліку арабскай.

У 1824-м у сувязі з судом над актывістамі таемных студэнцкіх ▶

## Баброўскі ведаў аж сямнаццаць моў



**Міхал Баброўскі.**



**Філарэты і філаматы**. Зверху — Тамаш Зан і Ігнат Дамейка, у цэнтры — Адам Міцкевіч, знізу — Антоній Эдвард Адынец і Ян Чачот.

▸ таварыстваў філарэтаў і філаматаў Бабро́ўскі і Даніловіч былі звольненыя з працы. Следчыя не даказалі непасрэднага ўдзелу прафесараў у дзейнасці гэтых арганізацый, але іх разам з гісторыкам-дэмакратам Іаахімам Лялевелем падазравалі ў «шкодным» ідэйным уплыве на студэнтаў. Пасля гэтага лёс развёў сяброў па розных шляхах.

### Рассварыліся: «Было б добра, каб ён ажаніўся, але не з казачкай!»

З 1824-га Ігнату было забаронена жыць у беларуска-літоўскіх губернях, што не паўплывала на яго акадэмічную кар'еру: ён працаваў прафесарам у Харкаўскім, Кіеўскім і Маскоўскім універсітэтах. Міхала з радзімы не высылалі, але пазбавілі магчымасці выкладаць: спачатку на два гады (1824—1826), а пасля закрыцця Віленскага ўніверсітэта — назаўсёды. Апошнія пятнаццаць гадоў жыцця Міхал Бабро́ўскі, навуковец з еўрапейскай вядомасцю, прафесар экзэгетыкі і герменеўтыкі, сябар Парыжскага і Лонданскага азіяцкіх таварыстваў, Археалагічнай акадэміі ў Рыме, Маскоўскага таварыства гісторыі і старарускай пісьменнасці, Камітэта па выпрацоўцы харвацкага правапісу ў Далмацыі, выконваў абавязкі простага парафіяльнага святара ў мястэчку Шарашова на Берасцейшчыне, недалёка ад Белавежскай пушчы.

З цягам часу змяняліся і погляды, і ў пэўнай ступені ідэнтычнасць сяброў. У Харкаўскім універсітэце Даніловіч зблізіўся з мясцовай суполкай выкладчыкаў-«украінафілаў». Іх ідэі настолькі захапілі яго, што выклікалі незадавальненне Бабро́ўскага. У лістах да супольнага сябра Іаахіма Лялевеля ён неаднаразова пісаў, што «падлясянін» (так ён часта называў Даніловіча ў ліставанні), «як бачна, цалкам схохліўся або таксама аказачыўся», што «было б добра, каб ён ажаніўся, але не з казачкай», і што трэба «Ігната перацягнуць са сталіцы хахлоў у сталіцу Ягелонаў». З другога боку, і сам Бабро́ўскі ў сярэдзіне 1820-х пераходзіць на пазіцыі панславізму. Будучыню славянскіх народаў ён бачыў не ў нацыянальным адраджэнні, а ў вяртанні да адзінай царкоўнаславянскай мовы, выкладанні яе ў школах і семінарыях. Цікава, што Бабро́ўскі прапаноўваў нават польскую мову перавесці на кірылічны алфавіт, таму што ў лацінцы «не ўсе пазначэнні гукаў адпавядаюць гучанню польскай мовы».

Ва ўсім гэтым нічога дзіўнага няма. Гэта была яшчэ не тая эпоха, калі сказ «Люблю Беларусь» значыў, што гэта пачуццё адналюба на ўсё астатняе жыццё. Так было і ў іншых народаў. Дастаткова ўспомніць лёс так званай «Рускай тройцы» — выдаўцоў першага заходнеўкраінскага часопіса «Русалка Днястровая»: Іван Вагілевіч пазней далучыўся да польскага руху, а Якаў Галавацкі эміграваў у Расійскую Імперыю, дзе ўзначаліў Віленскую археаграфічную камісію і пераўтварыўся ў адданага апалагета заходнерусізму. Шмат якія навукоўцы-збіральнікі не хавалі скептыцызму адносна будучыні сваіх народаў. Так, Фрыдрых Фельман, аўтар ідэі эстонскага эпасу «Калевіпоэг», лічыў, што шанцаў на існаванне самастойнай эстонскай нацыі няшмат. Падобнай думкі ў дачыненні да лёсу чэхаў меў і Ёзэф Добраўскі, з якім Бабро́ўскі быў асабіста знаёмы і падтрымліваў ліставанне.

## Шмат якія збіральнікі фальклору не хавалі скептыцызму адносна будучыні сваіх народаў

### «Назвы «Літва» і «Беларусь» ніколі не ўжываць»

На працягу пяці гадоў Даніловіч працаваў у камісіі Міхаіла Сперанскага, мэтай якой было ўпарадкаванне і перавыданне зводу беларуска-літоўскіх законаў. Здавалася, што навуковая праца Даніловіча набудзе і практычны сэнс. Але, калі ўсё было нарэшце падрыхтавана, улада вырашыла інача: у 1840-м «для выдалення ў жыхароў Паўночна-Заходняга края ўсякай думкі аб самастойнасці іх заканадаўства, якая можа служыць перашкодай да зліцця іх з карэннай Расіяй» Статут ВКЛ быў скасаваны. Ці было гэта выпадковым? Зусім не. Амаль адначасова, 18 ліпеня 1840 года, Мікалай І выдаў адзін з самых

**Адкрылі Скарыну, летапісы, Статут**

У чым Бабро́ўскі з Даніловічам не змяніліся, дык гэта ў апантанай цікавасці да беларуска-літоўскай мінуўшчыны.

**Міхал Бабро́ўскі** вядомы адкрыццём старажытных рукапісаў і кніг, сярод якіх ці не самая старажытная славянская кніга — «Супрасльская мінея» XI стагоддзя, выданні Францішка Скарыны, Івана Фёдарава, Пятра Мсціслаўца. Бабро́ўскі быў першым, хто назваў мову Скарыны беларускай. Ён падрыхтаваў рукапіс фундаментальнай працы «Славянскія друкарні ў Літве», якая не была выдадзена і не знойдзена да гэтага часу.

**Ігнат Даніловіч** не шкадаваў часу для пошукаў і публікацыі старажытных помнікаў права і летапісаў. Сярод іх — беларуска-літоўскі летапіс 1446 года, Летапісец Літвы і руская хроніка, Пасольская кніга Метрыкі ВКЛ. Найбольш увагі ён надаваў галоўнаму юрыдычнаму помніку — Статуту Вялікага Княства Літоўскага, зрабіўшы апісанне ўсіх рукапісных і друкаваных яго версій.

дзіўных загадаў часоў свайго царавання. На подпіс яму быў пададзены руцінны дакумент, у якім згадваліся Беларусь і Літва. Імператар закрэсліў іх і на палях пазначыў: «Надалей гэтыя назвы

## Імператар закрэсліў Беларусь і Літву і на палях пазначыў: «Надалей гэтыя назвы ніколі не ўжываць, а прапісваць губерні пайменна»

ніколі не ўжываць, а прапісваць губерні пайменна». Праз тое, што прапісваць усе дзевяць губерняў кожны раз пайменна было нязручна, з цягам часу за гэтым абшарам замацоўваецца новая казённая назва — Паўночна-Заходні край Расіі. Для паўнаты карціны трэба дадаць, што годам раней адбыўся Полацкі сабор, і, паводле трапнага выказвання Аляксандра Герцэна, «Мікалай з набожнай лютасцю высек уніятаў у праваслаўныя».

Так гады напружанай працы Ігната Даніловіча пайшлі намарна. Здароўе прафесара не вытрымала гэтага выпрабавання. У 1843-м ён выправіўся на лячэнне ў Сілезію — курорт Грэфенберг. Але было ўжо позна. Нямецкія дактары не далі рады. Міхал Баброўскі перажыў Даніловіча на 5 гадоў і памёр у сваім Шарашове ў 1848-м ад халеры. Сабраная сябрамі багатая калекцыя старадрукаў і рукапісаў разышлася па руках, значная частка страчаная назаўсёды. Такі сумны фінал гісторыі двух сяброў.

Але ў той жа час іх дзейнасць была пачаткам таго, што мы сёння завём нацыянальным адраджэннем. Сярод тых, на каго «шкодна» паўплывалі прафесары Баброўскі і Даніловіч, быў заснавальнік беларускай фалькларыстыкі Ян Чачот. Ад яго абазнанаму чытачу няцяжка давесці стужку нацыянальнага руху да сённяшніх дзён. ◆




**«Tradycyja»** — праект, накіраваны на развіццё і папулярызацыю беларускай традыцыйнай музыкі. У межах праекта — выпуск серыі ўнікальных CD-дыскаў з найлепшымі ўзорамі беларускага фальклору, а таксама канцэрты аўтэнтычных калектываў, фестывалі, майстар-класы, спеўныя сходы і этнаграфічныя экспедыцыі.

**Вясельныя песні і найгрышы вёскі Лявонпаль і яе наваколляў (у запісах 1968–1969 гадоў)**

Альбом уключае некаторыя ўзоры вясельных песень і найгрышаў з экспедыцыйных запісаў беларускага паэта, краязнаўца Сяргея Панізніка, запісаныя падчас сапраўднага вяселля ў 1968–1969 гадах у Мёрскім раёне Віцебскай вобласці. Большасць прадстаўленых на дыску песенных і інструментальных гучанняў шматбакова раскрывае стадыяльна розныя праявы вясельнай традыцыі паўночна-заходняй тэрыторыі Беларускага Падзвіння – Дзісеншчыны.







**Мужчынская традыцыя спеву (2018)**

Унікальнае выданне беларускіх мужчынскіх песень. На ім — запісы аўтэнтычных ансамблевых і сольных спеваў, пераважна з палескіх вёсак, сабраныя вядомымі этнамузыколагамі ў 70–80-х гадах XX стагоддзя.

**Фальклорны гурт «Варган» – Музыка Полаччыны (2018)**

Полацкі фальклорны гурт «Варган» прэзентуе дэбютны альбом з песнямі роднай зямлі. У альбом увайшлі песні і інструментальныя кампазіцыі, якія некалі гучалі на тэрыторыі Полаччыны і арганічна ўпляталіся ў гадавое каляндарнае кола.




Дыскі можна набыць у мінскіх кнігарнях «Акадэмкніга» (пр. Незалежнасці, 72) і «Логвінаў» (пр. Незалежнасці, 37а), этнакраме «Рагна» (вул. Сухая, 4).

Паслухаць анлайн песні можна на сайтах: https://soundcloud.com/tradycyja, https://tradycyja.bandcamp.com.



# На магіле маскоўскіх стральцоў

## Як антырасійскае паўстанне ў Магілёве перамагло

**Аляксей Бацюкоў піша пра забытую магілу ў цэнтры Магілёва. У час вайны 1654–1667 гадоў магілёўцы ўзнялі паўстанне супраць расійскай адміністрацыі — і перамаглі. А вось для расійскага войска ўсё скончылася трагічна.**

Мы стаім на рагу двух завулкаў у экспрэсіўным прыватным сектары амаль у цэнтры Магілёва. З даху суседняга дома, за нашай спінай, шалёна вые сабака — менавіта з даху. Тут, на схіле гары, дамы часам арганізаваныя больш па вертыкалі, чым па гарызанталі. Перад намі дом №1 па вуліцы Грушаўскай. Вось менавіта тут, дзе зараз брамка, стаяў крыж. У гэтым нас незалежна адзін ад аднаго пераканалі трое мясцовых жыхароў, дзве сталыя жанчыны і дзядуля, усе народжаныя ў 1930-х гадах. Вакол крыжа была агароджа, а пад крыжам і агароджай — невялікі курган. Пад насыпам — рэшткі шасцісот маскоўскіх стральцоў.

### Магіла ёсць, костак няма

Самусёва гара згадваецца як месца пахавання маскоўскіх стральцоў, ахвяр паўстання 1661 года, яшчэ ў Магілёўскай хроніцы Сурты




**Дом па адрасе Грушаўская, 1 у Магілёве.** На месцы ўваходнай брамы раней стаяў крыж.

**Вялікая вайна**

У 1654 годзе Расія пачала вайну супраць Рэчы Паспалітай, жадаючы далучыць Вялікае Княства Літоўскае і ўкраінскія землі. Рэч Паспалітая не змагла адбіць наступ, і расійскае войска дайшло аж да Вільні. Праваслаўнае насельніцтва нашых земель, стомленае ад канкурэнцыі з каталікамі, спадзявалася на лепшае жыццё пад рукой расійскага цара. Але сутыкненне мясцовых жыхароў з расійскім войскам стала сутыкненнем цывілізацый. Гэта вайна выразна паказала нашым продкам іх адметнасць ад жыхароў Расіі не толькі ў традыцыях кіравання, але ў найдрабнейшых звычках.

Беларускія землі былі занятыя Расіяй да 1661 года, пасля чаго Рэч Паспалітая, не без дапамогі мясцовага насельніцтва, змагла адбіць іх і ў 1667 годзе скончыць вайну. Галоўным геапалітычным вынікам стала далучэнне да Расіі ўсходняй Украіны і Кіева. А для беларускіх земель гэта вайна стала адной з самых крывавых: насельніцтва скарацілася ў два разы. Тая вайна пакінула след на сямейнай гісторыі кожнага з нас.



**Бурмістр Левановіч не вытрымлівае і хапае палаш гарадскога ка́та, прамовіўшы: «Пара!»**

і Трубніцкіх, напісанай праз некалькі дзесяцігоддзяў: «Большую частку [маскоўскіх вайскоўцаў] тут, дзе на Самусёвай гары стаіць крыж, голымі пахавалі, а частку каля Пакроўскага шпіталя, дзе лужына [балотца], а другіх пахавалі, дзе было можна».

Гэта даволі ўмоўная гара — проста частка схілу над Дняпром за Быхаўскім кірмашом. Цяпер гэтым тапонімам ужо не карыстаюцца, пра яго памятаюць толькі краязнаўцы, усю ж тутэйшую мясцовасць называюць Папінкай. А вось пра канкрэтную лакалізацыю брацкай магілы стральцоў мы даведаліся зусім нядаўна — з архіваў Аляксея Вінэра, якія нечакана актуалізаваліся для гісторыкаў год таму.

Мастацтвазнавец Аляксей Вінэр быў удзельнікам Магілёўскай экспедыцыі Урадавай камісіі па ахове помнікаў пры СНК БССР у 1939–1940 гадах. Гэтую працу ён не завяршыў (з-за вайны?), і толькі нядаўна ягоныя матэрыялы трапілі з сямейнага архіва ў Санкт-Пецярбургу ў фонды мінскага Царкоўна-гістарычнага музея і ўжо дзякуючы супрацоўнікам гэтай установы сталі даступнымі шырокаму колу. Задачай даследчыка было складанне эталоннага спіса помнікаў гісторыі і культуры ў нашым кутку тады яшчэ маладой савецкай краіны. Акрамя ратушы, цэркваў і жылых дамоў, у спісе помнікаў — дом, дзе спыняўся Пётр I, дом, дзе жыў Арджанікідзэ, брацкая магіла чырвонаармейцаў бронеатрада, што загінулі ў баі з палякамі ў 1920 годзе, і падобнае. І вось гэтая магіла на Самусёвай гары, якой цяпер няма і следу.

«На цяперашні час брацкая магіла ўяўляе сабой напалову разрыты, на глыбіню 4–5 метраў, насыпны пагорак. Агароджа, што стаяла раней, і драўляны крыж знішчаны ў 1936–37 гг.», — пазначае ў пашпарце Вінэр і дадае, што магіла пашкоджаная мясцовымі жыхарамі, якія бяруць з яе гліну. Падрабязнасцей знішчэння крыжа ён не адзначае, але нам удалося пра іх даведацца ад мясцовага жыхара.

Самага старога жыхара ў гэтых дамах мы знайшлі на суседнім завулку. Размаўляе ён цяжка, усе яго словы даводзіцца тлумачыць нявестцы. Яшчэ на ягонай памяці быў крыж, узгадвае ён. Але гэты крыж зрынулі. Нейкія маладыя людзі, якія змагаліся з рэлігіяй. Потым яны кінулі крыж у Дняпро. ▶

Там ён трохі паплаваў, яго прыбіла да процілеглага берага, і мясцовыя жанчыны выцягнулі яго з вады.

Гэтыя сцэны ён, малы тады хлопец, запомніў, а вось каб гліну тут бралі, каб нейкая магіла была — ужо не памятае. Не памятаюць і іншыя мясцовыя, дзе тут хаця б быў пагорак, з якога бралі гліну. Чалавечых парэшткаў на агародах не сустракалі. Што дзіўна — мясцовасць шчыльна забудаваная, узараная. А вось месца, дзе стаяў крыж (па версіі адной жанчыны — каплічка), нам паказалі дакладна.

## Як магілёўцы апраўдваліся

Плён працы Аляксея Вінэра аказаўся марным. Ані гэтае пахаванне, ані некаторыя іншыя аб'екты, на якія ім складаліся пашпарты, не атрымалі статусу помнікаў і паступова былі забытыя нават у самыя спрыяльныя для мемарыялізацыі часы — напрыклад, дом, дзе жыў Арджанікідзэ, альбо магіла байца бронеатрада на Мышакоўцы. А калі б прапанова Аляксея Вінэра была рэалізавана дакладна ў той форме, як сфармуляваў мастацтвазнавец, то ў Магілёве магіла маскоўскіх стральцоў магла б і зараз быць, даслоўна, «гістарычным помнікам барацьбы беларускага і рускага народаў супраць прыгнёту польскіх паноў і шляхты».

Больш бязглуздую фармулёўку для апісання тых падзей прыдумаць цяжка, згадзіцеся. Паўстанне, якое прадстаўнікі аднаго народа паднялі супраць прадстаўнікоў другога, выдаваць за сумесную барацьбу абодвух супраць прадстаўнікоў трэцяга народа, які ў падзеях увогуле не ўдзельнічаў... Але напісаць праўду, — што беларусы паўсталі супраць расіян і знішчылі расійскі гарнізон, — савецкі даследчык проста не мог. Урэшце ў сваім кароткім гістарычным экскурсе пры напісанні пашпарта Аляксей Вінэр вырашае дылему проста: ён сцвярджае, што паўстанне 1661 года было арганізавана палякамі — «польскай партыяй і шляхтай» на чале з кіраўніком горада — бурмістрам Левановічам. Сачыце за рукамі, што называецца. Каб



**За арганізацыю паўстання Магілёў атрымаў ад караля Рэчы Паспалітай герб**, якім карыстаецца і да сёння: тры срэбныя вежы, у адчыненай браме сярэдняй вежы — срэбны рыцар у даспехах з узнятым над галавой мячом.

расставіць кропкі над «і», зазначым тут, што гэтую нібыта «польскую» партыю складалі магілёўцы-беларусы, звычайныя месцічы. А шляхтай некаторыя з гэтых месцічаў сталі потым, прытым шляхецтва было ўзнагародай непасрэдна за арганізацыю і ўдзел у паўстанні.

Вось гэтае апраўданне магілёўцаў за паўстанне, якое праз маніпуляцыю катэгорыямі спрабаваў прапанаваць Вінэр, — рэч даволі тонкая. Яшчэ раз — апраўданне магілёўцаў за паўстанне, апраўданне магілы знішчаных расійскіх стральцоў. Ніякіх апраўданняў і быць не магло ў першыя гады пасля паўстання.

Наадварот — і мы пабачым гэта ніжэй, — магілёўцы ганарыліся паўстаннем і заснавалі на ім маленькі гераічны эпас.

Але ў цяжкія для Рэчы Паспалітай часы, калі войска былога праціўніка прыйшло ў горад гаспадарамі, калі ў горад зноў прыйшла Расія, магілёўцы і самі пачалі шукаць сабе апраўданняў.

Аўтар Магілёўскай хронікі Сурты і Трубніцкіх у запісах за 1706 год неабходныя словы ўкладае ў вусны Пятра I, калі той наведвае нашчадка аднаго з правадыроў паўстання, сына Пятра Казановіча, ва ўласным ягоным доме. Калі Казановіч-малодшы нібыта сумеўся, называючыся — Фёдар Казановіч, Пятровіч, то расійскі цар яго супакоіў: «Не пужайся, я ведаю, што за тваім бацюшкам маскву высеклі, на тое вайна была, а масква тады дурная была».

Аўтар гістарычных «Запісак ігумена Арэста» ўзгадвае сцэну, калі ў 1708 годзе граф Барыс Шарамецеў такімі самымі словамі — мы, маўляў, і самі вінаватыя былі — адгаворвае Аляксандра Меншыкава, які ўзначальваў расквартараванае ў Магілёве войска, помсціць магілёўцам за паўстанне.

Ці сапраўды гучалі гэтыя словы, ці гэта была распаўсюджаная ідэалагема, закліканая абараніць магілёўцаў ад помсты? Тым большай станавілася яе пераканаўчая моц, што ўкладалася яна ў вусны саміх жа расійскіх правадыроў.

Мала гэтага. Нядаўна магілёўскі краязнавец і руплівец Алег Давід Лісоўскі знайшоў і пераклаў унікальны тэкст 1824 года, які ўтрымлівае невядомую раней версію паўстання 1661 года. Беларускія землі толькі-толькі ўвайшлі ў склад Расійскай імперыі, і магілёўцам прыйшлося чарговы раз прыміраць улады з антырасійскай старонкай магілёўскай гісторыі.

Але па парадку.

## Тры версіі паўстання

Першая і самая рэалістычная версія магілёўскага паўстання 1661 года маецца ў творы «Annalium Poloniae Climacter Secundus» (1688) Веспасіяна Кахоўскага, сучасніка падзей:

**9 чэрвеня 1661 года кароль Рэчы Паспалітай Ян Казімір за паўстанне 1 лютага 1661 года падпісаў магілёўцам пяць прывілеяў.** Кароль даваў амністыю магілёўскім мяшчанам за тое, што ў 1654-м упусцілі ў горад расійскае войска, і вяртаў гораду ўсе правы ды вольнасці. Больш за тое, горад і гараджане прыраўноўваліся ва ўсіх правах і прывілеях да сталіцы, Вільні. Мяшчанам дазвалялася набываць сядзібы, што адкрывала ім магчымасць пераходзіць у шляхецтва. Таксама гораду далі новы герб (стары забралі разам з Магдэбургскім правам у 1654-м), які Магілёў захаваў дасёння.

**Фрагмент афармлення прывілея** з гербам.

**Герб, які Магілёў атрымаў** паводле прывілея 1661 года, выкарыстоўваецца і цяпер.

Каб адпомсціць за свае крыўды, магілёўцы прысягнулі на знішчэнне масквы. Прызначыўшы час і гадзіну, яны выслалі сваіх [месцічаў] для суправаджэння скаціны за горад. Там тыя высланыя месцічы загаласілі, што палякі і літва напалі на іх, пазабівалі, пабралі ў палон — і кінуліся да гарадскіх валоў, лямантуючы, каб масква іх ратавала. Маскоўцы паадчынялі брамы і высыпалі гуртам, сягаючы за палякамі і літвой. У гэты час магілёўцы пазачынялі брамы, і калі масква вярталася назад, то іх не пусцілі, а расстралялі з валоў. Рэшту, што заставалася ў горадзе, пасеклі на вуліцах.

Секлі, піша Кахоўскі, жорстка, нават жонак стральцоў не пашкадавалі.

Другая версія, куды больш вядомая, утрымліваецца ў Магілёўскай хроніцы Сурты і Трубніцкіх і ў «Запісках ігумена Арэста» — асноўных крыніцах па гісторыі Магілёва. З яе паходзяць звыклыя вобразы паўстання 1 лютага 1661 года. Жыхары горада змовіліся выкруціць ноччу крэмені з ружжаў стральцоў. Расійскія вайскоўцы крыўдзяць магілёўскіх пекарак, адбіраюць у іх пірагі, магілёўскі бурмістр Левановіч не вытрымлівае і хапае палаш гарадскога ка́та, заклікаючы «Пара! Пара!». «І пачалі былі маскоўцы браць верх, але нейкі гараджанін адамкнуў турму, у якой знаходзілася многа вязняў-палякаў. Гэтыя вязні добра дапамаглі».

З аднаго боку, хочацца думаць, што гэтыя дзве версіі дапаўняюць адна адну, адлюстроўваючы два розныя тэатры баявых дзеянняў. Але дзіўна, што яны ні ў адной дэталі не супадаюць. ▶

▶ Узнікае ўражанне, што альбо тут дапушчаная памылка Кахоўскім, альбо гэта ўсё ж дзве розныя карціны паўстання — рэальная і сканструяваная. Выставачная, так бы мовіць. А якую іншую варта было б везці да караля ў Варшаву, разам з палоннымі маскоўскімі ваяводамі?

## Магілёўцы ганарыліся паўстаннем і заснавалі на ім маленькі гераічны эпас

А вось што пра падзеі паўстання кажа новая, трэцяя версія. У 1822 годзе ў Магілёве пабываў невядомы падарожнік, які сціпла называе сябе ў нататках «галіцыянінам». Вынікам падарожжа па Беларусі і Літве стала серыя публікацый у польскамоўнай газеце «Gazeta Lwowska» ў спецыяльным літаратурным дадатку «Rozmaitości» 1824 года, тры з якіх былі прысвечаныя Магілёву. Аўтару давялося прабыць у горадзе доўга, таму ў тэкстах ёсць вялікая колькасць апісанняў побыту гараджан, а таксама ўтрымліваецца кароткі пераказ гісторыі Магілёва. Значную частку ў ім займае аповед пра магілёўскае паўстанне, які таксама прывядзём тут цалкам:

Гэта адбылося падчас зацятых і крывавых войнаў паміж Польшчай і Расіяй, калі падчас кіравання войта, якога звалі Пара, у горадзе было знішчана 7 000 [лічба, канешне, шматкроць завышаная. — **А. Б.**] расійцаў, якія збіраліся выразаць увесь горад. Войт Пара меў іншае імя, а імя Пара — ад «пара, час» — было яму дадзена ў мянушку. Калі ён вучыўся і хадзіў у школу, то іншыя дамачадцы вымушаныя былі яго чакаць і, перш чым узяцца за абед, казалі заўжды, што яшчэ няма студэнта, дык яшчэ не пара; а калі той вяртаўся, крычалі — вунь, «пара» ідзе, то-бок час даваць есці.

Правадыры маскоўскай збройнай сілы перад пачаткам дамоўленай паміж сабою разні сабраліся ў брацкай царкве (яна так называлася), чакаючы прызначанага часу. Войт вырашыў апярэдзіць расійцаў, бо даведаўся пра іх намеры ад адной дзяўчыны, у якую закахаўся расійскі салдат і якой ён раскрыў таямніцу, папярэдзіўшы, каб не знаходзілася на тым месцы.

То калі пачалася разня, адзін масковец кінуўся да царквы і распавёў начальніку, што Пара паўстаў. Той падумаў, што ён яму нагадвае, што ўжо прыйшоў час пачынаць разню, паглядзеў на гадзіннік і са спакоем адказаў, што яшчэ не пара, а толькі праз гадзіну. Але неўзабаве народ [магілёўцы] даў яму зразумець памылку, калі кінуліся да царквы, усіх выцягнулі на могілкі і пазбавілі жыцця.

«Яны хацелі нас усіх выразаць, вось нам і прыйшлося паўстаць» — так апраўдваюцца магілёўцы пачатку XIX стагоддзя перад уладамі Расійскай імперыі.

* * *

Нідзе няма ніякага следу «напаўразрытага насыпу» гліны. Як быццам бы растварылася магіла на рагу вуліцы Грушаўскай і 1-га Савецкага завулка. А краявіды тут фантастычныя, усё патанае ў кветках і зеляніне, а ўнізе, у даліне, прабягае Дняпро. ◆

**Магілёў, Ратуша.** Сучасны выгляд.

ФОТА: МУЗЕЙ ГІСТОРЫІ МАГІЛЁВА

# Чаму адны краіны багатыя, а другія — бедныя

**У 1977 годзе славуты амерыканскі эканаміст Пол Самуэльсан даводзіў, што савецкая эканоміка — лепшая, чым любая капіталістычная, бо забяспечвае хутчэйшае эканамічнае развіццё, поўную занятасць насельніцтва, стабільнасць цэн і выхоўвае людзей альтруістамі. У выданні 1961 года той самы Самуэльсан прагназаваў, што нацыянальны даход СССР перавысіць амерыканскі да 1984-га або ў крайнім выпадку да 1997 года. Як мы ведаем, здарылася зусім іншае. Сакраментальнае пытанне, чаму адны краіны і цывілізацыі развіваюцца, а другія — занепадаюць, аддаўна цікавіла навукоўцаў і палітыкаў. Чаму развалілася Рымская Імперыя? Чаму магутны Савецкі Саюз рассыпаўся за некалькі гадоў? І чаму маленькая Швейцарыя паспяхова існуе ўжо шмат стагоддзяў? Піша Максім Маханькоў.**

Эканамісты Дарон Аджэмаглу і Джэймс Робінсан у сваёй кнізе «Чаму нацыі занепадаюць. Паходжанне ўлады, багацця і беднасці» паспрабавалі даць адказ на гэтае пытанне. Гэтая кніга стала бестселерам у заходніх краінах, яе рэкамендавалі прачытаць Марк Цукерберг і Біл Гейтс.

Аўтары прыйшлі да высновы, што эканамічны поспех дзяржаў непасрэдна не залежыць ад рэлігіі, клімату, геаграфічнага становішча ці менталітэту. На думку Аджэмаглу і Робінсана, эканамічна развітымі на тым ці іншым гістарычным этапе становяцца тыя краіны, якія маюць больш *інклюзіўныя* палітычныя і эканамічныя інстытуты. Слова «інклюзіўныя» азначае «адкрытыя для новых гульцоў».

Аўтары цалкам адмаўляюць фактар геаграфіі і клімату. Яны даюць шмат прыкладаў з гісторыі, што месцазнаходжаннем краін ніяк нельга патлумачыць розніцу ва ўзроўнях жыцця.

Так, сёння большасць развітых краін месцяцца ва ўмераным кліматычным поясе, у той час як у раёне экватара і пустынь знаходзяцца самыя бедныя. Ёсць спакуса менавіта гэтым і патлумачыць беднасць краін Афрыкі з іх спякотным кліматам, неўрадлівымі глебамі, а таксама трапічнымі хваробамі. Гэтак жа сама можна патлумачыць багацце Паўночнай Амерыкі з яе ўмераным кліматам, а таксама беднасць Паўднёвай Амерыкі — з велізарнымі трапічнымі лясамі і вялікай колькасцю гор. Але як тады патлумачыць, што першыя земляробчыя цывілізацыі ўзніклі ў раёне сучаснага Блізкага Усходу, які цяпер (за выключэннем мясцін, надзвычай багатых нафтай) рэгіён даволі бедны? Шмат тысячагоддзяў менавіта гэты рэгіён дамінаваў, у той час як Еўропа з яе ўмераным кліматам адставала.

Яшчэ больш істотная розніца назіралася ў дакалумбавай Амерыцы. Інкі, майя і ацтэкі здолелі стварыць высокаразвітыя цывілізацыі ў трапічных і горных раёнах. У той жа час на тэрыторыі сучасных Канады і ЗША, у зоне з умераным кліматам, жылі плямёны з нізкім узроўнем развіцця, якраз там асяродкі высокай культуры не склаліся.

Адмаўляюць Аджэмаглу і Робінсан таксама культурныя фактары і менталітэт насельніцтва. Тут прыклады банальныя і вельмі пераканаўчыя — Паўночная і Паўднёвая Карэі, ГДР і ФРГ, мексікана-амерыканская мяжа... Гэтаксама як існуюць прыклады таго, як адсталыя краіны, не адмаўляючыся ад сваёй культуры і традыцый, рабілі істотныя скачкі ў сваім развіцці (як Японія ў XIX стагоддзі).

Крытыкуюць яны і меркаванне, што беднымі краіны становяцца з-за простага недахопу ведаў, адсутнасці добрых дарадцаў. У некаторых краінах Афрыкі пасля набыцця незалежнасці ў сярэдзіне XX стагоддзя працавалі адукаваныя эканамічныя дарадцы і эксперты з заходніх краін. Але, нягледзячы на іх веды і досвед, эканомікі маладых афрыканскіх краін працягвалі адставаць.

Аджэмаглу і Робінсан робяць выснову, што багатымі краіны робяць інклюзіўныя палітычныя і эканамічныя інстытуты.

У мадэлі, якую прапануюць аўтары кнігі, сацыяльныя інстытуты падзяляюцца на *экстрактыўныя* і *інклюзіўныя*. ▶




Клецкі раён, 90-я.

ФОТА АНАТОЛЯ КЛЕШЧУКА

▶ Экстрактыўныя інстытуты дазваляюць элітам кіраваць эканомікай дзяржавы дзеля асабістай выгады. Пры гэтым іншыя групы грамадзян выгады ад удзелу ў эканамічных адносінах пры такой сістэме маюць менш — відавочна ці невідавочна для сябе. Тыповымі прыкладамі такіх інстытутаў з'яўляюцца неабмежаваныя манархіі, розныя віды дыктатураў і алігархій, дзе эліты падтрымліваюць сваю ўладу з дапамогай арміі, паліцыі, залежных судоў і іншых структур, якія аўтары адносяць да экстрактыўных палітычных інстытутаў.

Інклюзіўныя ж эканамічныя інстытуты дазваляюць удзел калі не ўсіх, то вялікай колькасці грамадзян у эканамічных адносінах з магчымасцю атрымання прыбытку. Недатыкальнасць уласнасці гарантуецца, адчужэнне ўласнасці ці прыбыткаў не дапускаецца. Інклюзіўныя эканамічныя інстытуты падтрымліваюцца інклюзіўнымі палітычнымі інстытутамі, якія перашкаджаюць вузкім групам грамадзян рэгуляваць эканоміку дзяржавы на сваю карысць. Менавіта такія інстытуты з'яўляюцца асновай усіх ліберальных дэмакратый сучаснасці.

Большасць краін свету гістарычна мела экстрактыўныя інстытуты. Такая ж карціна захоўваецца і цяпер, але найбольш развітыя краіны маюць менавіта інклюзіўныя інстытуты.

Першай краінай у свеце, якая атрымала паўнавартасныя інклюзіўныя інстытуты, стала ў 1688 годзе Англія. Тады ў каралеўстве здарылася «Слаўная рэвалюцыя», у выніку якой у краіне ўсталявалася канстытуцыйная манархія, праводзіліся глыбокія рэформы, ствараліся механізмы абароны недатыкальнасці прыватнай уласнасці. Таксама была распрацаваная сістэма абароненых патэнтаў, што выклікала тэхналагічны бум, прамысловую рэвалюцыю (вынаходніцтва паравой машыны і ткацкага станка).

Для параўнання — прыклад з іншай эпохі. Падчас кіравання імператара Тыберыя адзін чалавек вынайшаў шкло, якое не б'ецца, і звярнуўся да імператара, спадзеючыся на ўзнагароду. Ён прадэманстраваў сваё вынаходніцтва. Тыберый спытаў яго, ці расказаў ён яшчэ камусьці пра сваё вынаходніцтва. Калі чалавек адказаў «не», Тыберый загадаў схапіць яго і пакараць смерцю, «каб золата не абясцэнілася».

Тыберый знішчыў інавацыю, у капіталістычнай Англіі такое стала немагчымым.

Пэўныя элементы інклюзіўных інстытутаў мелі да Англіі Рым (у эпоху рэспублікі), Венецыянская рэспубліка, гарады-дзяржавы майя. Але цалкам інклюзіўнымі гэтыя інстытуты назваць нельга. І як толькі інстытуты гэтых краін станавіліся экстрактыўнымі — напрыклад, калі Рымская рэспубліка ператварылася ў імперыю, калі арыстакратычная партыя ў Венецыі перамагла дэмакратычную, — адразу ж гэта вяло

да замаруджвання развіцця гэтых дзяржаў і іх заняпаду.

Адна з важных умоў існавання інклюзіўных інстытутаў — цэнтралізаваная дзяржава, здольная забяспечваць парадак, законнасць, збіраць падаткі і абараняць права ўласнасці. Калі дзяржава няздольная гэта рабіць, яе інстытуты нельга назваць інклюзіўнымі, нават калі ў гэтай дзяржаве розныя групы маюць доступ да ўлады і прыняцця рашэнняў. Адным з прыкладаў такой дзяржавы з'яўляецца Самалі. А мы назіраем тое самае ва Украіне — там то дэмакратыя была, але парадку не было.

А як жа з прыкладамі дзяржаў, якія развіваліся не толькі пры інклюзіўных, але і пры экстрактыўных інстытутах? У якасці прыкладу аўтары прыводзяць Савецкі Саюз з 1920-х па 1970-я гады і сучасны Кітай. Рост эканомікі магчымы ў экстрактыўных інстытутах толькі пры наяўнасці моцнай цэнтралізаванай дзяржавы, якая дырэктыўнымі метадамі можа пераразмяркоўваць рэсурсы з неэфектыўных галін эканомікі ў больш эфектыўныя, і да таго моманту, пакуль ёсць што пераразмяркоўваць.

Прыклад: СССР развіваў прамысловасць за кошт рэсурсаў вёскі. Сялянская гаспадарка СССР была арганізавана так неэфектыўна, а ўзровень тэхналагічнага развіцця быў настолькі ніжэйшы за еўрапейскі і амерыканскі, што простае пераразмеркаванне рэсурсаў на карысць індустрыі, дзе прадукцыйнасць працы і капіталу была нашмат вышэйшая, дало хуткі эканамічны рост.

Але такі рост ніколі не бывае трывалым, ён можа працягвацца толькі некаторы час і толькі пры ўмове экспарту тэхналогій звонку. На сур'ёзныя тэхналагічныя інавацыі экстрактыўныя інстытуты няздольныя.

Экстрактыўныя палітычныя і эканамічныя інстытуты, дадаюць яны, заўсёды спрыяюць канфліктам, бо канцэнтруюць вялізную ўладу і ўсе прыбыткі ў руках вузкай групы. Калі іншая група зможа атрымаць перамогу ў сутычцы, уся ўлада і ўсе рэсурсы дастануцца ёй. Спакуса вялікая. Таму барацьба за кантроль над неабмежаванай уладай часта перарастае ў канфлікт, а часам вядзе да поўнага развалу краіны.

Немагчымасць атрымаць поўную выгаду ад вынікаў сваёй працы адахвочвае большасць людзей ад максімальнай аддачы. А вузкія групы, якія кантралююць эканоміку, не зацікаўленыя ў пераменах, бо новыя тэхналогіі могуць аслабіць механізмы, якія даюць ім прыбытак і кантроль над ім, і стварыць іншыя групы, якія могуць накіраваць эканамічныя рэсурсы на падрыў улады ранейшых эліт.

Эканамічнае развіццё заўсёды суправаджаецца адміраннем неэфектыўных вытворчасцей. Адбываецца так званая «творчая дэструкцыя». Пры экстрактыўных інстытутах існуе страх эліт перад такой «творчай дэструкцыяй», таму што яны баяцца згубіць сваё манапольнае становішча ў эканоміцы.

Прыкладам такіх працэсаў можа служыць супраціў індустрыялізацыі з боку зямельнай арыстакратыі ў Расіі і Аўстра-Венгрыі. З'яўленне заводаў было нявыгадным зямельнай арыстакратыі, бо мог узнікнуць клас прамыслоўцаў, якія маглі адціснуць старую арыстакратыю ад улады. Ва ўмовах інклюзіўных інстытутаў зямельная арыстакратыя таксама магла імкнуцца прадухіліць індустрыялізацыю, але яна была не ў стане навязаць усім свае інтарэсы.

Тэорыя Аджэмаглу і Робінсана тлумачыць адставанне Паўднёвай Амерыкі ад Паўночнай (хаця ў дакалумбавай Амерыцы Цэнтральная і Паўднёвая Амерыка былі больш развітымі). Падчас іспанскай каланізацыі ў Паўнёвай Амерыцы быў уведзены інстытут «экам'енда». Мясцовыя жыхары абавязаны былі плаціць падатак і выконваць павіннасць (працу на рудніках). Фактычна гэтая форма залежнасці з'яўлялася формай эксплуатацыі карэннага насельніцтва. Каланізатары займаліся здабычай і вывазам у метраполіі карысных металаў — развіццё калоній іх не надта хвалявала. «Экам'енда» з'яўлялася тыповым экстрактыўным інстытутам.

У той жа час у англійскіх калоніях усё было інакш. У першай англійскай калоніі ў Амерыцы ў Джэймстаўне кампанія *Virginia* прапаноўвала кожнаму еўрапейскаму пасяленцу 50 акраў зямлі і будынкі ва ўласнасць. Была створана Генеральная асамблея, якая фактычна давала кожнаму мужчыну-пасяленцу права голасу. Была створана сістэма, якая давала каланістам стымулы працаваць самім, а не эксплуатаваць карэннае насельніцтва. Былі створаны інклюзіўныя інстытуты.

Вынік бачны дагэтуль.

Аджэмаглу і Робінсан мяркуюць, што да XIV стагоддзя Заходняя і Усходняя Еўропа развіваліся амаль аднолькава. Але потым у Заходняй Еўропе пачалася эпідэмія чумы. У выніку вясковае насельніцтва там істотна скарацілася, і спроба феадалаў атрымліваць з меншай колькасці людзей ранейшую колькасць даходаў прывяла да масавых сялянскіх паўстанняў. У выніку ў Заходняй Еўропе прыгоннае права пачало знікаць, з'явіўся рынак працы. У той жа час ва Усходняй Еўропе (у тым ліку ў Беларусі), якая была маланаселенай і таму не так пацярпела ад чумы, пачаўся адваротны працэс — узмацненне і другая хваля прыгоннага права, у той час як арыстакратыя здолела ўзмацніць свае пазіцыі. Гэта, як мяркуе Аджэмаглу і Робінсан, і абумовіла стварэнне больш інклюзіўных інстытутаў менавіта на захадзе Еўропы, а не на ўсходзе.

Аўтары кнігі праводзяць паралелі паміж ростам эканомікі СССР 1920-х па 1970-я гады і цяперашнім ростам эканомікі Кітая. І прагназуюць, што, калі Кітай не пачне праводзіць дэмакратызацыю, з залучэннем большай колькасці сацыяльных груп для прыняцця рашэнняў, яго можа напаткаць лёс СССР. Заходніх эканамістаў, якія захапляюцца яго імклівым ростам, аўтары параўноўваюць з тым Самуэльсанам, які захапляўся поспехамі СССР, не ведаючы рэальнай карціны.

Гісторыю прадказаць немагчыма, так завяршаюць кнігу Аджэмаглу і Робінсан. Цяжка сказаць, якія дзяржавы, якія рэгіёны вырвуцца наперад у XXI стагоддзі. Але з іх тэорыі вынікае, што гэта будуць не краіны, якія жывуць з продажу нафты і газу, а тыя, дзе створаны найлепшыя стымулы для інавацый. ◆



**Прэзідэнт Азербайджана Ільхам Аліеў** з жонкай, дзецьмі і зяцем.

WIKIMEDIA COMMONS

# Чаму Азербайджан не Арменія?

**Чаму ў Азербайджане дынастыя, а ў Арменіі і Грузіі — дэмакратыі? Прычыны — у нафце і збегу абставін, піша кандыдат гістарычных навук Анжаліка Пабеданосцава Кая.**

NVM DESIGN, SHUTTERSTOCK.COM



У каўказскіх народаў нашмат больш супольнага, чым падаецца на першы погляд. Нягледзячы на спрэчкі паміж імі, хто прыйшоў сюды першы і хто за ўсіх старажытнейшы, усе тры вялікія народы Паўднёвага Каўказа маюць падставы прэтэндаваць на «аўтахтоннасць», гэта значыць, спрадвечнасць на тэрыторыі свайго пражывання.

## Свае вытокі азербайджанцы звязваюць з Каўказскай Албаніяй

Армянскія аўтары любяць падкрэсліваць, што цюркамоўныя азербайджанцы прыйшлі на Каўказ у выніку міграцыі качэўнікаў у Сярэднявеччы. У адрозненне, маўляў, ад армянаў, што жылі там з глыбокай старажытнасці. Але варта ўлічваць, што прыход качэўнікаў прывёў не да поўнай замены насельніцтва на гэтай тэрыторыі, а толькі да яго цюркізацыі. Свае ж вытокі азербайджанцы звязваюць з Каўказскай Албаніяй. Апошняя не мела дачынення да Албаніі на Балканах, але была развітай дзяржавай на антычным Каўказе, што месцілася на тэрыторыі сучасных Азербайджана і Дагестана.




WIKIMEDIA COMMONS

У гэтай Албаніі гаварылі на мове, не падобнай ні да цюркскіх (турэцкая, азербайджанская, казахская...), ні да індаеўрапейскіх (армянская, славянскія, германскія, раманскія...). Яна ўваходзіла ў паўночнакаўказскую сям'ю і была блізкай да мовы сучасных удзінаў у Дагестане.

Албанцы спачатку хрысціянізаваліся, але зусім хутка іх землі заваявалі арабы. Лічыцца, што тыя албанцы, якія перайшлі ў іслам, у далейшым цюркізаваліся і з'яўляюцца продкамі цяперашніх азербайджанцаў.

Сучасныя спрэчкі і падзелы на Каўказе не былі адвечнымі. Узгадайце трохмоўнага тбіліскага паэта XVIII стагоддзя Саят-Наву. Той лічыцца армянскім класікам, хоць куды больш напісаў па-азербайджанску, дый твораў па-грузінску ў яго нямала.

### Большасць азербайджанцаў жыве… у Іране

Парадаксальная сітуацыя: у Іране азербайджанцаў больш разы ў два, чым у Азербайджанскай Рэспубліцы. Гэта — вынік Туркманчайскай дамовы 1828 года, паводле якой Расійская Імперыя забрала ў Персідскай Імперыі рэшту яе каўказскіх правінцый.

Азербайджанцы засяляюць увесь паўночны ўсход Ірана (раён горада Тэбрыз) і складаюць ладную частку іранскага палітычнага і культурнага істэблішменту. Азербайджанскія карані маюць і кіраўнік краіны аятала Хаменеі, і лідар апазіцыі, экс-прэм'ер Мусаві. Але, хоць той жа Хаменеі ведае азербайджанскую мову, нядаўна ён параіў бацькам вучыць сваіх дзяцей «цюркскай» мове дома. Па-за домам гэтыя дзеці азербайджанскай мове не навучацца: яе ні ў адукацыі, ні ў афіцыйным ужытку няма зусім, дзяржаватворчая мова фарсі дамінуе.

У Расійскай Імперыі азербайджанцаў звалі каўказскімі татарамі, а назва Азербайджан замацавалася толькі пасля абвяшчэння Азербайджанскай Народнай Рэспублікі (АНР) у маі 1918-га. Гэта была паўнавартасная дзяржава, але яна не ўтрымала незалежнасці з-за ўнутраных супярэчнасцяў. Але, як і Беларуская Народная Рэспубліка мела працяг у выглядзе БССР, на частцы тэрыторыі АНР узнікла Азербайджанская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка. У Савецкім Азербайджане фарміраванне азербайджанскай нацыі працягнулася.

**Назву «Азербайджан» выводзяць ад парфянскага Атурпатакан** — назвы царства, створанага апошнім ахеменідскім сатрапам Мідыі Атурпатакам. Ад назвы «Атурпаткан» праз сярэднявечнае персідскае яе вымаўленне «Адэрбадган» і пайшло слова Азербайджан. Да абвяшчэння Азербайджанскай Народнай Рэспублікі, да 1918 года, Азербайджанам называлі толькі тэрыторыі колішняга Атурпатакана, у складзе Персідскай Імперыі, вакол возера Урмія, на поўдзень ад ракі Аракс. Калі цюркі паўднёвакаўказскай часткі разваленай Расійскай Імперыі апынуліся перад неабходнасцю ўтварыць уласную дзяржаву — а да гэтага іх штурхалі англічане, тым больш што грузіны, армяне сваю дзяржаўнасць будаваць пачалі, а побач навісалі гіганты Іран, Турцыя, Савецкая Расія — маладая «татарская» інтэлігенцыя выбрала назву «Азербайджан», якая давала падставы прэтэндаваць і на далучэнне зямель, дзе пражывалі цюркі Персіі.

Падчас Другой сусветнай вайны, калі Іран быў акупаваны савецкімі і брытанскімі войскамі (у савецкім экспедыцыйным корпусе служыў у тым ліку беларускі паэт Пімен Панчанка, захаваліся шматлікія створаныя ім у той час вершы), СССР паспрабаваў у 1946 годзе аб'яднаць усе населеныя азербайджанцамі тэрыторыі. Праўда, калі гэта стварыла пагрозу вайны з брытанцамі і іранцамі, Саветы адступіліся.

### Адны — на Еўропу, другія — на асманаў

Рэлігія вызначыла сучаснасць каўказскіх народаў — але не наўпрост, як многія тое ўяўляюць.

Грузіны і армяне, хрысціяне, з надзеяй глядзелі на Еўропу, уключаючы ў гэтае паняцце ▶




**Культурны цэнтр Гейдара Аліева** ў Баку, збудаваны па праекце Захі Хадзід.

Турэцкая і азербайджанская мовы адрозніваюцца паміж сабой прыблізна гэтак, як беларуская і ўкраінская. Усё ўзаемна зразумелае, але, тым не менш, мовы розныя. У той жа час гістарычныя лёсы туркаў і азербайджанцаў моцна разніліся. Першыя былі ўладарамі Асманскай Імперыі, а другія жылі пад Персіяй. Туркі — мусульмане-суніты, а азербайджанцы — шыіты. Розніца, калі папулярна тлумачыць, як між хрысціянамі-каталікамі і хрысціянамі праваслаўнымі. Зрэшты, постсавецкія азербайджанцы ставяцца да рэлігіі без фанатызму.



▶ і праваслаўную Расійскую Імперыю. А вось мусульманскія азербайджанскія эліты, натуральна, арыентаваліся на Турцыю (блізкую па мове) і Іран (адзінаверны па рэлігіі, бо азербайджанцы збольшага шыіты, як і персы, а туркі — суніты). Таму грузіны і армяне пераймалі найноўшыя заходнія ідэі з першых рук, а азербайджанцы, так бы мовіць, у турэцкім пераказе.

**Саят-Нава лічыцца армянскім класікам, але ён пісаў і па-азербайджанску, і па-грузінску**

Пасля таго як Расія да пачатку XIX стагоддзя далучыла Паўднёвы Каўказ, армянскія і грузінскія эліты ахвотна і масава далучыліся да імперскай знаці і чынавенства. Для іх расейцы былі бліжэйшыя, чым туркі і персы. Азербайджанцы ж разглядалі Расію як «чужое». Спачатку яны масава ўцякалі ў Асманскую Імперыю, а пазней маргіналізаваліся. І бюракратычныя, і эканамічныя рычагі кіравання рэгіёнам аказаліся ў руках каго заўгодна, у тым ліку армян, толькі не ў «татараў».

Грузіны і армяне ўспрынялі еўрапейскія ідэі асветніцтва, дэмакратыі, а вось азербайджанцы доўга захоўвалі кланавую, феадальную свядомасць.

### Інтэрнацыянальны Баку

Калі Баку на пачатку XX стагоддзя дзякуючы нафтаздабычы ператварыўся ў найбагацейшы цэнтр, горад стаў да такой ступені неазербайджанскім, што нават цэнтрам незалежніцкага руху пасля Першай сусветнай вайны стаў не Баку, а правінцыйная Гянджа.

Глядзіце: у 1897 годзе сярод жыхароў Баку каўказскія татары, г.зн. азербайджанцы, складалі ўсяго 36%. Попыт на нафту рос, яе здабывалі ўсё больш, насельніцтва горада з 1897 да 1926 вырасла ў чатыры разы, а доля азербайджанцаў у ім скарацілася да 26%! Прычым асноўныя эканамічныя і гандлёвыя пазіцыі трымалі армяне, расейцы, яўрэі.

Яшчэ ў 1959 годзе ў Баку жыло 35% рускіх, 21% армян і толькі 33% азербайджанцаў, якія заставаліся народам збольшага сялянскім. У Баку азербайджанцы сталі большасцю толькі ў 1970-я гады. Вось чаму гэты горад быў традыцыйна рускамоўны. ▶




**Хлопчык на асле** ў гарах паміж гарадамі Куба і Шамаха ў паўночна-ўсходнім Азербайджане.

# Гісторыя Азербайджана: будаўніцтва імперый і нафтавыя бумы



**XI—XV ст.** Тэрыторыя Паўднёвага Каўказа, на якой жывуць продкі сучасных азербайджанцаў, апынаецца ў складзе імперыі туркаў-сельджукаў. Цюркізуецца мясцовае насельніцтва рэгіёна (албанскія і іранскія плямёны), у выніку складваюцца сучасныя азербайджанцы. Яны адрозніваюцца ад туркаў.

**XVI—XVIII ст.** Этнічна азербайджанская дынастыя Сефевідаў выбудоўвае вялізную імперыю ў Іране і прымежных краінах. Сефевіды пераводзяць іранцаў у шыізм, але самі пераймаюць персідскую культуру. Пасля падзення Сефевідаў у Персідскай Імперыі прыходзіць да ўлады іншая этнічна азербайджанская дынастыя Каджараў, якая праўладарыць там да 1925 года.

**1813 і 1828** Шэраг васальных ад Персідскай Імперыі ханстваў у выніку дзвюх расійска-іранскіх войнаў апынаецца пад уладай Расійскай Імперыі. Азербайджанскія землі падзеляць па рацэ Аракс: траціна пад расійскай уладай і дзве траціны — пад іранскай. Тая мяжа існуе дагэтуль.

**1872** Пачатак буйнамаштабнай здабычы нафты каля Баку.

**Май 1918** Пасля распаду Расійскай Імперыі абвяшчаецца незалежнасць Азербайджанскай Народнай Рэспублікі. На чале яе становяцца сацыялісты-мусаватысты, частка іх арыентуецца на Брытанію, частка — на Турцыю. На Паўднёвым Каўказе ідзе вайна ўсіх супраць усіх.

**1922** Прыходзіць савецкая ўлада, ствараецца Закаўказская Сацыялістычная Федэратыўная Савецкая Рэспубліка (ЗСФСР). Савецкія азербайджанцы першымі з цюркскіх народаў пачынаюць пісаць замест арабіцы на лацінцы. У 1936 ЗСФСР скасоўваецца і Азербайджан становіцца саюзнай рэспублікай. Адначасова азербайджанскую пісьменнасць пераводзяць з лацінкі на кірыліцу.

**1987—1994** Разам з распадам СССР выбухае крывавы карабахскі канфлікт. У выніку вайны за пераважна населены армянамі Нагорны Карабах армяне ўзялі пад кантроль не толькі тэрыторыю гэтай аўтаноміі, але і землі вакол яе.

**1993** Да ўлады ў Баку вяртаецца былы першы сакратар ЦК Кампартыі Азербайджана і член Палітбюро ЦК КПСС Гейдар Аліеў. Ён набярэ 98,8% галасоў на прэзідэнцкіх выбарах і застанецца на пасадзе да смерці ў 2003 годзе.

**1994** Пачатак асваення новых радовішчаў нафты на азербайджанскім участку Каспійскага мора.

**2003** Прэзідэнтам Азербайджана становіцца сын Гейдара Аліева, Ільхам. У 2009 годзе праз рэферэндум было скасаванае абмежаванне колькасці тэрмінаў на прэзідэнцкай пасадзе. У красавіку 2018-га Ільхам распачынае свой чацвёрты тэрмін.

**Плошча Дзяржаўнага Сцяга ў Баку** з 162-метровым флагштокам.



**Нафтавыя вежы** ў Нафтавых Камянях пад Баку.

WIKIMEDIA COMMONS





**Вуліца горада Лагіч на паўночным усходзе Азербайджана.** Лагіч з часоў Сярэднявечча славіўся вырабам кінжалаў і меднага посуду, упрыгожанага гравіраваным арнаментам.

Азербайджанская глыбінка, маса, глядзела на касмапалітычны Баку варожа. У «Народным фронце» 90-х ліберальную бакінскую інтэлігенцыю, якая нават па-азербайджанску гаварыць не ўмела, хутка адсунулі на задні план.

### Карані крыві

Незалежнасць, абвешчаную пасля Першай сусветнай вайны, не было каму абараняць. Армяне масава служылі ў расійскім войску, а азербайджанцаў там было вобмаль. Таму нават начальнікам Генштаба арміі Азербайджанскай Народнай Рэспублікі стаў не мясцовы ўраджэнец, а генерал Мацей Сулькевіч, беларуска-літоўскі татарын з Ліды.

Іран у азербайджанскай дзяржаўнасці не быў зацікаўлены, бо баяўся за лёс сваіх паўночна-заходніх зямель, заселеных этнічнымі азербайджанцамі.

У выніку азербайджанскія інтэлектуалы і палітыкі маглі спадзявацца толькі на Турцыю. Ад самага пачатку нацыянальнага адраджэння ў Азербайджане, як не ў якой іншай краіне, былі моцныя ідэі аб'яднання ўсіх цюркскіх народаў ад Міжземнамор'я да Кітая. Гэты рух атрымаў назву «панцюркізм». Яго прыхільнікі выступалі за інтэграцыю ці нават аб'яднанне з Турцыяй.

**Начальнікам Генштаба арміі Азербайджанскай Народнай Рэспублікі стаў не мясцовы ўраджэнец, а генерал Мацей Сулькевіч, беларуска-літоўскі татарын**

Першая сусветная вайна перацякла на Каўказе ў турэцка-армянскую, туркі ажыццявілі разню армян, а армяне — этнічныя чысткі Зангезура ды іншых тэрыторый, дзе яны былі ў большасці.

Вось адкуль у азербайджанцаў і армян такая ўзаемная нянавісць, якая выбухнула крывавай вайной 90-х. Клубок канфлікту дагэтуль не развязаны, і няясна, хто, калі і як здолее яго выраншыць.

### Трыумф і правал «Народнага фронту»

Выдатны расійскі сацыёлаг Дзмітрый Фурман, які спецыялізаваўся акурат на Каўказе, вызначаў тры асноўныя фактары, якія паўплывалі на фарміраванне постсавецкіх палітычных сістэм у розных краінах: рэлігійна-цывілізацыйны (традыцыйная культура, рэлігія), папярэдні гістарычны досвед народаў і роля асобы.

У канцы 1980-х гадоў, калі пачаў распадацца Савецкі Саюз, Азербайджанскі народны

фронт (АНФ), у духу сваіх папярэднікаў, узяў на ўзбраенне лозунгі панцюркізму і інтэграцыі з Турцыяй, а таксама радыкальную антыармянскую рыторыку. Гэтым ён моцна розніўся ад аналагічных рухаў еўрапейскіх рэспублік былога СССР.

«Народны фронт» у 1992 годзе нават прыйшоў да ўлады. На прэзідэнцкіх выбарах тады перамог лідар фронту, навуковец Абульфаз Эльчыбей. Аднак Эльчыбей не пратрымаўся пры ўладзе і года. Пры ім у Карабахскай вайне Азербайджан пацярпеў паразу, эканоміка развалілася, бо з краіны сталі масава ўцякаць славяне і армяне, у дзяржаўным кіраванні пачаўся хаос, сілавікі сталі змагацца паміж сабой. Урэшце супраць Эльчыбея ўзбунтаваўся прарасійскі ценявік-мільянер Сурэт Гусейнаў. Эльчыбей вымушаны быў прасіць дапамогі ў дасведчанага былога кіраўніка савецкага Азербайджана Гейдара Аліева. Той на заклік адгукнуўся, але ўладу больш не аддаў. І нават пасля ягонай смерці яна перайшла ягонаму сыну Ільхаму. Цяпер жа Ільхам зрабіў віцэ-прэзідэнтам сваю жонку Мехрыбан...

### Пад дажджом нафтадаляраў

Адсунуўшы ад улады нацыянал-дэмакратаў, Аліеў сам пераняў многія іх ідэі. У прыватнасці, курс на збліжэнне з Турцыяй. Менавіта былы член Палітбюро ЦК КПСС Гейдар Аліеў высунуў лозунг «Адзін народ — дзве дзяржавы». Гэта Азербайджан і Турцыя маюцца на ўвазе. У выніку ў 2009 годзе амерыканскае пасольства ў Баку ў адной са сваіх дэпешаў, якія трапілі ў «Вікілікс», зазначала, што, «хоць Азербайджан усё яшчэ абгрунтавана лічыцца часткай постсавецкай прасторы, у культурным, моўным і эканамічным дачыненні ён куды большы сатэліт Турцыі, чым Расіі».

## Ключавым годам для Азербайджана стаў 1994-ы

Ключавым годам для гісторыі сучаснага Азербайджана стаў 1994-ы. Менавіта тады Аліеў падпісаў з Арменіяй пагадненне аб спыненні агню, хоць армяне кантралявалі — і дагэтуль трымаюць — пятую частку тэрыторыі Азербайджана. У той жа самы год азербайджанскі ўрад падпісаў «кантракт стагоддзя» з кансорцыумам міжнародных нафтавых кампаній аб разведцы і здабычы нафты ў Каспійскім моры, што прынесла краіне стабільныя вялікія прыбыткі.

У 2005 годзе быў запушчаны ў эксплуатацыю нафтаправод з Баку да турэцкага порта Джэйхан, які вывеў азербайджанскую нафту на міжнародныя рынкі. Дзякуючы нафтавым грошам краіна пасля гэтага тры гады была сусветным лідарам па хуткасці эканамічнага росту. Гэта быў бум і лас-вегас: узровень беднасці ў краіне з 50% на пачатку 2000-х упаў да 5% у 2010-х. Краіна правяла «Еўрабачанне» і Еўрапейскія гульні, а «ікорная дыпламатыя» (і афшорныя рахункі ўладнай эліты) зрабілі Азербайджан антыпрыкладам для сусветных СМІ.

Прыбыткі ад экспарту прыродных багаццяў дазваляюць трымаць прыстойны ўзровень жыцця, але што будзе, калі яны зменшацца? 40% працоўнай сілы ў краіне дагэтуль занятыя ў малатаварнай сельскай гаспадарцы. Структурныя праблемы ў краіне застаюцца. Фармальна ў краіне дагэтуль існуюць і апазіцыя, і недзяржаўныя СМІ — але яны ні на што не ўплываюць. Гэта грамадства, дзе няма здаровай канкурэнцыі, дзе пануюць кланы, але аб'яднанае непрыязнасцю да армян. Ці такая сістэма зможа быць канурэнтаздольнай у XXI стагоддзі? Залежыць ад цэн на нафту. ◆



KHRYSTYNA BOHUSH, SHUTTERSTOCK.COM

**Традыцыйныя азербайджанскія стравы** — гэта кутабы, прэсныя піражкі з начынкай, і далма — галубцы з вінаграднага лісця, а са слодычаў — рахат-лукум. Чай п'юць з маленькіх шклянак. Азербайджан славіцца таксама прыгожым медным посудам.



AS FOOD STUDIO, SHUTTERSTOCK.COM

# Македонія

## малая краіна з вялікімі пантамі



PARGOVSKI JOVE, SHUTTERSTOCK.COM

**Невялікі народ між Сербіяй, Грэцыяй і Балгарыяй праявіў зайздроснае майстэрства выжывання. Пра сваё падарожжа ў Македонію піша Зміцер Панкавец.**

### Ад Аляксандра да славян

Калі гаворка заходзіць пра былую Югаславію, то ўспамінаюцца перш за ўсё імперская Сербія, пляжы Чарнагорыі, бурлівы баснійскі кацёл і нават заможная Славенія. Македонія ж на памяць прыходзіць апошняй. Ні табе вядомых брэндаў з гэтай краіны, ні нобелеўскіх лаўрэатаў, нават на чэмпіянат свету па футболе македонцы не выходзілі ні разу.

Хаця Македонія вядомая з антычных часоў. Гістарычна тэрыторыя, якая мела такую назву, знаходзілася на поўначы сучаснай Грэцыі і поўдні Македоніі. Арыенцірам можа служыць сучасны грэчаскі горад Салонікі. А сталіцай той старажытнай дзяржавы была Пела, яна таксама цяпер у Грэцыі. Славяне на гэтыя землі прыйшлі на тысячу гадоў пазней.

Ці быў славуты Аляксандр Македонскі македонцам? Такое пытанне можна пачуць часта. Жыхары краіны лічаць, што так. Грэкі так не лічаць. Паўднёвыя суседзі Македоніі ўвогуле не згодныя на такую назву краіны, бо ў Грэцыі ёсць рэгіён, які называецца Македонія. Гэта тармозіць працэс уступлення Македоніі ў Еўрасаюз і НАТА. Аж настолькі, што краіна ўсур’ёз разглядае пытанне змены назвы. І вось тут пытанне, што важнейшае: нацыянальная годнасць ці еўрапейская перспектыва?

Лічыцца, што першыя жыхары, якія змаглі ўтварыць у Македоніі дзяржаву, былі фракійцамі, а потым



## Галоўныя даты ў гісторыі Македоніі

**707–660 да н. э.** — кіраванне Пердзікі I, легендарнага цара македанян, заснавальніка славутай дынастыі Аргеадаў
**336–323 да н. э.** — гады кіравання Аляксандра Македонскага
**146 да н. э.** — тэрыторыя Македоніі ўвайшла ў склад Рымскай Імперыі
**VI стагоддзе** — прыход славян
**IX стагоддзе** — тэрыторыя Македоніі заваяваная Першым Балгарскім царствам
**Канец 880-х** — Святы Клімент засноўвае на беразе Охрыдскага возера манастыр
**905** — Святы Навум засноўвае ў Охрыдзе іншы манастыр
**1018** — Македонія ўваходзіць у склад Візантыйскай Імперыі
**1189** — Сербы захапілі Скоп'е
**1348** — Сербскі кароль Стэфан Душан захапіў усю Македонію
**1371** — Македонія пераходзіць пад кантроль туркаў
**1689** — Ваявода Карпош падымае паўстанне супраць туркаў
**1880** – султан адхіляе праект самакіравання Македоніі
**1888** — сербскі дыпламат Стоян Навакавіч заяўляе пра існаванне асобнага македонскага народа
**1893** — македонская моладзь у Салоніках засноўвае «Унутраную македонска-адрынскую рэвалюцыйную арганізацыю»
**1903** — Іліндэнскае паўстанне за незалежнасць
**1913** — па выніках Балканскіх войнаў 1912–1913 гадоў тэрыторыя Македоніі падзеленая паміж Балгарыяй, Грэцыяй і Сербіяй. Вардарская Македонія ўвайшла ў склад Сербіі і атрымала назву «Паўднёвая Сербія»
**1918** — Сербія разам з тэрыторыяй Македоніі ўваходзіць у склад югаслаўскай федэрацыі (Каралеўства сербаў, харватаў і славенцаў)
**1929–1941** — Вардарская банавіна ў складзе Югаславіі
**1941** — нацысты падзялілі Вардарскую банавіну паміж Балгарыяй, Сербіяй і Албаніяй
**1944** — спроба абвяшчэння Незалежнай Рэспублікі Македоніі на тэрыторыі югаслаўскай і грэчаскай частак краю
**1946** — Македонія ўвайшла ў якасці саюзнай рэспублікі ў федэратыўную сацыялістычную Югаславію
**1991** — атрыманне незалежнасці

іх змянілі грэкі. Славяне на гэтых землях з'явіліся толькі ў V стагоддзі, у рамках Вялікага перасялення народаў. І не толькі прыжыліся тут, але і аказаліся культурна мацнейшымі, асіміляваўшы многія іншыя як карэнна балканскія, так і прышлыя народы. Цюркі-булгары, напрыклад, неўзабаве перайшлі на славянскую мову і сталі продкамі сучасных балгар-славян.

### Штучная нацыя?

Македонскі нацыянальны рух напачатку складаўся з краёўцаў, якія бачылі сваю будучыню ▶



**Іосіп Броз Ціта быў тым чалавекам, пры якім македонцы сфарміраваліся як асобны народ.** На фота: Ціта з жонкай у Белым доме з прэзідэнтам Ніксанам.

WIKIMEDIA COMMONS


ALEX W, SHUTTERSTOCK.COM

**Гэта не рэзідэнцыя прэзідэнта**, а Археалагічны музей.

у аўтаноміі ў складзе Балгарыі, а пра незалежнасць не думалі.

Перапіс 1895 года паказаў, што на гэтых землях жыве 690 тысяч балгар, 1,1 мільёна мусульман, 600 тысяч грэкаў, 80 тысяч яўрэяў. Македонцаў, як і албанцаў, тады яшчэ асобна не выдзялялі. Паколькі моўна і культурна яны вельмі блізкія да балгар, то як балгар іх тады і ўлічвалі.

Праўда, палітычна пытанне адметнасці македонцаў ужо тады ўздымалася. Найперш гэтую тэму сталі ўздымаць сербы. Так, уплывовы сербскі дыпламат Стоян Навакавіч у 1888 годзе афіцыйна заявіў, што існуе асобны македонскі народ і існуе македонская мова. Сербы мелі тут свой палітычны разлік: яны хацелі далучыць землі вакол Скоп'е да сябе. Палітычная ідэалогія, што сфармавалася на гэтым грунце, атрымала назву «македанізм». Сербскія навукоўцы даказвалі, што македонцы — нашчадкі славян і старажытных македонцаў, а вось балгары — гэта зусім іншае: славянамоўныя цюркі. Друкаваліся карты, у якіх македонцы ўпершыню фігуравалі як асобная нацыя.

Македанізм знайшоў водгук у часткі мясцовай інтэлігенцыі. Радыкальная моладзь заснавала ў Салоніках «Унутраную македонска-адрынскую рэвалюцыйную арганізацыю». Адно яе крыло высунула лозунг «Македонія для македонцаў» і сфармулявала ідэю аб незалежнасці. 2 жніўня 1903 года выбухнула Іліндэнскае паўстанне супраць Асманскай Імперыі (Іліндэн — дзень Святога Іллі). Яго ўзначаліў 25-гадовы рэвалюцыянер Мікола Караў, постаць у нечым сугучная з нашым Кастусём Каліноўскім.

Паўстанцам удалося захапіць некалькі гарадоў, абвесціць Крушаўскую рэспубліку (ад горада Крушава ў горнай часткі Македоніі), але пратрымаліся яны ўсяго 10 дзён.

Існуе меркаванне, што македонцы — гэта такі штучны народ, які калісьці прыдумалі хітрыя сербы, каб аслабіць сваіх супернікаў-балгараў. Хоць, мабыць, каму-каму, але не беларусам расказваць падобныя гісторыі. Нас таксама называлі часткамі розных нацыянальнасцяў, але вось жа мы ёсць на карце Еўропы. Тое самае і з македонцамі.

Пасля Другой сусветнай вайны югаслаўскі камуністычны лідар Іосіп Броз Ціта разам са сваімі памочнікамі таксама ўсяляк спрыялі развіццю македонскага нацыяналізму. Але для тагачаснай Македоніі, як і для тагачаснай Беларусі, была не дзіўная сітуацыя, калі адзін з братоў лічыў сябе балгарынам, а другі — сербам (як у нас рускім і палякам). У 1991 годзе Македонія ў працэсе распаду адзінай Югаславіі стала незалежнай дзяржавай. Прытым калі ў іншых частках былой федэрацыі распад суправаджаўся крывавымі войнамі, у Македоніі аддзяленне адбылося мірна.

## Як дабрацца?

Падарожнічаць па Еўропе цяпер элементарна. Амаль уся яна перавязаная нітачкамі лаўкостаў. Гэта танныя авіялініі, якія дазваляюць пранесці з сабой на борт толькі невялікі заплечнік. Самыя


ЗМІЦЕР ПАНКАВЕЦ

Вуліцы **старога Охрыда.**




**Від на раку Вардар.** Стадыён у Скоп'е носіць імя антычнага цара Філіпа II, а аэрапорт — Аляксандра Македонскага.




Царква на беразе Охрыдскага возера.

папулярныя лаўкосты — *Ryanair* і *Wizz Air*. Апошні акурат лётае ў Скоп'е. Прамых рэйсаў ні з Мінска, ні Вільні, ні з Варшавы вы, праўда, туды не знойдзеце. Давядзецца зрабіць перасадку ў Будапешце, Браціславе, Брусэлі, Мальмё ці Вене.

Білет туды і назад з Варшавы каштуе 60–70 еўра.

Што тычыцца аэрапорта Скоп'е, то сустракае ён вялікім помнікам Аляксандру Македонскаму. Названы аэрапорт таксама ў гонар палкаводца. Увогуле, у гэтай краіне вам не дадуць забыцца, каму належыць Аляксандр.

Македонскіх візаў беларусам атрымліваць не трэба. Пішуць, што для наведвання краіны трэба турыстычны ваўчар ці запрашэнне. Але калі ў пашпарце ёсць актуальная шэнгенская віза, то можна ўехаць у Македонію і па ёй. Ніякіх пытанняў у аэрапорце не задаюць. Толькі кажуць, што радыя вітаць у сваёй краіне.

## Чым перасоўвацца?

З аэрапорта Скоп'е да горада ходзяць аўтобусы. Праезд у іх каштуе ў раёне 3 еўра. Давозяць да цэнтра Скоп'е яны за 40 хвілін. Таксісты бяруць каля 20 еўра. (Для параўнання: у суседняй Чарнагорыі, у Падгорыцы, нам сказалі, што ніякіх аўтобусаў да аэрапорта няма, едзьце на таксі. Знайшлася альтэрнатыва ў выглядзе чыгункі, але давялося ісці пешшу каля 3 км.)

Па самой Македоніі лепш таксама падарожнічаць аўтобусамі. Чыгунка ў Македоніі знаходзіцца ў зародкавым стане. Ды і цягнікі лічацца тут не надта надзейным транспартам, яны вечна ламаюцца ды спазняюцца. Што для Балканаў, у прынцыпе, таксама сітуацыя звычайная.

Аўтобус са Скоп'е ў Охрыд каштуе каля 7 еўра. Можа быць і даражэй. Ідзе аўтобус каля 4 гадзін, але гэта паездка, можна сказаць, з аднаго канца краіны ў другі.

А вось на роварах у Скоп'е, з усімі яго ўзгорачкамі, крывулькамі і калдобінамі, асабліва не паганяеш. Пешшу надзейней.

## Дзе жыць?

Праблем няма ніякіх. Заходзіш на любы сайт з пошукам гатэляў і абіраеш сярод дастаткова танных варыянтаў. Прымальна жыць у цэнтры Скоп'е за 15—20 еўра за ноч. Калі даражэй, то гэта ўжо будзе гатэль з усімі выгодамі. Тым і добрая Македонія, што цэны тут зусім не кусаюцца. Мы жылі ў апартаментах у самым сэрцы Скоп'е, з вокнаў была бачная цэнтральная плошча, за дзве ночы заплацілі 35 еўра. 17 з іх пасля вярнуліся па букінгаўскім купоне. Так што ноч каштавала меней за 10 еўра.

Тое самае можна сказаць і пра Охрыд. Там звычайна гаспадары вілаў здаюць асобныя пакоі. Умовы абсалютна прыстойныя. Але што тычыцца Охрыда, то гаворка толькі пра несезон. У летні час каштаваць гэта будзе даражэй, бо ахвотных пагрэцца на беразе Охрыдскага возера шмат.

## Якія там грошы?

Македонская валюта называецца дынар. Яна прывязаная да еўра. Курс — 61 дынар за еўра. Калі мяняеце валюту, то трэба быць уважлівымі, ці не бяруць у гэтым абменніку камісію, ці не махлярскі тут курс. Такое таксама бывае. ▶

Ну і, канечне, асаблівасць Македоніі, як і ўсіх Балканаў, у тым, што тут далёка не ўсюды можна разлічыцца карткай. Пакуль гэта хутчэй выключэнне, чым правіла.

### Што есці?

У раёне Старога базара вялізная колькасць танных забягалавак, дзе смажацца славутыя балканскія калбаскі чэвапчычы. Падаюць іх з перцам і лавашом. Вегетарыянцы павінны зацаніць таўчэ граўчэ — гэта такая фасоля, якая смажыцца ў адмысловым гліняным посудзе. Запіць часцей за ўсё прапануюць мясцовай газіроўкай «Газола» ці півам.

У квартале Старога базара за ягоны каларыт любяць абедаць як турысты, так і мясцовыя. Не самы багаты абед на двух чалавек абыдзецца ў раёне 7–8 еўра. Варта адзначыць, што чэвапчычы і таўчэ граўчэ — гэта далёка не адзінае, што прапануюць такія кавярні. Ёсць таксама вялізная колькасць усялякага мяса, якое смажыцца проста ў вас на вачах, кебабы, печань, суп чорба, традыцыйныя катлеты плескавіца і шмат усяго іншага.

Калі такой паўфастфуднай экзотыкі не дужа хочацца, то ў Скоп'е лёгка знайсці і больш традыцыйныя варыянты.


ЗМІЦЕР ПАНКАВЕЦ

**Нацыянальная македонская ежа:** каўбаскі і фасоля.



ЗМІЦЕР ПАНКАВЕЦ

**Цырульні ў Македоніі — паўсюль.** Тут у мужчын не было звычкі галіцца дома.

Напрыклад, у самым цэнтры ёсць бар «Калектыў». Тыповая для ўсёй Еўропы ўстанова. У «Калектыве» прапануюць аграмадныя бургеры, вялізныя порцыі курыцы, рэбраў. Плюс мясцовы крафт, але не судзіце яго надта строга. Эксперыментальнае піваварства ў гэтай краіне пакуль яшчэ на пачатковай стадыі. Вячэра ў такім бары будзе каштаваць каля 20 еўра.

Ну і, само сабой, нельга праходзіць міма мясцовых слодычаў. Яны рэальна класныя! Ад пахлавы за вушы не адцягнеш. Падаюць слодычы з маленькімі кубачкамі кавы ці чаю па-турэцку. Гаспадары ўстаноў з радасцю паваражаць вам на кававаай гушчы і скажуць, што вы хочаце пачуць, нават не ўзяўшы грошай.

Адзін такі мужчына расказваў нам, што ездзіў у Мінск шмат разоў, возячы скураныя курткі, і ўзгадаў, якія прыгожыя ў Беларусі жанчыны. Увогуле, звярнула ўвагу тое, што згадка пра краіну Беларусь нікога не ставіла ў тупік, як гэта часта можна сустрэць у традыцыйнай Еўропе. Нехта заўсёды нешта пра нас чуў.

А яшчэ, канечне, варта схадзіць на рынак. Неперадавальныя пачуцці, калі бачыш мандарыны, толькі што сарваныя з дрэва, з зялёнымі лісточкамі, якія прадаюцца па паўеўра за кіло. Можна набыць гранаты, самыя розныя прыправы, мёд, арэхі. А яшчэ бульбу! Не заўважалі ў беларускіх крамах, што вельмі часта зімой бульбу нам завозяць менавіта з Македоніі?

### Дзе стрыгчыся?

Вось чаго ў Македоніі дакладна хапае, дык гэта барбершопаў. Яны літаральна на кожным кроку. Ад гламурных для хіпстараў да зусім аўтэнтычных з патрэсканымі скуранымі крэсламі і пабітымі люстэркамі. На свае вочы бачыў, што стрыгуцца і голяцца ў барбершопах мужчыны ад васьмі да васьмідзесяці гадоў. Складваецца ўражанне, што македонскі мужчына толькі і нараджаецца для таго, каб выпіць чаю ды пагаліцца ў барбершопе.

### Што паглядзець?

Паспрабуем прайсціся толькі па самых адметных месцах Скоп'е і Охрыда.

### Стары базар

Ногі самі вядуць на вулачкі турэцкага квартала, які так любяць турысты. У Македоніі вялізная колькасць мусульманаў-албанцаў. Адна жанчына называла іх у размове з намі «талібанцамі»: маўляў,

менавіта яны шкодзяць развіццю краіны.

Склалася ўражанне, што македонскія албанцы нашмат больш набожныя за сваіх суайчыннікаў у метраполіі. У Тыране, калі чуецца заклік муэдзіна, на яго амаль ніхто не адгукаецца. А ў Скоп'е набіваюцца поўныя мячэці.

Менавіта ў Скоп'е я ўпершыню трапіў у мячэць. Ніякіх крывых поглядаў на турыста не было і блізка. Увогуле, атмасфера ў мячэці дастаткова разняволеная. Калі царква найперш створаная для размоў з Богам, то ў мячэці не адмаўляецца і размова паміж сабой.

Асаблівы каларыт Старому базару надаюць спевы муэдзінаў. Вядома, што ўсе яны цяпер запісаныя на стужку і ніхто не залазіць на мінарэт, каб склікаць на малітву, але ўсё адно заварожвае.

Мясцовыя жанчыны ходзяць і ў паранджах, і ў міні-спадніцах. Скоп'е — гэта горад, свабодны ад забабонаў. Мяне ўразіла, што проста ў цэнтры горада стаіць вялікі помнік албанскаму нацыянальнаму герою Скендэрбегу, побач ёсць і мурал з ім. Ніхто не залівае яго фарбай.

### Вардар, масты і помнікі

Праз Скоп'е працякае рака Ва́рдар, вядомая са старажытнасці. Краіна нават разглядае варыянт змены назвы на «Вардарскую Македонію». Рака мае вялікае значэнне для гараджан. Праз Вардар пракладзены Каменны мост, пабудаваны яшчэ ў VI стагоддзі, разбураны землятрусам і адноўлены ў XX стагоддзі.

Але галоўная фішка македонскай сталіцы — гэта неймаверная колькасць помнікаў. Малая нацыя самасцвярджаецца праз герояў мінулага. Мост ля парламента запоўнены скульптурамі: ад візантыйскага імператара Юстыніяна да рэвалюцыянера мяжы XIX—XX стагоддзяў Гоцэ Дэлчава. Вядома, усіх іх македонцы лічаць сваімі. А якая ў горадзе абалдзенная начная падсветка!

Абавязкова трэба залезці да крэпасці, якая ўзвышаецца над горадам. Не палохайцеся, што там мірна пасуцца коні. Бо лепшага віду на Скоп'е вы не знойдзеце. Калі пройдзеце троху ўбок ад крэпасці, то з вышыні можна паглядзець на новы стадыён імя Філіпа II, бацькі Аляксандра Македонскага. Праўда, глядзіце, каб там на вас не напалі сабакі з суседніх дамоў.

На Балканах абавязкова трэба схадзіць на рынак, каб купіць танных мандарынаў, гранатаў, мёду, арэхаў, прыпраў. Выглядае гэта ўсё вельмі экзатычна і каштуе не так дорага, як у нас.

Скоп'е — гэта і праваслаўе. Дзясяткі храмаў, скульптуры анёлаў на вуліцах. І каталіцызм — тут жыла маці Тэрэза (яна была албанкай). Можна схадзіць у музей, прысвечаны ёй.

### Охрыд — калыска балканскага хрысціянства

Охрыд сёння — гэта тыповае курортнае мястэчка. Багатыя людзі з усяго рэгіёна едуць сюды на адпачынак улетку. Крыштальна чыстая вада возера, неблагая інфраструктура і гістарычныя цікавосткі робяць Охрыд магнітам для турыстаў.

На возера можна глядзець гадзінамі, кормячы чаек і лебедзяў.

Охрыд — гэта цэнтр праваслаўя ўсяго рэгіёна. Яшчэ ў IX стагоддзі вучань Кірылы і Мяфодзія Клімент (пазней святы) заснаваў на беразе возера манастыр. Ён стаіць і па сёння. Охрыдская царква фактычна ад пачатку была аўтакефальнай і не падпарадкоўвалася Канстанцінопалю. Юрысдыкцыя Охрыдскай архідыяцэзіі даходзіла да Бялграда.

Панцейлямонаў і Навумаў манастыры, безумоўна, стануць аднымі з найбольш яркіх уражанняў ад Балканаў. Такія месцы, здаецца, існуюць асобна ад часу і асоб.

Македонія — гэта поўная экзотыка для нашага чалавека, але баяцца яе не варта. Гэта ў прынцыпе мілая краіна, якая толькі спрабуе, як і Беларусь, займець свой уласны твар. Македонія — гэта танна, бяспечна і цікава. Канечне, без заходнееўрапейскіх стандартаў, але, магчыма, гэта і дадае краіне дадатковага шарму. ◆



ЗМІЦЕР ПАНКАВЕЦ

**На рынку ў Скоп'е** экзатычна і нядорага.

# Імперскія тытулы для літвінскіх магнатаў

**Вялікае Княства Літоўскае жыло ў еўрапейскай культурнай прасторы. Сярод іншага пра гэта сведчыць тое, што некаторыя прадстаўнікі яго эліты атрымлівалі з рук імператара Святой Рымскай Імперыі прэстыжныя арыстакратычныя тытулы. Пра тое, як гэта адбывалася, піша гісторык Павел Булаты.**

Пакаленню беларусаў XXI стагоддзя выпала жыць у час святкавання вялікіх 500-гадовых юбілеяў. Слаўная Аршанская перамога, кнігадрукаванне Скарыны, Статуты... XVI стагоддзе — час, калі Вялікае Княства Літоўскае перажыло найвышэйшы ўздым сваёй культуры, якая развівалася ў агульным рэчышчы еўрапейскага Рэнесансу.

У тагачаснай гісторыі Заходняй Еўропы палітычны і культурны рэй вялі тытулаваныя дынастыі, якія вызначалі лёсы дзяржаў і народаў. Палітычны і культурны небасхіл таго часу зіхаціць вобразамі і постацямі тытулаванай эліты — герцагамі, маркграфамі, графамі, баронамі. Вялікае Княства Літоўскае не выбівалася з агульнаеўрапейскай прасторы і ў гэтым плане. У 2018 годзе мы мелі невялікі, але вельмі істотны юбілей: 500 год таму, 25 лютага 1518 года, упершыню чалавек з Вялікага Княства Літоўскага атрымаў арыстакратычны тытул ад імператара Святой Рымскай

**Габелен Ксаверыя Даменіка Гескага «Наданне княжацкага тытула Мікалаю Радзівілу імператарам Карлам V»**, вытканы на мануфактуры Міхала Казіміра Радзівіла ў 50–60-я гады XVIII стагоддзя Захоўваецца ў Нацыянальным музеі ў Варшаве.

# Як арыстакраты ВКЛ рабіліся еўрапейскімі князямі і графамі

Імперыі. Так на нашых землях з'явіліся еўрапейскія тытулы графа і князя імперыі.

Што паўплывала на з'яўленне ў ВКЛ еўрапейскіх ганаровых тытулаў? Перадусім прыходу іх на нашы землі паспрыяла тагачасная міжнародная сітуацыя. Пачатак XVI стагоддзя ў гісторыі Вялікага Княства Літоўскага праходзіў пад знакам войнаў з Масквой. Падчас гэтага супрацьстаяння Літва імкнулася атрымаць падтрымку Святой

## Носьбітамі замежных арыстакратычных тытулаў сталі пяць родаў: Радзівілы, Гаштольды, Іллінічы, Хадкевічы, Тышкевічы

Рымскай Імперыі. Дзеля падтрымання выгадных адносін вялося шчыльнае дыпламатычнае супрацоўніцтва з імператарскім дваром. У гэтым важную ролю адыгрывалі асобы, якія ўдзельнічалі ў пасольствах да імператара. Як правіла, гэта былі найбольш уплывовыя саноўнікі краіны, якія займалі важныя пасады на тэрыторыі княства. Акурат падчас пасяхховай місіі пры двары Святой Рымскай Імперыі дыпламаты ВКЛ мелі шанец атрымаць для сябе асабіста і для ўсяго свайго роду імперскія тытулы.

### Уганараваная пяцёрка

Першым на Літве тытул князя Святой Рымскай Імперыі атрымаў Мікалай Радзівіл. Ён браў удзел у Венскім кангрэсе 1515 года, дзе, апрача спраў, звязаных з дзяржаўнай дзейнасцю, арганізаваў вялікі музычны паказ і касцюмаваныя забавы. Урачыстасці ўразілі прысутных, і гэта палепшыла вобраз княства ў вачах еўрапейцаў. Уражаны быў і тагачасны імператар Максіміліян I. Дзякуючы гэтаму, 25 лютага 1518 года ён надаў Мікалаю Радзівілу тытул «князя на Гонядзі і Мядзеле», выдаўшы адмысловы княжацкі дыплом.

Наступным імперскі тытул пашчасціла атрымаць канцлеру Альбрэхту Гаштольду. У 1530 годзе, дасягнуўшы з ім важных дамоўленасцяў, германскі імператар Карл V, зацікаўлены ў палітычнай падтрымцы саноўніка з Вялікага Княства Літоўскага, надаў Гаштольду тытул «графа з Мураваных Геранёнаў».

Уганараваная імператарам мядзельская галіна роду Радзівілаў, праўда, у 1542 годзе згасла, але ўжо праз пяць гадоў Радзівілы зноў займелі княжацкі тытул. 10 снежня 1547 года прывілей з тытулам «князь на Біржах і Дубінках» ад Карла V атрымаў Мікалай Радзівіл Руды. Гэты тытул перадаваўся ягоным нашчадкам па біржанскай лініі роду. А ўсяго праз некалькі дзён, 14 снежня 1547 года, дыплом і тытул «князь на Алыцы і Нясвіжы» ад імператара атрымаў таксама іншы славуты прадстаўнік гэтага роду — Мікалай Радзівіл Чорны. Ён жа 10 ліпеня 1553 года атрымаў ад імператара Фердынанда I і тытул «граф на Шыдлоўцах». Наданне тытула было своеасаблівым падвядзеннем вынікаў дыпламатычнай місіі ў Еўропе і ўзнагародай за зробленую працу. Перад гэтым Радзівіл правёў складаныя перамовы з Габсбургамі і дабіўся таго, што яны адмовіліся дапамагаць маскоўскаму цару Івану IV Жахліваму ў атрыманні каралеўскай кароны. Акрамя таго, Радзівіл дамовіўся пра шлюб аўдавелага гаспадара ВКЛ і Каралеўства Польскага Жыгімонта Аўгуста з дачкой імператара Кацярынай Габсбург.

Адначасова з Радзівілам графскі тытул ад Фердынанда I атрымаў прадстаўнік яшчэ аднаго арыстакратычнага роду ВКЛ — Юры Шчаснавіч Іллініч. У 1553 годзе зусім юны, трынаццацігадовы, Іллініч падарожнічаў па Еўропе і завітаў у Вену, дзе 11 чэрвеня атрымаў тытул «графа на Міры». Ён стаў графам па пратэкцыі свайго апекуна, вышэйзгаданага Мікалая Радзівіла Чорнага.



**Князь Мікалай Мікалаевіч Радзівіл** — першы магнат ВКЛ, які атрымаў еўрапейскі арыстакратычны тытул. Гравюра Гірша Ляйбовіча, 1758 год.




**Сімвалічная выява іерархіі імперскіх саслоўяў**. Верхні шэраг — курфюрсты, другі — герцагі і маркграфы, трэці і чацвёрты — графы, пяты і шосты — імперскія гарады. 1593 год.

▶ Пасля смерці бяздзетнага Іллініча ў 1569 годзе ягоны графскі тытул перайшоў у спадчыну да сына Мікалая Радзівіла Чорнага — Мікалая Радзівіла Сіроткі.

На піку свайго ўзмацнення ў 1555 годзе графскім тытулам быў уганараваны і род Хадкевічаў. Геранім Хадкевіч, вядомы сваёй разважлівасцю, быў накіраваны вялікім князем літоўскім Жыгімонтам Аўгустам на чале пасольства да папы Паўла IV і імператара Фердынанда I. Імператар быў уражаны красамоўствам пасла, за што надаў яму тытул «граф на Шклове і Мышы». Пасля бацькавым тытулам карыстаўся адзіны сын Гераніма, Ян Хадкевіч. Захавалі яго за сабой і ўнукі атрымальніка — Аляксандр і Ян Караль Хадкевічы.

Нарэшце, з 1569 года мелі тытул «графа на Лагойску і Бярдзічаве» і прадстаўнікі адной з галінаў роду Тышкевічаў. Першым графам з гэтага роду стаў Васіль Тышкевіч.

Такім чынам, на Літве ў XVI стагоддзі носьбітамі замежных арыстакратычных тытулаў сталі пяць родаў: Радзівілы, Гаштольды, Іллінічы, Хадкевічы, Тышкевічы.

## Тытулы — небяспека для шляхецкай роўнасці

У той жа час з'яўленне імперскіх тытулаў выклікала ў грамадстве ВКЛ не зусім станоўчыя эмоцыі. Пратэст у шляхецкім асяроддзі быў звязаны з тым, што да атрымання замежнага тытула Мікалаем Радзівілам права на падобнае ўшанаванне мелі толькі князі па крыві — прадстаўнікі старажытных княжацкіх дынастый Рурыкавічаў і Гедымінавічаў. Прыняцце асобнымі арыстакратамі замежных тытулаў уводзіла новы звычай, які парушаў наяўны лад і роўнасць шляхецкага саслоўя. Дазвол на атрыманне тытула мусіў даваць вялікі князь пры згодзе сойма.

**Першым тытул князя імперыі атрымаў Мікалай Радзівіл**

Распаўсюджванне практыкі атрымання імперскіх тытулаў было канчаткова спынена ў 1569 годзе. Пасля прыняцця акта Люблінскай уніі ў наваствораней дзяржаве, Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў, шляхта ўраўноўвалася ў сваіх правах. Адпаведна з прынцыпам шляхецкай роўнасці наяўнасць тытула не надавала камусьці прывілеяванага становішча, арыстакратычныя і спадчынныя тытулы скасоўваліся. Выключэннем сталі толькі тыя тытулы, што былі прынятыя і існавалі раней за 1569 год.

Пытанне, звязанае з замежнымі тытуламі і іх статусам, неаднаразова

падымалася на соймах XVII стагоддзя. Рашэннямі сойма адмяняліся княжацкія, графскія і любыя іншыя тытулы. Зноў адзначалася, што ніхто не можа прымаць і выкарыстоўваць замежныя тытулы, каб не парушаць роўнасць шляхецкага стану. Не меў права раздаваць родавыя тытулы і кароль Рэчы Паспалітай. Але пры гэтым прадугледжвалася, што тытулы, якія з'явіліся да Люблінскага сойма, захоўваліся.

Сітуацыю са статусам тытулаў на Літве вельмі трапна апісаў тагачасны нямецкі навуковец Марцін Цайлер у працы «Іншае апісанне Каралеўства Польскага і Вялікага Княства Літоўскага». Ён тлумачыць еўрапейскаму чытачу, што прадстаўнікі знаці Вялікага Княства Літоўскага маюць аднолькавую годнасць, нягледзячы на тое, графы яны ці князі, паколькі валоданне тытулам не дае ніякага асаблівага статуса, і ніхто з носьбітаў тытула не ўздымаецца дзякуючы гэтаму вышэй за іншага шляхціца.

Тым не менш, ігнаруючы пастановы сойма, кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі ў 1764 годзе адпісаў свайму брату Казіміру княжацкі тытул. У хуткім часе, па прыкладзе каралеўскай сям'і, тытул князя здабылі сабе і прадстаўнікі роду Сапегаў, а таксама прадстаўнікі шэрагу родаў



ФОТА ПАУЛА БУЛАТАГА

**Дыплом на пергаменце,** выдадзены 14 снежня 1547 года імператарам Фердынандам І Мікалаю Радзівілу Чорнаму на княжацкі тытул. Захоўваецца ў фондах Архіва Радзівілаў у Галоўным архіве старажытных актаў у Варшаве.


WIKIMEDIA COMMONS

**Герб Тышкевічаў** з графскай каронай.

Кароны Польскай. На гэтай хвалі, не без пратэкцыі аўстрыйскага двара, сойм у 1775 годзе дазволіў і атрыманне тытулаў Святой Рымскай Імперыі. У пастанове сойма адзначалася, што імперскі тытул князя прызнаецца ў Рэчы Паспалітай і яе падданыя могуць яго атрымліваць. Аднак адначасова з гэтым падкрэслівалася, што тытулы не будуць парушаць шляхецкай роўнасці.

## Фармальна, але прэстыжна

Калі тытулы ўвесь час з'яўляліся ў ВКЛ і Рэчы Паспалітай толькі фармальным атрыбутам, які нібыта не прыносіў аніякіх пераваг, то для чаго іх носьбіты працягвалі прытрымлівацца ганаровай імперскай тытулатуры? Звязана гэта было з наступным. Прыклад першых пакаленняў родаў, якія займелі тытулы ад германскага імператара, засведчыў, што іх носьбіты адносіліся да паноўнай эліты, з якой у Вялікім Княстве Літоўскім атаясамлівалася магнатэрыя. У працэсе афармлення магнацкага саслоўя, акрамя буйных зямельных уладанняў і ключавых дзяржаўных пасадаў, сярод прыкмет прыналежнасці да магнацкага саслоўя вылучаўся і шэраг дадатковых якасцяў — блізкасць да каралеўскага двара, сямейныя сувязі і значэнне роду, асабістыя вартасці. Сярод іншага прыналежнасць да паноўнай эліты грамадства падкрэслівалі і замежныя тытулы. Атрымаць іх было даволі складана, а пасля Люблінскай уніі амаль немагчыма. Валоданне княжацкім ці графскім тытулам, такім чынам, усё ж такі ўзвышала яго носьбітаў і з'яўлялася каштоўным здабыткам для роду, у значнай ступені павялічвала яго прэстыж. Тытул рабіў магната адметным ад іншых прадстаўнікоў шляхецкага саслоўя і хай нефармальна, але ўзвышаў і на саслоўнай лесвіцы, надаючы тытулярнаму двару вонкавы лоск, падкрэсліваючы магнацкую выключнасць. Наяўнасць тытула з'яўлялася прыкметай — праз геральдыку, згадванне тытула ў дакументах — прыналежнасці да эліты грамадства. Гэтым жа можна растлумачыць і імкненне іншых родаў да атрымання тытулаў у канцы XVIII стагоддзя, калі яны былі зноў узаконеныя.

Князі Радзівілы, граф Гаштольд, графы Хадкевічы — акурат гэтыя тытулаваныя роды працяглы час фактычна вяршылі і вызначалі лёс Вялікага Княства Літоўскага. ◆

МУЗЕЙ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ

# Шэсць валют на адзін горад



**Высокі рынак у Мінску** (гэта на месцы цяперашняй плошчы Свабоды). 1918 год.

**Чым разлічваліся мінчукі пад нямецкай акупацыяй 1918 года, расказвае кандыдат гістарычных навук Юлія Латушкова.**

1918 год быў годам заключэння Брэсцкага міру і абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Гэта быў пераломны год на шляху беларусаў да сваёй дзяржаўнасці. А для Мінска гэта быў першы год у статусе сталіцы.

Але час перамен (жыць у які, як вядома, праклён яшчэ з часоў старажытнага Кітая) настаў для яго жыхароў раней — у канцы лета 1915 года, калі Мінск раптам стаў прыфрантавым горадам. Хваля ўцекачоў, вайскоўцы і «земгусары» (супрацоўнікі ўстаноў, звязаных з дапамогай фронту) — увесь гэты стракаты натоўп з'явіўся на вуліцах. Мінск нечакана разбух амаль у тры разы. Разам з новымі жыхарамі прыйшлі чужыя звычкі, кватэрны і паліўны крызіс, нястача харчавання і заразныя хваробы.

### Грукнулі сенцы — завіталі немцы

Канец лютага 1918 года прынёс Мінску новую, германскую ўладу і новых часовых жыхароў — кайзераўскія войскі. Першая хваля акупацыі, нямецкая, цягнулася крыху менш за 10 месяцаў (з 21 лютага да 10 снежня 1918 года). Насельніцтва Мінска ведала пра нямецкае наступленне і разумела, што горад вось-вось будзе заняты. Стаўленне да немцаў было супярэчлівае. Нехта марыў пра вызваленне з-пад бальшавікоў, нехта баяўся чужынцаў. Савецкія арганізацыі выехалі за некалькі дзён да прыходу немцаў. З сабой яны вывезлі касы эвакуяваных устаноў. Грашовае пытанне на доўгі час зрабілася галаўным болем гарадской адміністрацыі і гараджан.

### «Мікалаеўкі», «думкі», «керанкі»: 1917-ы

У лютым 1917-га ў краіне адбылася рэвалюцыя. Новаму ўраду патрэбна было шмат грошай, а іх катастрафічна не хапала. Менавіта ў гэты час рост цэнаў пачаў перавышаць рост папяровай грашовай масы. Часовы ўрад значна

## Ад залатога стандарту да папяровых сурагатаў

Зразумець грашовую сітуацыю 1918 года немагчыма без кароткага экскурсу ў гісторыю. Пачатак ХХ стагоддзя для большасці развітых краін стаў часам золатаманетнага стандарту. Не была выключэннем і Расійская Імперыя, у склад якой уваходзіў Мінск. Тут у грашовым абарачэнні адначасова знаходзіліся залатая, срэбная, білонная і медная манета, а таксама крэдытныя білеты Дзяржаўнага банка. Сістэма гэта была даволі зручнай і стабільнай. Але з пачаткам Першай сусветнай імператарскі ўрад і кіраўніцтва Дзяржаўнага банка прынялі шэраг мер «у сувязі з абставінамі ваеннага часу». У тым ліку спынілі размен крэдытных білетаў на золата. Лагічным наступствам стаў моцны адток паўнавартаснай манеты і асяданне яе ў панчохах, скарбонках і іншых схованках. Даволі хутка з абарачэння знікла нават медзь — і на краіну абрынуўся разліковы крызіс. Напрыканцы восені 1915 года ўлады былі вымушаныя выпусціць грашовыя сурагаты — папяровыя маркі па клішэ, падрыхтаваных для святкавання 300-годдзя дома Раманавых. Яны мусілі абарачацца замест разліковай манеты. Амаль адначасова з імі былі падрыхтаваныя казначэйскія разліковыя знакі. Выпуск папяровых сурагатаў манеты стаў першай прыступкай на шляху да маштабнага крызісу грашовага абарачэння Расійскай Імперыі. Урад некаторы час стрымліваў рост грашовай масы, інфляцыі і цэнаў. Адным са сродкаў барацьбы з дарагоўляй сталі цвёрдыя цэны і карткавая сістэма забеспячэння насельніцтва прадуктамі і таварамі першай патрэбы. Іншымі словамі, каб набыць нешта, трэба было мець не толькі грошы, але і карткі, для атрымання якіх патрэбны быў запіс у дамавой кнізе і іншыя дакументы. Людзі, якія перажылі Другую сусветную і распад СССР, добра памятаюць падобную сістэму забеспячэння.

павялічыў эмісію, але дзяржава фізічна не паспявала друкаваць грошы — не хапала магутнасці папяровых і паліграфічных фабрык. Грошы патрэбны былі на працяг вайны, на дадатковыя выплаты работнікам, на сацыяльныя праекты... У гэтых умовах Часовы ўрад друкаваў грошы старой сістэмы: «мікалаеўскія», ці «царскія» (крэдытных білетаў узору 1898–1912 гадоў), і папяровыя сурагаты разліковай манеты. Таксама з'явіліся і новыя грошы — «думскія», ці «думкі». У красавіку 1917 года быў падрыхтаваны праект купюры 1000 рублёў, а праз некалькі месяцаў — 250-рублёвай банкноты. Гэтыя грошы («думкі») былі досыць вялікага памеру і выкананыя на высокім паліграфічным і мастацкім узроўні, што патрабавала значных эмісійных выдаткаў.

У кастрычніку 1917-га прымаецца рашэнне аб эмісіі грошай больш простага ўзору, танных у друку — казначэйскіх знакаў наміналам 20 і 40 рублёў («керанак»). Будучы малога памеру (5,5 на 4,5 см), яны выпускаліся ў абарачэнне лістамі па 40 штук. Набываючы тавар, магчыма было разлічыцца як цэлым лістом, так і адрэзаць неабходную колькасць знакаў. Прытым нават за адзін знак у 20 рублёў напрыканцы восені 1917-га можна было няблага паабедаць.

Менавіта эмісіі Часовага ўрада сталі прычынай узнікнення новай з'явы на грашовым рынку былой Расійскай Імперыі — паралельнага абарачэння валют. З пункту гледжання ўлад і фінансавых інстытуцый усе грашовыя выпускі (і «царскія», і папяровыя сурагаты 1915 года, і «думкі», і «керанкі») былі роўныя і з'яўляліся

**Савецкі ўрад працягваў друкаваць «мікалаеўскія», «думскія» і «керанскія» грошы. Уласных грошай савецкая ўлада да 1919 года не рабіла**

законным плацежным сродкам. Але насельніцтва хутка прызнала адзінай паўнавартаснай валютай «мікалаеўскія» грошы, крыху менш цаніліся «думкі». Найбольш распаўсюджаныя «керанкі», у якіх атрымлівалі заработную плату рабочыя і служачыя, аказаліся ў ролі аўтсайдараў і каштавалі значна менш за намінал.

Калі нямецкія войскі прыйшлі ў Мінск, горад цалкам расплачваўся грашыма, што выпускаліся ў Савецкай Расіі (сувязь з ёй і прыток «рускіх грошай» не спыняліся і падчас акупацыі). Савецкі ўрад зняў усе эмісійныя абмежаванні і працягнуў друк «мікалаеўскіх», «думскіх» і «керанскіх» грошай, дадаўшы да іх велізарную колькасць разнастайных грашовых сурагатаў. Уласна сваіх грошай савецкая ўлада да 1919 года не друкавала. ▶




НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГІСТАРЫЧНЫ МУЗЕЙ БЕЛАРУСІ

**«Царскія» грошы эмісіі 1899 года** наміналам 50 рублёў.

### Нямецкія маркі, ост-рублі, ост-маркі

Разам з немцамі ў Мінск прыйшлі новыя грошы — імперскія нямецкія маркі і так званыя ост-рублі спецыяльна для акупаваных тэрыторый (эмісію якіх з 1916 года ажыццяўляў Усходні банк для гандлю і прамысловасці ў Познані). Мясцовае насельніцтва сустрэла нямецкія грошы насцярожана, калі не сказаць варожа. У камендатуру паступалі скаргі на тое, што гандляры зусім не прымаюць нямецкіх грошай ці прымаюць іх па нізкім курсе. Восенню 1918-га да іншых валют у горадзе дадаліся яшчэ і ост-маркі, якія выпускаліся ў Коўне.

Пастунова ў Мінску склалася своеасаблівая грашовая сістэма, якая, з нязначнымі зменамі, праіснавала да канца лістапада 1918-га. У яе склад уваходзілі некалькі расійскіх валют (рублі «царскія» ўзору 1898—1912 гадоў), «думскія» (250 і 1 000 рублёў узору 1917 года), «керанскія» (20 і 40 рублёў узору 1917 года), нямецкія маркі і акупацыйныя («ост») рублі, а пазней ост-маркі. Складаная сістэма. Але нямецкая адміністрацыя лічыла грашовую сітуацыю ў Мінску не сістэмай, а хаосам.

### Спробы ўпарадкавання

Непаразуменні з курсамі прымусілі прадстаўнікоў Мінскай гарадской управы, біржавога таварыства і банкаў у сакавіку сабраць дэлегацыю і звярнуцца да нямецкіх уладаў з пытаннем пра курс рубля. Увагу звярталі на тое,




WIKIMEDIA COMMONS

**Ост-рубель наміналам 3 рублі.**

што раней і «царскія», і «керанскія» рублі каштавалі аднолькава. А курс 1 марка 25 пфенігаў за царскі рубель і 1 марку за рубель «керанскі» прывёў да шэрагу непаразуменняў, махінацый і павышэння таварных цэн на 20%.

Жыхары Мінска вызначаліся моцнай дзелавой жылкай. Хутка шмат хто зразумеў, што на нетрывалых курсах валют магчыма зарабіць. Горад кінуўся ў прыватныя грашовыя махінацыі. Амаль кожная крама мела свой курс валют. Нетрывалымі былі і афіцыйныя каціроўкі: праглядаючы прэсу таго часу, можна бачыць, што ў пачатку сакавіка за «царскі» рубель давалі 1 марку 35 пфенігаў, у сярэдзіне красавіка 1 марку 25 пфенігаў, а ў ліпені «мікалаеўскі» рубель і марка ішлі ўжо па адзіным курсе.

Зразумела, што фінансавым і фіскальным установам усё гэта зусім не падабалася. У фондах Нацыянальнага гістарычнага архіва захавалася нервовая перапіска Гарадской управы, Казённай палаты і Губернскага казначэйства. Казначэйства прымала акупацыйныя рублі па курсе 1 рубель 60 капеек і германскую марку па 80 капеек, тады як управа лічыла іх за 2 рублі (осты) і 1 рубель (маркі).

### Абменнікі і боны

Германскія ўлады пайшлі па шляху ўтварэння і рэарганізацыі сеткі крэдытна-фінансавых і фіскальных устаноў, якія павінны былі рэгуляваць курсы валют. У Мінску адкрыўся шэраг акупацыйных мяняльных кантор. Па адрасе Саборная плошча, д. 4 — гэта цяперашняя плошча Свабоды — распачало працу аддзяленне Усходняй пазыковай касы; працягвалі дзейнічаць і мясцовыя фіскальныя ўстановы. Але справа ў іх не пайшла.

**Насельніцтва найбольш верыла ў «царскі» рубель, хоць ні Расійскай Імперыі, ні нават Дзяржаўнага банка ўжо не існавала**

Неўзабаве акупацыйныя ўлады далі распараджэнне: усе грашовыя сумы з казначэйства і Казённай палаты (у тым ліку падаткі) перадаваліся ў акупацыйны банк і пакідалі горад.

Цалкам пустая каса прымусіла мясцовую адміністрацыю Мінска звярнуцца да ідэі выпуску мясцовых грошай — бонаў губернскага земства і горада. Але германская адміністрацыя была супраць, і Мінск так і не набыў уласных грошай.




НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГІСТАРЫЧНЫ МУЗЕЙ БЕЛАРУСІ

**Неразрэзаны ліст «керанак»** наміналам 20 рублёў.

## «Царскі» ў цане і без цара

Між тым абарачэнне кожнай з наяўных у Мінску валют мела свае асаблівасці. Асноўнымі фігурамі сярод грошай у горадзе сталі «царскі» і «ост»-рубель. «Царскі» рубель лічыўся найбольш моцным, хоць ні Расійскай Імперыі, ні імператарскага ўрада, ні нават Дзяржаўнага банка ўжо не існавала. За гэтымі грашыма стаяў прывід золата — золатаманетнага стандарту і трывалага, спакойнага жыцця. З лютага да ліпеня 1918 года «царскі» рубель быў асноўнай плацежнай адзінкай у Мінску. У царскіх рублях вызначалася цана тавараў. Менавіта «мікалаеўскія» ў першую чаргу знікалі з абарачэння — іх хавалі на чорны дзень.




**Нямецкая марка эмісіі 1910 года** наміналам 100 марак.

## Разлічвайцеся нямецкімі!

У пачатку чэрвеня 1918-га нечакана абмен усіх відаў расійскіх грошай («царскіх», «думскіх», «керанак») быў спынены. Афіцыйнае тлумачэнне: падзенне курса рубля, вялізная эмісія ў Савецкай Расіі і моцны прыток грошай у Мінск (які стаў буйным транзітным цэнтрам паміж акупаванымі і савецкімі тэрыторыямі). Наступным распараджэннем акупацыйных улад усе тавары ў Мінску павінны былі прадавацца толькі за маркі ці ост-рублі. Пагадненні ў расійскіх грошах лічыліся скасаванымі. За адмову прыняць імперскія маркі ці ост-рублі, за разлікі іншымі грашовымі адзінкамі мінчукам пагражаў штраф ці турэмнае зняволенне да года.

З пачатку ліпеня ўсе падаткі павінны былі выплачвацца ў акупацыйных рублях. З іх жа мусіў складацца бюджэт Мінска. Рублі «царскі», «думскі» і нямецкая марка разлічваліся 1 да 1 і каштавалі 50 акупацыйных капеек. «Керанскі» рубель лічыўся за 80 капеек «царскіх».

## «Рускія» не здаюцца

Тым не менш на практыцы значную ролю ў грашовым абарачэнні ў горадзе працягвалі адыгрываць «думскія» і нават «керанскія» рублі. З падняццем курса «керанак» на чвэрць мінскія газеты звязваюць значны рост цэн на хлеб у пачатку лістапада 1918 года. Частка жыхароў працягвала атрымліваць заробкі менавіта ў «керанках». Больш за тое, у сярэдзіне лістапада служачыя ўстаноў, што атрымлівалі заробак у «остах», звярнуліся да адміністрацыі з просьбай выплачваць яго ў «керанках», бо сяляне, якія прадавалі прадукты харчавання, не прымалі ост-рублёў.

Ішлі апошнія месяцы нямецкай улады, і насельніцтва ўсё часцей адмаўлялася прымаць акупацыйныя грошы. У другой палове лістапада 1918 года губернскае земства ўзняло пытанне пра пераход на расійскую валюту, парытэт ост-рубля і маркі, неабходнасць адмены прымусовага курса ост-рубля, які фактычна не прызнаваўся насельніцтвам. У выніку з канца восені ўсе падаткі і зборы збіраліся ў расійскіх рублях. Абавязковае вылічэнне і выплата падаткаў у ост-рублях былі скасаваныя, але ост-рублі працягвалі прымацца.

Такім чынам, ні цалкам перавесці падатковую сістэму на акупацыйныя рублі, ні захаваць прымусовы курс, ні трымаць вызначаныя курсы іншых валют нямецкія ўлады і фінансавыя ўстановы аказаліся няздольнымі. Мінчукі, як і жыхары вясковых ваколіц, упарта трымаліся за «рускія» грошы (грошы зрынутых урадаў!) і лічылі іх зусім па іншых каціроўках.

Пасля адыходу германскай арміі і ўсталявання савецкай адміністрацыі, згодна з пастановай Мінскага ваенна-рэвалюцыйнага камітэта сярэдзіны снежня 1918 года, ост-марка лічылася за 50 капеек, а ост-рубель ішоў за 1 рускі рубель. Да польскай акупацыі, новых выпрабаванняў і новых грошай заставалася амаль 9 месяцаў... ◆

МІКІТА *(у выцвіўшым чыноўніцкім асеннім пальце з настаўленым каўняром, з парасонам уваходзіць справа; да Ганулі)*. Меджду протчым, мамаша, прадалі што-небудзь ці не?

ГАНУЛЯ. А ні на іголачку. Як хто зачараваў. *(Паказваючы на паняў.)* У тых таксама ніхто нічога не купіў.

МІКІТА. Нешчаслівым для гандлю і мне сягоннешні дзень выпаў. Каб хто хоць на смех запытаўся аб марках. «Рускія», кажуць, давай, а нямецкія, кажуць, меджду протчым, немцу прадай. А дзе тут таго немца зловіш, калі — па чутках — амаль не ўсе ўжо з гораду выйшлі. *(Да праходзячага грамадзяніна.)* На хвіліначку, пане мусье! Хачу вам нешта запрапанаваць.

*Грамадзянін затрымоўваецца.*

Можа, з ласкі сваёй купіце ў мяне маркі?

*Грамадзянін іранічна і падазрона змераў яго вачыма ды пайшоў.*

*Янка Купала.* **Тутэйшыя.**
Дзея другая, з'ява 1.

ВЁСКА Ў СМАЛЯВІЦКІМ РАЁНЕ. ІЛЮСТРАЦЫЙНАЕ ФОТА СЯРГЕЯ ГУДЗІЛІНА

# Як беларус пад Смалявічамі 11 гадоў трымаў у рабстве француза

**Зіма 1916 года, Першая сусветная. Пад французскім горадам Вердэн ідуць кровапралітныя баі, пазней іх назавуць «вердэнскай мясарубкай». Адзін з салдат спрабуе выратавацца, хай і з ганьбай. Ён уцякае з войска і знікае больш чым на дзясятак гадоў. Знойдзецца ён толькі ў 1929 годзе ў Савецкім Саюзе, на хутары пад Смалявічамі. Піша Уладзіслаў Швядовіч.**

Гэтую гісторыю распавёў у сваім нарысе Мікалай Бялына-Падгаецкі, чалавек настолькі пакручастага лёсу, што заслугоўвае асобнага аповеду. Белы афіцэр з Пецярбурга, скончыў кадэцкі корпус, паваяваў у Першай сусветнай. Пасля паразы белых жыве ў Англіі, затым у Францыі, дзе ўступае ў камуністычную партыю. Нечакана вяртаецца дадому — ужо ў Савецкі Саюз. Праз 5 гадоў едзе на Далёкі Усход Расіі, працуе на караблі... Лёс закідае яго ў Сінгапур, Партугалію, затым — у Бельгію, дзе Падгаецкі застаецца разам з сям'ёй (жонка з дзецьмі яшчэ раней з'ехала з Саюза). У 1941–1946-х Бялына-Падгаецкі жыве ў Афрыцы, у Бельгійскім Конга і, існуюць версіі, працуе там на англійскую разведку.

Лёс авантурыстаў заўсёды цікавы. А для нас асабліва цікава тое, што, прыехаўшы ў СССР, Мікалай Бялына-Падгаецкі жыў у Мінску і працаваў у мясцовай прэсе: пісаў для газеты «Рабочы» (будучая «Советская Белоруссия») і часопіса «Чырвоная Беларусь», для антырэлігійных агітак. Бялына-Падгаецкі нярэдка пісаў гісторыі пра французскіх ці італьянскіх рабочых. Таму, канечне, не змог прайсці міма, калі даведаўся, што смалявіцкі кулак Зянькевіч 10 гадоў трымаў у парабках беглага французскага салдата.

## Уцёкі з мясарубкі

Праўдзівасць далейшага сюжэта — на сумленні Мікалая Бялыны-Падгаецкага.



Кулак Зянькевіч, які 11 год эксплёатаваў т. Марсэля.

У адну з зімовых начэй 1916-га каля сотні французскіх пехацінцаў добраахвотна здаліся ў палон немцам. Салдаты не вытрывалі так званай «вайны на знясіленне». Гэта тактыка прадугледжвае пастаянныя атакі, расход чалавечых і матэрыяльных рэсурсаў, ставіць задачу выматаць і стаміць ворага. Баі пад Вердэнам ішлі 9 месяцаў, за гэты час французы страцілі амаль 380 тысяч чалавек, немцы — каля 340 тысяч.

# Марсэль Бака выжыў у страшнай бойні і ўцёк у Беларусь

Калі французскія пехацінцы здаліся, іх змясцілі ў лагер для ваеннапалонных. Сярод пехацінцаў быў і просты рабочы Марсэль Бака. У палоне Марсэль знаёміцца з расійскімі салдатамі з суседняга лагера. Тыя расказваюць: у Расіі рэвалюцыя, цяпер усё будзе па-іншаму. А ў Францыі Марсэля чакае суд за дэзерцірства і, хутчэй за ўсё, расстрэл. Пра тое папярэджвалі і ваеннапалонныя, і сваякі ў лістах: калі можаш, не прыязджай, гэта небяспечна.

Француз употай перабіраецца да расійскіх палонных і, калі надыходзіць час, разам з усімі адпраўляецца на ўсход. Лёс заносіць яго ў Мінск. У пачатку 1919-га Марсэль працуе кашаварам на грамадскай кухні. Можа, гатуе там жаб і слімакоў... Але аднойчы страчвае працу. Бадзяецца, галадае. Уладкавацца кудысьці ці знайсці прытулак не можа: мовы ён не ведае. Таму Марсэль сыходзіць з горада і ідзе жабраваць па вёсках.

Ён трапляе на хутар Садкі, што пад Смалявічамі. Француза бярэ на працу мясцовы селянін Зянькевіч.

### 11 гадоў не выходзіў на людзі

Цяпер пра хутар Зянькевіча амаль нічога невядома.

«Пра Садкі я чула. Там знаходзілася першая школа вёскі Амяльянава (сёння пішуць на картах Емяльянава). Гэта быў каталіцкі кут, а школу адкрывалі ад праваслаўнай царквы, і адзінае памяшканне для яе змаглі знайсці ў тых Садках, — распавяла Валянціна Казак, былая настаўніца і мясцовая краязнаўца. — Амяльянава было сапраўдным культурным цэнтрам тады. Была пошта, была бібліятэка, свой сельсавет. Прывозілі кіно».

Вось толькі Марсэль кіно, магчыма, ні разу не бачыў. За 11 гадоў ён толькі аднойчы трапіў на вясковую вечарыну, і тое выпадкова. Гаспадар палохаў Марсэля, каб той лішні раз на людзі не паказваўся. Маўляў, яго адразу арыштуюць і адправяць у Францыю на расстрэл. Марсэль слухаўся і сядзеў ціха.

Зянькевіч, пісала газета, свядома трымаў француза ў няведанні таго, чым жыве СССР. А калі ў 1929 годзе Марсэля вызвалілі і спыталі, які дзяржаўны лад у Савецкім Саюзе, той толькі паціснуў плячыма: «Манархія?»

### Сельсавет заступіўся

Цікава, што пра Марсэля ведалі ўсе ваколіцы. «Ведаў пра гэта мясцовы сельсавет і маўчаў, хоць на адным з пленумаў і ўздымалася пытанне аб Марсэлю, — піша Бялына-Падгаецкі. — Актыўны сельскі карэспандэнт паведаміў пра сітуацыю старшыні райвыканкама. Той выдаў адпаведную рэзалюцыю, але за выкананнем яе не сачыў. Ведаў пра Марсэля нават сельгасінспектар».

**Сельсавет збіраў подпісы ў падтрымку Зянькевіча, а не француза**

Сельскі карэспандэнт не спыніўся і напісаў у Маскву, у выданне «Батрак». Ліст вяскоўца пераслалі ў мінскую пракуратуру. І ў канцы 1929 года да Зянькевіча прыйшлі. Яго затрымалі і абавязалі выплаціць французу заробак за 11 гадоў. Бо, як сцвярджае Падгаецкі, за ўвесь час гаспадар не заплаціў Марсэлю ні капейчыны.

Адметна, што сельсавет пачаў збіраць подпісы мясцовых у падтрымку Зянькевіча, а не француза. Маўляў, ніхто Марсэля не эксплуатаваў, абыходзіліся з ім па-людску.

Ці праўда па-людску — цяпер ужо невядома. Карэспандэнты сфатаграфавалі вялікую незагоеную рану на спіне француза і адзначылі, што да доктара парабка не вазілі, лячылі «знахарскімі сродкамі».

Кулака ўзялі пад варту. Марсэля вызвалілі. Што было далей — невядома. Невядома і тое, што праўда ў гэтай гісторыі, а што — водгулле антысялянскай, «кулацкай» палітычнай кампаніі.



Мяркуючы па фота, **Марсэлю Бака жылося някепска**: ён выглядаў сытым, дагледжаным і задаволеным жыццём.

### «Недзе там»

Сёння ў Емяльянаве ніхто пра гэтую гісторыю не памятае. Амаль уся вёска выкуплена дачнікамі, старыя драўляныя дамкі змяняюцца новымі, цаглянымі. Нешматлікія старыя пра парабка-француза ніколі не чулі. Назва Садкі ім яшчэ вядомая, але не больш за тое.

«Былі калісьці хутары... І Садкі былі... Недзе там», — махае рукою адзін са старых, паказваючы не столькі ў канкрэтны бок, колькі ў мінулае.

Некаторыя кажуць, што на месцы Садкоў разбілі пасля калгасны сад. Вось і ўсё, што засталося ад Марсэля Бака і яго гаспадара Зянькевіча. Немагчыма паглядзець нават на старыя могілкі — ці не ляжыць хто там. Бо могілкі даўно зруйнавалі і на іх месцы пабудавалі дамы. «На душах пабудавалі», — кажуць мясцовыя.

Нічога няма. Цішыня. ◆



# Вагі з дзедавай крамы

## Бязмен часоў Скарыны

**Кемлівыя і гаспадарлівыя беларускія сяляне рэдка калі выкідаюць даўно не патрэбныя ў штодзённым ужытку рэчы. Звычайна яны ашчадна складваюць іх на бязмежных гарышчах. Бо хто ведае: а раптам надыдзе тая часіна, калі менавіта гэтая даўно непатрэбная рэч якраз і спатрэбіцца… Вось і сярод нашых вясковых скарбаў захоўваецца адна незвычайная рэч, сапраўдная сямейная рэліквія, расказвае Павел Булаты.**

Гаворка ідзе пра бязмен старасвецкай канструкцыі. Такімі ў побыце даўно ўжо не карыстаюцца. Але яго незвычайны выгляд быў цалкам натуральным для нашых продкаў. Канструкцыя не складаная. Гэта стрыжань, на адным канцы якога замацавана процівага ў выглядзе конуса, а на другім канцы змяшчаецца кручок, да якога падвешваецца груз альбо чаша. На стрыжань надзетая пятля. Каб нешта ўзважыць на гэтым бязмене, трэба пачапіць на кручок груз і, трымаючы вагі за пятлю, рухаць яе, пакуль не будзе дасягнутая раўнавага. На стрыжні нанесеная шкала вымярэння, пры гэтым значэнне масы пазначанае не лічбамі, а кропкамі. Вымяраецца ж вага ў… фунтах! Так, не ў звыклых кілях, а ў фунтах. Гэтая мера вагі панавала на вясковых абшарах Заходняй Беларусі да пачатку 1960-х… На нашым бязмене рыскі адпавядаюць фунту, 1½ фунта, 2 фунтам — і гэтак да 20 фунтаў (1 фунт — гэта 409,5 гр.).

Менавіта бязменамі такой канструкцыі карысталіся і сто гадоў таму, і дзвесце, і ў часы Скарыны! На гравюры «Ісус Навін вядзе людзей Ізраілевых праз Іардан» у выданні Францыска Скарыны мы бачым тоўсты канец такога самага бязмена, які тырчыць са складак

адзення барадатага чалавека. Канструкцыя прылады амаль не змянілася. І толькі адносна нядаўна на змену такім бязменам прыйшлі звыклыя нам вагі.

Адкуль такая прылада ўзялася ў звычайнай вясковай хаце? Бо бязмен — атрыбут купцоў, рэч гандлёвага ўжытку. Справа ў тым, што ён належаў нашаму прадзеду, які амаль 20 гадоў быў прадаўцом у вясковай краме.

Наш прадзед Грыц Антось Вікенцьевіч нарадзіўся на Каляды ў 1917 годзе, часы, калі недалёка ад нашай вёскі Мацылёўшчына (зараз у Нясвіжскім раёне) застыў фронт Першай сусветнай, а ў сялянскіх хатах стаяў табарам 16-ы Ровенскі полк расійскай арміі... Спачатку жыў на ўласным хутары, хадзіў у польскую школу. Маладым пабраўся шлюбам, нарадзіліся трое дзетак. У ліпені 1944-га быў прызваны ў войска і ваяваў у артылерыі на 1-м Беларускім фронце. У час баёў на Одэры адбіў восем контратак і быў узнагароджаны медалём «За адвагу», хоць ні яго, ні іншых медалёў ніколі не насіў і пра вайну не распавядаў.

Вярнуўшыся з вайны, Антось прадаў сваю хату на хутары і перабраўся ў жончыну, у самым цэнтры вёскі. Жонка хутка памерла, і ён застаўся адзін з дзецьмі. Але неўзабаве ўзяў за жонку нашу прабабулю, якая прыходзілася яму кумой. Яна таксама засталася адна з маленькай дачкой — нашай бабуляй, — бо муж яе памёр ад сухотаў, абцяжараных атрыманымі на вайне ранамі. Хоць Антось нам не крэўны, але родным стаў, і інакш як дзед Антось мы яго не называлі. Пасля шлюбу ён перавёз з хутара хату прабабулі, паставіў яе насупраць сваёй старой і там жыў, трымаючы гаспадарку да самай смерці ў 1997 годзе...

Вайна добра-такі адбілася на здароўі дзеда Антося: па вяртанні ў яго аднялі палову левай нагі. З таго часу ўсю дарогу ён клыпаў на драўляным завостраным пратэзе. Без нагі ён не мог пайсці на якую фізічную працу ў калгас, які па вайне з'явіўся ў нашай вёсцы. Гэта вызначыла яго лёс — дзед Антось стаў загадчыкам вясковай крамы.




**План вёскі Мацылёўшчына** (Нясвіжскі р-н).

Магáзін (не крама, а менавіта так заўжды тут называлі ўстанову гандлю) з'явіўся ў Мацылёўшчыне адразу пасля вайны, бо раней, калі ўсе жылі на хутарах, мелі ўсё сваё, і магазін той быў не надта патрэбны. Калі чаго не хапала, ездзілі ў Сноў, там было мястэчка. Спачатку магазін быў у самым пачатку вёскі ў Проньчынай хаце і «магазыншчыкам» быў некалькі гадоў Міхаль Булаты, таксама былы франтавік. Але ён, як ажаніўся, з'ехаў у Баранавічы. Ад яго справы пераняў Грыц Антось. Асабліва кандыдатаў на гэтую працу ў вёсцы не было, бо тут трэба і справаздачу напісаць, і разлічыцца, і па тавар з'ездзіць. Раней у краму не прывозілі ўсё неабходнае, як зараз, трэба было прадаўцу самому паехаць і прывезці добры тавар. Тут і прыдаўся для гэтай справы аднаногі і адукаваны Антось.

Пэўны час магазін заставаўся ў Проньчынай хаце, але яна была малая. Тады магазін перанеслі ▶

**«Гэта Саветы навучылі нас піць і спяваць. Раней рабілі ўсе на сваёй гаспадарцы ад сонца да сонца, часу не было на тое»**



Выява бязмена на гравюры **«Ісус Навін вядзе людзей Ізраілевых праз Іардан»** у выданні Францыска Скарыны



**Грыц Антось Вікенцьевіч**, фота ў поўны рост з драўляным пратэзам.

▶ ў большую хату, дзе жыў млынар Паўло. Яна была якраз насупраць старой Антосевай хаты. Але там было яму гандляваць нязручна, і ўрэшце магазін ён перанёс у сваю хату (якая засталася ад першай жонкі). Ад дарогі павесілі адмысловую шыльду. Так амаль на 20 гадоў вясковы магазін атабарыўся на адным месцы.

Сама хата была невялікаю, дзялілася на дзве часткі. У адной Антось да паўторнай жаніцьбы жыў з дзецьмі, у другой частцы — каморы — быў магазін. Часам і ў жылой хаце і калідоры стаялі бочкі, скрыні з таварам. У каморы быў зладжаны прылавак, там вёўся гандаль, ляжалі тавары, на бэльках вісела вэнджаная камса. Яна хоць і была смачнаю, але вяскоўцы не надта яе набывалі, браў толькі адзін прыезджы расіянін. Прадаваўся там у асноўным бытавы тавар, бо прадукты тады ў кожнага былі свае, і ў магазіне іх ніхто б ніколі не купляў.

Па тавар дзед Антось ездзіў на базу ў Нясвіж, бывала што і ў Клецк. Але быў у яго дзяржаўнай гандлярскай дзейнасці і элемент асабістай камерцыі. У Снове ладзіліся сельскія кірмашы, куды з'язджаліся на торг сяляне з навакольных вёсак. Там, у ларках, Антось набываў тавары і перапрадаваў з наварам у сваёй краме. Справы ішлі добра! З прадуктаў былі цукеркі, халва, прадаваліся ўпрыгожанні — пацеркі ды завушніцы. У магазіне можна было абмяняць яйкі на які тавар ці грошы. Але найбольшы даход давала гарэлка. Сам Антось казаў: «Гэта Саветы навучылі нас піць і спяваць. Раней як было? Рабілі ўсе на сваёй гаспадарцы ад сонца да сонца. Часу не было на тое. А цяпер што...»

Прадаваў ён гарэлку і ўдзень, і ўначы. Бывала, прыедуць, а ехалі адусюль, пагрукаюць — «Антось, адкрывай!» — і ён устае, ідзе ў магазін (бо што тут перайсці праз сені!) і адпускае гарэлку, а бывае, і вып'е разам з кім.

А для вясковай моладзі магазін быў, як тут казалі, апораю — месцам баўлення часу. Уздоўж глухой сцяны, якая выходзіла да дарогі, стаяла лаўка. Там збіраліся, ладзілі танцы. Дзяўчаты запрашалі музыкаў і скакалі, спявалі. Яно добра каля магазіна: тут хлопцы і бутэльку возьмуць, і яйкі на цукеркі памяняюць, каб дзяўчат пачаставаць. Усю дарогу там збіралася вясковая моладзь.

Дзед Антось прапрацаваў у магазіне да сярэдзіны 1960-х. Скончылася ўсё рэвізіяй, якая налічыла вялікую нястачу. Бо па вясковай завядзёнцы шмат што давалася напавер, і па «вэксалях» аддавалі вяскоўцы не заўжды. Так іназбіралася за шмат гадоў. Каб разлічыцца з дзяржаваю, Антось пазычыў грошы ў сваячкі. А потым сабраў машыну яблык, завёз іх у Маскву і прадаў. Так і разлічыўся.

## Сабраў машыну яблык, завёз іх у Маскву і прадаў — так і разлічыўся за недастачу

За гады працы вобраз магазіна і прадаўца добра замацаваўся ў народнай памяці. Хоць даўно ўжо няма ні той хаты, дзе была крама, ні самога дзеда Антося, пра былое ў вёсцы памятаюць добра. А мы захоўваем каштоўны сямейны артэфакт – старасвецкі фунтовы бязмен незвычайнай канструкцыі. ◆



**Танцы каля магазіна**, 1950-я.

*Cuisse de nimphe émue*

# Колер сцягна напалоханай німфы



## Французская раскоша родам з Крыма

**Любімыя колеры эпохі могуць сказаць пра яе многае. Улюбёнымі колерамі XVIII стагоддзя былі ружовы і блакітны. У вопратцы, у інтэр'ерах, у мастацтве выкарыстоўваўся ўвесь спектр адценняў, а наймаднейшым было адценне з гуллівай назвай «колер сцягна напалоханай німфы» — далікатна-ружовы з дамешкам вохры.**

Ружовы і пастэльныя адценні іншых колераў сталі асновай стылю ракако, які ўзнік у Францыі ў XVIII стагоддзі, напярэдадні Французскай рэвалюцыі. Прыкметы ракако — банцікі, стужачкі, завіткі, гіганцкія прычоскі, адбеленыя твары і мушкі над вуснамі. І як мага больш золата ва ўборы. У паводзінах — капрызнасць, раскоша, вясёлая прыгажосць. Мусова — амаладжэнне: нават 60-гадовыя жанчыны павінны былі прыкідвацца 20-гадовымі дзяўчаткамі, прывязваць да грудзей планшэткі (шыкоўныя формы тады не віталіся, у модзе былі дзіцячыя пляскатыя грудзі і танюткая талія). Мужчынам, зрэшты, таксама даставалася: бегаць па лузе за матылькамі ў высокім парыку ды ружовых панчохах разам з 60-гадовай німфай з птушыным гняздом на галаве...

### Пра німфаў

Арыстакраты нібы адчувалі, што хутка страцяць усе выгоды, і так баяліся гэта асэнсаваць, што ратаваліся ▶

**Следам за колерам сцягна напалоханай німфы французы прыдумалі колер сцягна ўсхваляванай німфы і проста колер сцягна німфы — так бы мовіць, у штатнай сітуацыі**



**Вільям Бугро. «Німфы і сатыр». 1873 год.**

▶ эскапізмам. Сюжэты і галоўная ідэя эпохі ракако — ідылія, уцёкі ад рэальнасці, вечная маладосць, бесклапотнае шчасце. Заканамерна галоўным сімвалам гэтага часу сталі німфы — жаночыя боствы, якія жылі ў гарах, лясах, крыніцах, марскіх водах вясёлым і бесклапотным жыццём. Вечна маладыя і амаль бессмяротныя.

## **Німфамі** на тагачасным слэнгу называлі прастытутак

Калі ў Францыі XVIII стагоддзя выводзілі новы сорт ружы, то ўнікальнае адценне гулліва называлі «сцягном напалоханай німфы»: голыя пругкія сцёгны німфаў эратычна ружавеюць, калі тыя ўцякаюць ад нахабнага сатыра.

Забаўна, што саджанцы гэтых унікальных ружаў французы прывезлі з Крыма. Вось якая зямля насамрэч спарадзіла гэты дзівосны колер.

Цяжка сказаць, колер з'явіўся менавіта як абазначэнне афарбоўкі новага сорта ружы ці наадварот — называючы ружу, батанікі зафіксавалі ў навуцы модны французскі колер. У любым разе, трэба дадаць, што следам за колерам сцягна напалоханай німфы французы прыдумалі колер сцягна ўсхваляванай німфы — *cuisse de nymphe emue* (вызначыць яго адценне можа хіба толькі рэдкі знаўца), а да таго ж і проста колер сцягна німфы — так бы мовіць, у штатнай сітуацыі.

Банцікі ракако з часам саступілі месца спакойнаму мінімалізму. Але сучасны стыль не замінае нам заўважаць вакол мноства колераў, увесь час прыглядацца да новых адценняў. У тым ліку і да ружова-вохрыстага, народжанага вольным Крымам і распазнанага далікатнай Францыяй.

Але не ўсё з тымі німфінымі сцёгнамі было так пастаральна-соладка. Французы не былі б французамі, каб не надалі пафаснай назве іранічнага значэння: німфамі ў тагачасным грамадстве называлі прастытутак. Пра тое, ад чаго залежаў колер іх сцёгнаў, можна паразважаць.

### Амур на парозе рэвалюцыі

Колер сцягна напалоханай німфы, пішуць у адных мемуарах, стаў галоўным колерам Еўропы эпохі ракако. У той жа час для пазнейшых аўтараў ён — сімвал празмернасці, усеагульнай безгустоўнасці, якая часта папярэднічае крызісу культуры і сацыяльным узбурэнням. Гэта веставала і ракако ў Францыі.

Французская арыстакратыя захапілася завіткамі, стужачкамі, фліртам і нібы адгарадзілася гэтым ад усіх прыкмет набліжэння катастрофы. Іншыя краіны Еўропы не з такім запалам, але таксама пераймалі французскую моду. Хоць былі і людзі, каго ўсё тое раздражняла.

«Эпоха сапсаванага густу», — казаў Дэні Дзідро.

«Ужо ніхто не шукае славы, а толькі забавы», — перажываў Вальтэр.



**Колер сцягна напалоханай німфы можна ўбачыць і ў элементах гардэробу** на партрэце сям'і Прозараў аўтарства віленскага мэтра Францішка Смуглевіча. 1789 год.

**Леў Талстой «Вайна і мір» — пра Іпаліта Курагіна:**

«Из-за самоуверенности, с которой он говорил, никто не мог понять, очень ли умно или очень глупо то, что он сказал. Он был в темно-зеленом фраке, в панталонах цвета cuisse de nymphe effrayee, как он сам говорил, в чулках и башмаках».

Набліжалася развязка. Супермодны сярод арыстакратаў колер сцягна напалоханай німфы насамрэч быў колерам перадрэвалюцыйнага адчаю.

Ці далятаў гэты адчай французскай арыстакратыі да нашых зямель? Відаць, так. Калі ў Францыі пікам цікавасці да новага колеру была другая палова XVIII стагоддзя, то на нашых землях — першая палова XIX-га.

Мода трошкі зачапіла Рэч Паспалітую, але найбольш — Расійскую Імперыю. Гэта адзіная, апроч Францыі, краіна, дзе колер сцягна напалоханай німфы прыжыўся і трапіў людзям на язык. Моду на французскае тут не змагла выкараніць нават нянавісць да Напалеона. І адценне, і назва распаўсюдзіліся з часоў імператара Паўла I (1796–1801). Тады Расія закупляла ў Францыі ружовую фарбу для афарбоўкі тканіны, з якой шылі падкладку для афіцэрскіх мундзіраў.



**Модны колер выкарыстоўвалі і ў інтэр’ерах.** Блізкае адценне — на карціне Івана Хруцкага з выявай пакоя ў яго сядзібе Захарнічы. 1855 год.

Піск французскай моды — колер сцягна напалоханай німфы — замацаваўся ў культуры. Леў Талстой пакпіў з героя «Вайны і міра», дурнаватага Іпаліта Курагіна: на вечар у Ганны Паўлаўны Шэрэр той апрануў цёмна-зялёны фрак і панталоны колеру сцягна напалоханай німфы. Праз паўстагоддзя пасля Талстога з колеру іранізавалі Ільф і Пятроў. ◆

**Паўліна Скурко**

**Ружы на карцінах Івана Хруцкага** надзвычайна нагадваюць легендарны сорт «сцягно напалоханай німфы». «Ружы і плады», 1839.

# Піражкі рыэлтарскія

## «Вы будзеце першая, у каго я выстралю»



**Расказвае Таццяна Яндальцава з Мінска, агент па нерухомасці з вялікім стажам.**

**— Я прыйшла ў рыэлтарства ў 1991-м**, — кажа Таццяна Барысаўна. — Раней працавала інжынерам у праектным бюро, і мы вельмі добраараблялі, працавалі на ўвесь Саюз, праектавалі металаканструкцыі. Адна з бэлек у мінскім Палацы Рэспублікі — таксама мая. А ў 90-х крызіс настаў страшны. Будавалі мы камунізм, будавалі і дабудаваліся, што есці не было чаго. Трусоў было не купіць! Мне трэба было хадзіць да доктара, як была цяжарнай, кожныя два тыдні — і было не знайсці цэлай, нецыраванай бялізны! Цётка мне тады са сваіх старых запасаў падарыла!

У 1990-м я пайшла ў дэкрэт. Думала, што потым рабіць: вяртацца ў праектную работу сэнсу не было. А я ляжала ў адной палаце з жанчынай, якая потым пайшла працаваць у нерухомасць, у арэнду. І аднойчы мы з ёй сустрэліся, і яна кажа: я столькі зарабляю, што ўвогуле не лічу грошай, кідаю ў сумку — і ўсё. І я палічыла: пайду туды, мне ж трэба дзіця падымаць. Так і аказалася ў нерухомасці.

**А тады ў агенцтвах стаялі чэргі, найперш з тых, хто з'язджаў за мяжу**. Тады прыватызацыя толькі пачыналася і прадаць можна было толькі кааператыўныя кватэры. А калі ў вас было дзяржаўнае жыллё, яго трэба было спярша памяняць на кааператыўнае, а потым ужо шукаць пакупнікоў на новую кватэру. Тут і прыходзілі да рыэлтараў.

### У 90-х быў пік продажаў

Наша работа заключалася ў тым, каб паказваць кватэры і потым афармляць дамову куплі-продажу. Мне гэта падабалася і цяпер падабаецца. У гэтай рабоце патрэбныя ўдачлівасць, працавітасць і рэакцыя: сарваўся, паехаў, паказаў — усё. Самае складанае ў нашай рабоце — гэта, напэўна, уменне зносіцца з людзьмі. Але мне гэта было нескладана. Я аптымістка — і пра ўсіх думала добра. Гэта цяпер ужо мне амаль 70, і стала жыць неяк з асцярогай.

**Многа было выпадкаў, калі станавілася страшна**. Быў у мяне адзін прадавец кватэры, міліцыянт. Знайшлі купца яму, вызначыліся з сумай, усё абгаварылі. Напярэдадні здзелкі ён мне кажа: «Заўтра я вазьму сяброў, і ўсе мы прыедзем са зброяй. Я вас папярэджваю: калі нешта пойдзе не так, вы будзеце першая, у каго я выстралю». Я кажу: «Я згодная быць першай, не пытанне. Я знаю: я ніколі нікога не падманвала, так што можаце страляць». Назаўтра была здзелка, і ўсё скончылася добра. У нашай справе галоўнае — канфідэнцыйнасць.

**Стаў нехта мне званіць і несці ахінею: «Ты вінаватая, я цябе знайду, я цябе пакараю»**. Вось тады ўвогуле было страшна, кашмар. Я пайшла ў міліцыю, напісала заяву. Потым міліцыя мне расказала: гэта, аказваецца, прыехалі з Прыбалтыкі гастралёры, адкрылі тут офіс, нібы нейкую кампанію. Адразу далі рэкламу. Месяц прапрацавалі, назбіралі бабак і зніклі. А мне стаў званіць абураны кліент, якога яны падманулі. Пераблытаў нумары. У міліцыі мне сказалі: жывіце спакойна, вас ніхто больш не патурбуе, ён проста спрабаваў весці сваё расследаванне.

Але што тады адбывалася! У мяне была знаёмая ў БТІ (Бюро тэхнічнай інвентарызацыі), яна мяне моцна выручала. Аднойчы яна мне паказала на дваіх: «З імі ніколі не звязвайся, гэта чорныя маклеры, яны тут такія справы праварочваюць, не дай бог!» Тады

– Мне гэты рэцэпт дала адна дзяўчынарыэлтарка, але я яго ўдасканаліла: дадаю больш тварагу і менш мукі і, мне здаецца, дабілася аптымальнага смаку. Я гэтых піражкоў зрабіла мільярд у сваім жыцці: і ў агенцтве ўсякія зборы былі, і асабліва ў сям'і, мая мамачка іх вельмі любіла. Мне нават у агенцтве гаварылі: пойдзеш на пенсію, адкрывай сваю пякарню, піражкі будуць разлятацца на ўра.

## Рыэлтарскія піражкі

*На 32 піражкі патрэбна:*

**Для цеста:**

- 2 яйкі,
- 2 пачкі тварагу,
- 2 няпоўныя шклянкі мукі,
- 1 ч. л. цукру,
- 2 дробкі солі,
- 1 ч. л. соды і воцат, каб яе пагасіць.

**Для начынкі:** вараная капуста з пасіраванай цыбуляй і вараным яйкам, або варанае мяса, прапушчанае праз мясарубку, або павідла*.

Узбіць 2 яйкі, умяшаць 2 пачкі тварагу, дадаць солі і цукру (можна на свой смак). Усё перамяшаць. Чайную лыжку соды без горкі загасіць воцатам і дадаць у тварожна-яечную масу. Яна ўспеніцца, тварог падымецца. Дадаць 2 няпоўныя шклянкі мукі, абавязкова прасеяўшы праз сіта, каб мука набралася паветра і цеста стала пышнейшым. Цеста змясіць, каб адліпала ад рук, скачаць у вялікі рулік і падзяліць нажом на чатыры часткі. З кожнай часткі зрабіць 8 шарыкаў. Кожны шарык раскачаць у выглядзе блінчыка. Пакласці начынку, зляпіць краі і потым швом уніз пакласці на разагрэтую патэльню, на алей. Алею можна наліць зусім трошкі.

не друкавалі ў прэсе, не расказвалі пра гэта, але ўсякага хапала.

Чорныя маклеры знаходзілі алкашоў, спойвалі, вывозілі ў нейкі дом падстаўны, казалі, маўляў, гэта будзе іх новае жыллё, афармлялі продаж кватэры, а потым труцілі, забівалі, людзі гэтыя знікалі бясследна. Або афармлялі кватэру на некалькіх чалавек: адным прадалі, на наступны дзень другім, і хто першы зарэгістраваўся, таго і кватэра. Цяпер я такога ўжо не чую.

**Аднойчы аднаму агенту так даверыліся прадаўцы, што аддалі грошы. Ён іх узяў і ўцёк.** У мяне таксама была кліентка, якая прадала сваю кватэру і ёй трэба было ісці купляць новую ў іншае агенцтва. Яна мне гэтыя грошы ўручыла, я іх схавала ў пэўнае месца, у грудзі, і мы з ёй пад ручку пайшлі ў агенцтва купляць ёй кватэру.

**Мужчына купіў кватэру, піў і весяліўся два дні. І ноччу тэлефануе дзяўчыне-агенту, якая афармляла здзелку: «Здра-а-асце, Ірына. А дзе-е-е я купіў кватэ-э-эру?»** Аказалася, ён адрас не помніў. Цяпер усё прасцей, дакументы даюцца адразу на рукі. А раней пасля здзелкі ты ехаў у БТІ і падаваў дакументы на рэгістрацыю, трэба было чакаць тры дні. Дык вось гэты чалавек яшчэ памятаў, што з ім схадзілі ў БТІ, што ён аддаў грошы, атрымаў квітанцыю. Ён, бедны, піў два дні, гуляў, ачухаўся з квітанцыяй на руках і вось тэлефануе: «Дзе я купіў кватэру і ці сапраўды купіў?»

**Аднойчы мы з кліентам зарэгістравалі яго куплю, я аддала яму квітанцыю, а назаўтра ён мне тэлефануе і кажа: «Таццяна Барысаўна, я нічога кепскага вам не зраблю, толькі праўду скажыце: вы мяне ашукалі? Ці я сапраўды купіў кватэру?»** Я кажу: «Сапраўды купілі». «Я не веру. Я ўсё аддаў, я ўсе свае грошы аддаў, потым мы некуды з вамі схадзілі... Але ў мяне на руках адна паперчына, адна квітанцыя. Можа, гэта ўсё не праўда...» Я кажу: «Ну як вам патлумачыць? Давайце сёння сходзім разам туды, куды мы ўчора хадзілі, і даведаемся, ці ўсё чэсна». Мы схадзілі ў БТІ, ён падышоў, пракансультаваўся: «Я купіў кватэру, мне далі квітанцыю, ці ўсё правільна?» — «Усё правільна, вам трэба забраць дакументы праз два дні».

Праз два дні, як ён пабачыў, што ён сапраўдны гаспадар, што ўсё пячаткай заверана, быў такі шчаслівы! Гэты хлопец меў сваю маленькую справу, пёк піцу — і прыпёр мне тады агромністую піцу і шампанскае. Ён кажа: «Я дык верыў вам, але мне ўсе казалі, жонка казала: дурань, цябе кінулі, ты аддаў грошы і нічога не атрымаў».

**З вясёлага. Чалавек пазваніў у агенцтва, запусціў інфармацыю, што яму трэба кватэра, агент з ім працуе, падбірае**. Тэлефануе яму, а быў вечар пятніцы: «Як вы адносіцеся да вуліцы Багдановіча?» «А-а-адношуся, але токі не сёдня... А так — а-а-адношуся, але не сёдня».

Гэтая фраза «а-а-адношуся, але не сёдня» стала ў нас прыказкай, мы заўсёды з гэтага выпадку рагаталі. ◆

**Запісала Паўліна Скурко**


Новы мікраараён на Сурганава – Бяды ў 90-я **быў адным з самых прэстыжных** у Мінску.

* Каб павідла не расцякалася, бабуся заўсёды дадавала ў яго манку, яно тады гусцее і не праточваецца праз цеста.




У выдавецтве «Галіяфы» выйшла цікавая кніга Міхаіла Апалінар'евіча Буценева «Хронікі сям'і Храптовічаў-Буценевых». Аўтар кнігі — нашчадак славутага ў беларускай гісторыі роду Храптовічаў. Род гэты валодаў шматлікімі маёнткамі на тэрыторыі Беларусі. У XIX стагоддзі гэты род па мужчынскай лініі выгас, а асноўная маёмасць перайшла праз шлюб адной з апошніх прадстаўніц роду да расійскага дваранскага роду Буценевых. Міхаіл Буценеў (1919—1992) піша як пра гісторыю абодвух родаў, так і пра асобных ягоных прадстаўнікоў. Гістарычныя звесткі дапаўняюцца ўласнымі ўспамінамі аўтара, у тым ліку і з таго перыяду, калі бацька аўтара ў другой палове 1930-х пераехаў з парыжскай эміграцыі ў радавы маёнтак Шчорсы, які тады знаходзіўся ў Польшчы.
Адзін з фрагментаў гэтых мемуараў, **«Паляванне ў Шчорсах»**, прапануем тут вашай увазе.

Лясы нашы ў Шчорсах славіліся паляваннем. Паколькі яны былі працягам дзяржаўнага лесу Налібокі (Налібоцкая пушча), жыўнасці там было даволі шмат, і досыць разнастайнай. Апошнім сапраўдным паляўнічым у сям'і Храптовічаў быў Міхаіл Ірынеевіч. У гушчары ў яго нават была адмыслова пабудаваная хацінка. З той пары прайшло шмат часу, хацінка знікла, і ніхто з жыхароў Шчорсаў паляваннем больш не цікавіўся. Дзядуля і яго брат Міша да ловаў былі абыякавыя. Бацька мой быў добрым паляўнічым, але ў яго вечна не хапала на гэта часу, ні ў часы яго навучання ў Маскве, ні пазней, на яго дыпламатычнай службе. Цяпер жа, вярнуўшыся ў свае беларускія ўладанні, бацька, мой брат Косця і я сталі заўзятымі паляўнічымі, а сёстры Каця і Мар'юшка таксама ў гэтым удзельнічалі. Пасля таго, як Косця пакінуў Шчорсы, ажаніўся і пасяліўся ў Францыі, самым заўзятым паляўнічым у нашай сям'і заставаўся я.

Паляваць у Шчорсах можна было заўсёды. Улетку і ранняй восенню можна было паляваць на аленяў, на дзікіх качак і гусей, вальдшнэпаў і нават на мядзведзяў, колькасць якіх была такая вялікая, што наносіла сур'ёзныя страты сялянскім ураджаям.

Узімку можна было выбіраць паміж вепруком, ваўком і лісіцай. Асабліва цікавымі былі ловы на вепрука-адзіночку, які дасягаў значнага памеру і вагі і, дзякуючы сваёй моцы, быў даволі небяспечны. Звычайна ён па нейкіх прычынах адставаў ад вепруковай сям'і і жыў сам па сабе. Вяпрук-адзіночка быў асабліва асцярожны, бо ён мусіў разлічваць толькі на сябе. Але яму даводзілася біцца за сябе сур'ёзна ў многіх крывавых бітвах. Напрыклад, вяпрук-адзіночка часта нападае на іншага вепрука, нават калі той проста сустракаецца яму на шляху або выказвае недастатковую павагу.

Звычайна адзіночка не нападае на чалавека, калі толькі ён не спуджаны і не паранены. Калі ж нападае, то праяўляе сябе абсалютна бясстрашна, і многія паляўнічыя

былі сур’ёзна параненыя ў бойках з ім. Дзіва, як лёгка гэты вялізны і цяжкі звер рухаецца нават у глыбокім снезе. У лічаныя долі секунды ён апынаецца перад сваім ворагам з нізка нахіленай галавой і ікламі, накіраванымі такім чынам, каб першы ўдар нанеслі іх адточаныя, як нажы, канцы. Як толькі гэтыя іклы пранікаюць у цела ворага, сваім далейшым рухам вяпрук разрывае яго.

Чым бы ні закончылася гэтая атака, незалежна ад таго, пацэліў або прамахнуўся, вяпрук-адзіночка не супакойваецца і працягвае напад. У гэты час ён звычайна рухаецца па прамой лініі, пакуль нарэшце не губляе разгон, і тады ён можа рухацца ў любым кірунку. Адзінай абаронай паляўнічага ад такога нападу з’яўляецца хуткі скок убок у самую апошнюю секунду.

Наш лес у Шчорсах быў падзелены на дзялянкі, межамі якіх звычайна служылі лясныя дарогі або сцяжыны. Кожная дзялянка знаходзілася пад наглядам аднаго з леснікоў, які звычайна і жыў там у старожцы. Ляснік быў адказны за захаванасць лесу і яго жыхароў (папярэджанне браканьерства, незаконных парубак, лясных пажараў і пад.).

Ляснік таксама адыгрываў важную ролю ў арганізацыі палявання на яго дзялянцы: ён высочваў дзічыну, быў правадніком і заўсёды паказваў шчодрыя веды ў звычках дзічыны, следапыцтве і г. д. Сваю дзялянку ён ведаў як уласную кішэню.

Леснікі, апранутыя ў форму, са стрэльбай, звычайна здзяйснялі аб’езды дзялянак або верхам, або на санях, у залежнасці ад пары года. Зімой снег, які пакрываў дзялянку, дапамагаў ім высветліць, што адбываецца на іх дзялянцы. Даведаўшыся пра будучае паляванне, леснікі на аб’ездзе адзначалі па слядах перамяшчэнні жывёл. Звычайна дзічына перамяшчаецца ноччу і адпачывае ўдзень. На раніцу ім было звычайна ясна, дзе знаходзіцца звер.

Узімку дні вельмі кароткія. І не пазней, чым у поўдзень паляўнічыя і леснікі збіраюцца ва ўмоўленым месцы ў лесе і складаюць план палявання. Усе леснікі звычайна самі дасведчаныя паляўнічыя (хаця яны не павінны паляваць для сябе). Найбольш дасведчаны з іх — галоўны ляснічы. Яго рашэнні вызначальныя.

Цяпер усе ціха рухаюцца да выбранай дзялянкі, дзе галоўны ляснічы расстаўляе паляўнічых, звычайна ўздоўж лясной дарогі або сцяжыны. Ён звычайна можа прадбачыць, якімі шляхамі загнаны звер паспрабуе сысці. І адпаведна расстаўляе паляўнічых.

У той жа час леснікі разгортваюць жывы ланцуг на супрацьлеглым баку дзялянкі і пачынаюць рухацца да рысы паляўнічых. Яны ідуць павольна, зрэдку ламаючы сучча або пагрукваючы палкай па ствале дрэва. Звер урэшце заўважае людзей, падымаецца з лежні і пачынае сыходзіць, часам бяжыць, а часам ідзе непрыкметна.

Чалавеку, які ніколі не паляваў у Шчорсах зімой, даволі цяжка ўявіць, што ты адчуваеш у такія моманты: цудоўныя старыя елкі з засыпанымі снегам галінамі, абсалютная цішыня вакол — усё гэта стварае літаральна казачную атмасферу. Ты стаіш у гэтай прыгажосці, сціскаючы стрэльбу, з усё больш паскораным сэрцабіццём, чакаючы, калі нарэшце з’явіцца звер, які разарве гэтую цішыню.

Затым нечакана здалёк ты ўгадваеш спачатку нязначныя рухі: снег злятае з адной галінкі, потым з другой — значыць, пад ёй прабіраецца звер. Затым раптоўна ты бачыш саму жывёлу, якая намагаецца сысці па глыбокім снезе. Гэта цудоўнае і ўзрушальнае відовішча. Ты павольна падымаеш стрэльбу...

А затым — вяртанне дадому. Яшчэ пры святле хутка сыходзячага дня ты спяшаешся да саней, якія чакаюць. Ты чартоўскі стаміўся ад доўгага падарожжа па снезе, стаяння ў снезе і ўсяго таго напружання і хвалявання ў рысе паляўнічых. Ты прамёрз да костак, нягледзячы на футра, мехавую шапку і валёнкі. Наш кучар Васіль накрывае цябе ваўчынай поўсцю, і ты, нарэшце, можаш зручна расцягнуцца на санях.

Сані хутка слізгаюць, іх вядуць двое маладых коней, запрэжаныя адзін за адным. Званочкі пад дугой, якія былі знятыя, каб не ствараць лішняга шуму ў час палявання, цяпер павешаныя назад. Яны патрэбныя, каб папярэдзіць сустрэчных на вузкай дарозе. Яны напаўняюць паветра шыкоўнымі акордамі ў рытм кроку коней. Санныя палазы адказваюць ім лёгкім парыпваннем па цвёрдым снезе.

Цяпер ужо апусцілася поўная цямрэча і цалкам схавала вузкую дарогу наперадзе. Шчыльныя сосны змыкаюцца ў цябе над галавой у цёмны тунель, абрамлены падобнымі на завесу галінамі. Затым нечакана — выбух святла. Не пасляваючы перавесці дух, ты вылятаеш, як страла з лука, у абсалютна адкрытую прастору. Лес застаўся ззаду, і цяпер ты яшчэ хутчэй скочваешся ўніз пад гару да замерзлага Нёмана і паплавоў, засыпаных снегам, у той час як над табой разгортваецца зорнае неба такой прыгажосці, якой ты яшчэ ні разу не бачыў у сваім жыцці. Неба засыпанае яркімі зоркамі — вялікімі і маленькімі, такімі яркімі, што ты з цяжкасцю ачуньваеш ад хвалявання перад гэтай прыгажосцю.

За лічаныя хвіліны ты перасякаеш раку. Заснежаныя лугі мільгацяць так жа хутка, як слізгае паўз твой твар ледзяное паветра, начыненае сухім дробным снегам.

А затым, ужо дома, ты прыхінаешся да высокай цёплай кафлянай печкі і адчуваеш, як цяпло павольна патрапляе ў цябе. Затым прыносяць паднос з закускамі і халоднай гарэлкай, першая запацелая крыштальная чарка праходзіць унутр цябе, як вогненная плынь. Ты пачынаеш канчаткова адтайваць: аняменне падбароддзя і ног знікае, і ў цябе пранікае адчуванне рэдкага дабрабыту.

# Праверце, ЯК БЫ ВЫ ЗДАЛІ ЦТ проста зараз

## *Набераце 100 балаў?*

**50 пытанняў па сусветнай гісторыі, складзеных выключна па школьных падручніках.**

**1. Як называецца сістэма міжнародных адносін, якая ўсталявалася пасля Першай сусветнай вайны?**
А) Венская
Б) Вестфальская
В) Версальска-Вашынгтонская
Г) Ялцінска-Патсдамская

**2. Манархі якой дынастыі кіравалі Германіяй падчас Першай сусветнай вайны?**
А) Ягелоны
Б) Гедымінавічы
В) Гагенцолерны
Г) Габсбургі

**3. Які рэжым усталяваўся ў Германіі пасля рэвалюцыі 1918–1919 гадоў?**
А) Веймарская рэспубліка
Б) Нацысцкая дыктатура
В) Юнкерская сістэма
Г) Савецкая рэспубліка

**4. Рурскі крызіс — гэта:**
А) Фінансавы крызіс, які пачаўся з Рурскай біржы.
Б) Увод французскіх і бельгійскіх войскаў у Рурскую вобласць з прычыны адмовы Германіяй ад выплаты рэпарацый.
В) Палітычны крызіс у выніку амбіцый князя Рура.
Г) Канфлікт паміж Італіяй і Грэцыяй.

**5. У якім годзе пачалася Вялікая дэпрэсія ў ЗША?**
А) 1927
Б) 1928
В) 1929
Г) 1930

**6. Які амерыканскі прэзідэнт прапанаваў «Новы курс» у эканоміцы?**
А) Франклін Дэлана Рузвельт
Б) Вудра Вільсан
В) Гары Трумэн
Г) Герберт Гувер

**7. Падчас Грамадзянскай вайны ў Іспаніі дзейнічалі:**
А) Інтэрнацыянальныя брыгады
Б) Блакітныя дывізіі
В) Чырвоныя брыгады
Г) Канкістадоры

**8. Што значыць «аншлюс»?**
А) Інтэграцыя
Б) Саюз
В) Захоп
Г) Разгром

**9. Вызначце асобу па апісанні. Французскі палітычны дзеяч, літаратар, крытык. Член Французскай сацыялістычнай партыі, лідар урада Народнага фронту. У 1945-м вызвалены саюзнікамі з лагера Бухенвальд. У канцы 1946-га ўзначаліў Францыю.**
А) Шарль дэ Голь
Б) Анры Філіп Петэн
В) Леон Блюм
Г) Жан Мулен



МІКАЛАЙ КАЛЬЦОЎ



**Патруль рэспубліканцаў на вуліцах Мадрыда.** Восень-зіма 1936.

**10. У якім годзе нацысты і Саветы падпісалі пакт Молатава – Рыбентропа аб ненападзе з сакрэтнымі пратаколамі аб раздзеле Усходняй Еўропы?**
А) 1937
Б) 1938
В) 1939
Г) 1940

**11. Хто ўзначаліў Венгерскую савецкую рэспубліку ў 1920 годзе?**
А) Іштван Хорці
Б) Томаш Масарык
В) Бэла Кун
Г) Славой Жыжэк

**12. Што такое «Баўхаўз»?**
А) Верхняя палата нямецкага парламента
Б) Ніжняя палата нямецкага парламента
В) Кірунак у жывапісе
Г) Школа дызайну

**13. Хто такі Уладзімір Ленін?**
А) Савецкі военачальнік
Б) Савецкі біёлаг
В) Кіраўнік белых
Г) Кіраўнік бальшавікоў

**14. Хто ўзначальваў Часовы ўрад пасля Лютаўскай рэвалюцыі?**
А) Раман Скірмунт
Б) Уладзімір Ленін
В) Аляксандр Керанскі
Г) Якаў Свярдлоў

**15. Як называліся два планы па стварэнні СССР?**
А) План аўтанамізацыі і план федэрацыі
Б) План Троцкага і план Сталіна
В) НЭП і ваенны камунізм
Г) ГАЭЛРО і Рабкрын

**16. У якім годзе быў утвораны СССР?**
А) 1917
Б) 1918
В) 1921
Г) 1922

**17. Пазначце правільны парадак падзей у гісторыі СССР:**
А) НЭП – індустрыялізацыя – калектывізацыя
Б) Індустрыялізацыя – НЭП – калектывізацыя
В) Калектывізацыя – НЭП – індустрыялізацыя
Г) Калектывізацыя – індустрыялізацыя – НЭП

**18. Які прынцып быў асновай савецкага мастацтва пачынаючы з сярэдзіны 1930-х?**
А) Крытычны рэалізм
Б) Сацыялістычны рэалізм
В) Сацыялістычны рамантызм
Г) Суровы стыль

**19. Хто такі Маа Цзэдун?**
А) Кіраўнік Камуністычнай партыі Кітая
Б) Кіраўнік партыі Гаміньдан
В) Лаўрэат Нобелеўскай прэміі
Г) Апошні кітайскі імператар

**20. Якія два кірункі вызначыліся ў ісламе ў першай палове ХХ стагоддзя?**
А) Шыіты і суніты
Б) Суфісты і мадэрністы
В) Фундаменталісты і рэфармісты
Г) Рэвалюцыянеры і рэфарматары

**21. Як называўся план вайны Трэцяга Рэйху з СССР?**
А) План Ост
Б) План Барбароса
В) План Мажыно
Г) План Бліцкрыг

**22. Што такое «Дарога жыцця»?**
А) Шлях па Ладажскім возеры
Б) Разрыў лініі фронту ў раёне Віцебска
В) Дарога да Холмскіх варот Брэсцкай крэпасці
Г) Пераправа цераз Волгу ў Сталінградзе

**23. Калі была створана Арганізацыя Аб'яднаных Нацый?**
А) 1941
Б) 1942
В) 1945
Г) 1946



**Сцягі перад штаб-кватэрай ААН у Жэневе.**



**Застрэлены на бягу.** Скульптура Герберта Джымі Фэла, заснавальніка парку скульптур «Нямецкае адзінства» на мяжы Цюрынгіі і Баварыі — былой мяжы ГДР і ФРГ.

**24. Калі скончылася Другая сусветная вайна?**
А) 8 мая 1945
Б) 9 мая 1945
В) 2 верасня 1945
Г) 3 верасня 1945

**25. Хто быў прэм'ер-міністрам Вялікабрытаніі з 1941 па 1945?**
А) Уінстан Чэрчыль
Б) Маргарэт Тэтчэр
В) Энтані Ідэн
Г) Дуайт Эйзенхаўэр

**26. Што такое «халодная вайна»?**
А) Супрацьстаянне паміж сацыялістычнай і капіталістычнай сістэмамі
Б) Перыяд адносін еўрапейскіх краін з нацысцкай Германіяй да 1939 года
В) Вайна ў Карэі 1950–1953 гадоў
Г) Палітычная барацьба рэспубліканцаў і дэмакратаў у ЗША

**27. Калі быў створаны Савет Еўропы?**
А) 1920
Б) 1949
В) 1965
Г) 1987

**28. Што такое «макартызм»?**
А) Кампанія па чыстцы дзяржапарату ЗША ад камуністычных агентаў
Б) Палітыка ЗША ў дачыненні да СССР
В) Палітыка, названая па імені Макара Краўцова
Г) Барацьба з чорным рынкам алкаголю ў ЗША



**Лі Харві Освальд, меркаваны забойца Джона Кенэдзі,** з жонкай Марынай у Мінску, на беразе Свіслачы, побач са сваім домам. На заднім плане — Оперны тэатр і будынак Мінабароны. 1961 год.

**29. Пазначце правільную паслядоўнасць прэзідэнтаў ЗША:**
А) Эйзенхаўэр – Трумэн – Кенэдзі
Б) Эйзенхаўэр – Кенэдзі – Джонсан
В) Эйзенхаўэр – Макартні – Кенэдзі
Г) Эйзенхаўэр – Рэйган – Гувер

**30. Пасля Другой сусветнай у Германіі праводзіліся палітыка:**
А) дэнацыфікацыі і дэкамунізацыі
Б) дэлакалізацыі, дэструкцыі і дэманстрацыі
В) дэнацыфікацыі, дэмакратызацыі, дэмілітарызацыі і дэкартэлізацыі
Г) дэнацыфікацыі, дэмакратызацыі, дэмілітарызацыі і дэзынтэграцыі

**31. Як называлася Усходняя Германія падчас савецкай акупацыі?**
А) Германская Дэмакратычная Рэспубліка
Б) Федэратыўная Рэспубліка Германія
В) Германская Народная Рэспубліка
Г) У яе не было назвы

**32. Калі было створана НАТО?**
А) 1948
Б) 1949
В) 1956
Г) 1961

**33. Калі адбылося аб’яднанне ФРГ і ГДР?**
А) 1989
Б) 1990
В) 1991
Г) 1992

**34. Мустафа Кемаль быў кіраўніком:**
А) Ірана
Б) Сірыі
В) Турцыі
Г) Індыі

**35. Хто быў старшынёй прафсаюза «Салідарнасць» у Польшчы?**
А) Іосіп Броз Ціта
Б) Лех Валенса
В) Вацлаў Гавел
Г) Уладзімір Бонч-Бруевіч

**36. Дзе адбылася першая «Аксамітная рэвалюцыя»?**
А) Чэхаславакія
Б) Венгрыя
В) Польшча
Г) Украіна

**37. Што адбылося на XX з’ездзе КПСС?**
А) Быў абвешчаны курс на пасеў кукурузы
Б) Хрушчоў выступіў з дакладам аб культе асобы Сталіна
В) Быў абвешчаны курс на пабудову развітога сацыялізму ў СССР
Г) Было абвешчана аб пачатку індустрыялізацыі

**38. Хто быў ініцыятарам эканамічнай рэформы ў СССР у 1965 годзе?**
А) Аляксей Касыгін
Б) Андрэй Грамыка
В) Леанід Брэжнеў
Г) Мікіта Хрушчоў

**39. Калі СССР увёў войскі ў Афганістан?**
А) 1978
Б) 1979
В) 1980
Г) 1981

**40. Хто быў першым і апошнім прэзідэнтам СССР?**
А) Леанід Брэжнеў
Б) Міхаіл Гарбачоў
В) Барыс Ельцын
Г) Анатоль Лук’янаў

**41. Хто такія «хунвэйбіны»?**
А) Атрады моладзі падчас «культурнай рэвалюцыі»
Б) Прадстаўнікі кітайскай буржуазіі
В) Кітайскія памешчыкі
Г) Атрады Чырвонай Арміі Кітая

**42. Ініцыятарам эканамічных рэформ у Кітаі быў:**
А) Генры Кісінджэр
Б) Сунь Ятсэн
В) Маа Цзэдун
Г) Дэн Сяапін

**43. У якім годзе Індыя стала незалежнай?**
А) 1945
Б) 1947
В) 1948
Г) 1960

**44. Хто стаў першым прэм’ер-міністрам Індыі?**
А) Махатма Гандзі
Б) Махатма Гандзя
В) Джавахарлал Нэру
Г) Індзіра Гандзі

**45. Што стала вынікам Другога Берлінскага крызісу?**
А) Будаўніцтва Берлінскай сцяны
Б) Спыненне амерыканска-савецкай касмічнай праграмы
В) Кароткачасовы ўзброены канфлікт
Г) Забойства Джона Кенэдзі

**Частка В**
(Адказы ў тым жа склоне, што і пытанні)

1. **Як называўся перыяд змены ў палітычным і духоўным жыцці СССР у часы Хрушчова?**
2. **Як называўся рух нязгоднай з пануючай ідэалогіяй і ўладай інтэлігенцыі, які ўзнік на пачатку 1970-х?**
3. **Які кірунак у сацыяльна-эканамічнай палітыцы прадстаўляе тэтчэрызм?**
4. **Назавіце прозвішча аўтара карцін-копій 32 бляшанак супа «Кэмпбэл».**
5. **Назавіце тэрмін: перадача ці продаж дзяржаўнай уласнасці прыватнай асобе ці групе асоб.**

**Правільныя варыянты адказаў глядзіце на апошняй старонцы.**

**Склаў Як-6**

# Героі беларускай гісторыі

## *расказваюць пра сябе*



Імя: Бона Сфорца Д'Арагона

Статус: каралева

Рысы характару: энергічнасць, прага ўлады, мудрасць, густ

Суперздольнасць: уменне зачароўваць

Сімвал: герб роду Сфорцаў



**Ох, сябры, я ж увогуле італьянская прынцэса.** Але выйшла замуж і стала вялікай княгіняй. Як ехала, узяла толькі самае неабходнае — я ж чакала, што тут будзе як дома! Але гляджу з акна карэты: куды я трапіла... Усе навокал барадатыя, у калматых кажухах, рукамі ядуць, мядзведзяў замест сабак дома трымаюць. Кажуць, мода такая. Праплакала я тыдзень і думаю: пакажу я вам моду. Выклікала з Італіі каго магла: кухараў, мастакоў, музыкаў, прыдворных паболей. І папрасіла, каб захапілі з сабой нармальнай ежы. Ага! А адкуль, вы думалі, у вас тут апельсіны, лімоны, аліўкі, рысавая каша ў рэшце рэшт?.. А хто, па-вашаму, навучыў гэтых мужыкоў з мядзведзямі есці з талерак, лыжкамі і відэльцамі? А рыцарскія турніры, а партрэты прыгожыя адкуль?..

**Ну, акультурыла трохі.** Потым новая праблема: людзі б'юцца за зямлю. Ніхто ўжо не памятае, дзе чыя, а саступаць не хоча. Муж разгубіўся. «Жыгімонт, — кажу, — вазьмі сябе ў рукі, зараз усё зробім». Тут ужо мая адукацыя дапамагла — арыфметыка, геаметрыя. Падзялілі мы ўсю зямлю на роўныя кавалкі — валокі. І адразу лягчэй стала спрэчкі вырашаць! Ад майго падзелу ў вас і цяпер многа назваў засталося: Вуглы, Пяскі, Пакуцце...



**І неяк я сама не заўважыла, як палюбіла ваш край.** Муж пабачыў і падарыў мне некалькі гарадоў. Ёсць у вас там такія: Рагачоў, Кобрын, Моталь, Пінск? Дык гэта мае былі. З'ездзіце некалі з бацькамі — пабачыце каналы, якія я павыкопвала, каб землі лепей радзілі і ежы ў людзей было болей. Капалі слугі, канечне, але я сачыла.

**Тут кепскія людзі кажуць, нібы я атруціла нявестку.** Паверце хоць вы — бедная Бася памерла сама. Яна доўга хварэла, а я насіла ёй лекі. Але бываюць хваробы, што нават лекі не могуць дапамагчы...

**Але ёсць жа людзі!** Адна прыдворная змяя прыдумала, нібы я ў сваіх пакоях гатую атруту. А я проста люблю хімію! Змешваць, эксперыментаваць... Сама сабе раблю касметыку. Бо ў наш час у яе дадаюць усякую брыдоту! Напрыклад, ртуць. Ёй толькі ў тэрмометрах месца! Ад ртуці ідуць небяспечная пары. Ведаю, што кажу — наглядзелася на тых, хто і ў танальнік ртуць дадаваў, і ў фарбу для валасоў...



**Калі любіце хімію як я, зрабіце лепш цікавы эксперымент.** Я ў Італіі любіла падарожнічаць да вулканаў. А ў вас тут іх няма, дык я раблю сама — каб не сумаваць па радзіме. Вазьміце палавінку лімона і пасыпце на яе соду. Якая пена выйшла, га? Каб была яшчэ большая, паліце гэты вулкан сокам з другой палавінкі. А калі яшчэ мыльнага раствору дадаць...

Мастачка — Кацярына Першына.
Запісалі Паўліна Скурко, Дар'я Астрагалова

# ФРАНЦЫСК

1520 ГОД. ГДАНЬСКІ ПОРТ.

Доктар Францыск, а можа, сушай паедзем усё ж?
А то морам аж да Мемеля – страшна як!

Морам танней. Мы з тых грошай, што нам біскуп на дарогу даў,
яшчэ на адну кніжку ашчадзім. Невялічкую.
О! Так і назавём яе: “Малая падарожная кніжыца”…

А бадай цябе халера!
Чаго ты прырос тут да дарогі!

Па-нашаму лаецца…
Як на полацкім торгу…

Дык я з Полацка і ёсць!
Чакай, а ты часам не Лукашоў
меншы сын, Скарыніч?

Іван! Тут брат твой!

Францішак! Адкуль?

З Прагі. Дадому.
Віленскі біскуп
кліча да сябе
сакратаром і лекарам.

І колькі ты, Пранучок, будзеш мазгі сушыць са сваімі папамі?
Нажыў майна за дзесяць год – варштат і кніжак воз.

Іван, не пачынай.

Ды мне душа баліць. Кідай у мора сваё барахло – і гайда з намі!
У Шчэцін, у Любек, у Гамбург паплывём, тысячы заробім!
Копы тысяч!

Усё, чаго я дабіўся, выкінуць? Маіх кніг людзі як збавення чакаюць.

Гэта нашу партыю скур як збавення чакаюць.
Ды ад гэтых скур само імя наша – Скарыны.
Бацька жылы рваў, каб нас забяспечыць.

Думаеш, наш дом на полацкім замку,
наша зямля – з неба ўпала ўсё?

Бацька рабаваў людзей.
І я гэтым не ганаруся.

Ды што ты разумееш, ты быў малы.
Гэта былі ліхія 1490-я…

1492 ГОД. УЖО ПЯЦЬ ГАДОЎ ІШЛА ДЗІЎНАЯ ВАЙНА З МАСКОВІЯЙ. ФАРМАЛЬНА МІЖ НАМІ БЫЎ МІР, АЛЕ ЎСЁ ПАМЕЖЖА ГАРЭЛА. НІХТО НЕ ВЕДАЎ, ШТО БУДЗЕ ДАЛЕЙ. АЛЕ ЖЫЦЬ ТРЭБА БЫЛО – І МЫ ВАЗІЛІ ПШАНІЦУ ПА НЕБЯСПЕЧНЫХ ДАРОГАХ. АДНОЙЧЫ НАС АБРАБАВАЎ ВАРОЖЫ РАЗ'ЕЗД.

Тата, дай мне пістолю!
Я пайду іх даганяць, адбіваць тавар!

Сядзі, дурняло. У цябе галава адна,
а ў іх дваццаць шабель.
І пістоля нам яшчэ спатрэбіцца.

# ЛІХІЯ 1490-я


***Сюжэт: Андрэй Скурко***
***Малюнак: Антаніна Пашкевіч***






















# ТРАФЕІ з-пад Кірхгольма



27 верасня 1605 года гетман Ян Караль Хадкевіч перамог шведаў пад Кірхгольмам ды ўзяў багатыя трафеі. А вось што было пасля...

















































Сюжэт: Андрэй Вашкевіч, Алесь Кіркевіч
Малюнкі: Алесь Кіркевіч




# У папярэдніх нумарах часопіса

## Калі часопіса не засталося ў «Саюздруках» і на поштах, пытайцеся яго ў кнігарнях

**Мінск**

«Акадэмкніга» (на станцыі метро «Акадэмія навук»)
Філіял «Акадэмкнігі» на Багдановіча, 46
Гандлёвы цэнтр «Купалаўскі» (пад Кастрычніцкай плошчай), крамы 60 і 44–45
«Галіяфы» (Няміга, 3, крама № 47 на цокальным паверсе)
«Мой модны кут» (Цэнтр «Маскоўска-Венскі», павільён 333 — гэта каля ЦУМа, метро «Плошча Якуба Коласа», Незалежнасці, 58)
Кніжны кірмаш па Даўмана, 23 (субота 00.00–14.00), месца 78б
«Рагна» (Сухая, 4, метро «Фрунзенская»)
«Кніжная шафа» (Дзяржынскага, 9)
«Светач» (Пераможцаў, 11) — асобныя нумары
«Цэнтральная кнігарня» (Незалежнасці, 19) — асобныя нумары
«Кнігі і кніжачкі» (Незалежнасці, 14) — асобныя нумары
«Эўрыка» (Куйбышава, 75) — асобныя нумары

**Поштай ці з дастаўкай на дом** вы можаце яго замовіць праз Halijafy.by, Knihi.by, Kniger.by.

**Гродна**

«Цудоўня» (Кірава, 3).
«Кругагляд» (б-р Ленінскага камсамола, 29а) — асобныя нумары
«Раніца» (Маставая, 33) — асобныя нумары

правер сябе )))

# Ці змаглі б вы стаць графам?

**Адкажыце на некалькі пытанняў і праверце, ці добра вы запомнілі артыкул «Імперскія тытулы для літвінскіх магнатаў».**

**1. Вы суправаджаеце караля Жыгімонта Старога на Венскім кангрэсе 1515 года. Задача ў вас не з лёгкіх — угаварыць імператара разарваць саюз з маскоўскім князем Васілём III. Перамовы ідуць чацвёрты месяц, усе ўжо стаміліся. Час дзейнічаць рашуча — але як?**

а) Імператар не мае сіл супраціўляцца. Апошні рывок – і мы дацiснем яго
б) Годзе ўжо спрачацца! Зладжу баль – час разрадзіць абстаноўку
в) Лепш імператара не раздражняць і не гнявіць. Пераможам Маскву і самі

**2. Як думаеце, з якога веку чалавек мог атрымаць ад імператара тытул графа?**

а) Ад нараджэння
б) Ад паўналецця
в) Ад 40 гадоў

**3. Адзін з гэтых родаў не меў імперскіх тытулаў. Які?**

а) Радзівілы
б) Гаштольды
в) Іллінічы
г) Хадкевічы
д) Тышкевічы
е) Пацы

**4. Пераскочым на 150 гадоў наперад. Тут тытул ужо проста так не атрымаеш, але ж вы — Сапегі, вы яго заслужылі! Як будзеце дзейнічаць?**

а) Пасябрую з каралём і папрашу зрабіць для мяне выключэнне
б) Пасябрую з імператарам
в) Выхаваю з сына канцлера, і няхай ён цішком упіша ў Метрыку ВКЛ, што мы князі-графы з даўніх-давён

**А цяпер на суседняй старонцы даведайцеся, як бы склаўся ваш лёс 400 гадоў таму.**

**Брэст**
«Правільная кніга» (Куйбышава, 13, каля рынку)
«Князь Вітаўт» (Савецкая, 55)
«Асвета» (Машэрава, 57) — асобныя нумары
«Дружба»(б-р Касманаўтаў, 120) — асобныя нумары
«Іскра» (Пушкінская, 4) — асобныя нумары

**Гомель**
«Кніжны свет» (Леніна, 45) — асобныя нумары

**Віцебск**
«Светач» (Кірава, 10)
«Глобус» (Замкавая, 21–30) — асобныя нумары

**Магілёў**
«Гасцінец» (Віцебскі праспект, 48)

**Бабруйск**
«Крыніца ведаў» (Горкага, 31).

**Баранавічы**
«Кнігі» (Савецкая, 73) — асобныя нумары

**Наваполацк**
«Дом кнігі» (Маладзёжная, 145) — асобныя нумары
«Усход» (Кірава, 4) — асобныя нумары

**Пінск**
«Мой модны кут» (Леніна, 31)

Акрамя таго, праз сайт ARCHE.BY часопіс можна купіць у ПДФ, у электроннай версіі.



**Адказы на тэст са старонак 88–90:**
1 – В, 2 – В, 3 – А, 4 – Б, 5 – В, 6 – А, 7 – А, 8 – Б, 9 – В, 10 – В, 11 – В, 12 – Г, 13 – Г, 14 – В, 15 – А, 16 – Г, 17 – А, 18 – Б, 19 – А, 20 – В, 21 – Б, 22 – А, 23 – В, 24 – В, 25 – А, 26 – А, 27 – Б, 28 – А, 29 – Б, 30 –В, 31 – А, 32 – Б, 33 – Б, 34 – В, 35 – Б, 36 – А, 37 – Б, 38 – А, 39 – Б, 40 – Б, 41 – А, 42 – Г, 43 – Б, 44 – В, 45 – А.

**Частка Б:** 1. Адліга.
2. Дысідэнцкі.
3. Неакансерватыўны.
4. Уорхал. 5. Прыватызацыя.

**Адказы на тэст са старонкі 96**:

1. Свята — вось чаго прагне імператар. І гэта цудоўна разумеў Мікалай Радзівіл, які першы з ВКЛ атрымаў у 1515 годзе княжацкі тытул.

2. Правільны варыянт — «а»: тытулы пераходзілі да дзяцей ад нараджэння — яны ж перадаваліся ў спадчыну. Але і атрымаць ад імператара такі тытул мог зусім юны чалавек. У 1553 годзе такі тытул атрымаў 13-гадовы Юры Шчаснавіч Іллініч.

3. Пацы тытула не мелі.

4. Калі выбралі адказ «в», то вы сапраўдны Сапега! У 1744 годзе канцлер Ян Фрэдэрык Сапега ўпісаў у Метрыку ВКЛ, што ў 1512 годзе імператар Максіміліян II нібыта прысвоіў Івану Сямёнавічу Сапегу тытул графа, а Жыгімонт Стары быццам бы тое пацвердзіў. Фальсіфікацыя ўдалася: праз 16 гадоў сойм Рэчы Паспалітай на падставе гэтых запісаў прызнаў усіх Сапегаў князямі.

**Лічыце, колькі плюсоў атрымалі. А калі мінусы пераважаюць, не перажывайце: магчыма, у перспектыве Кастрычніцкай рэвалюцыі, якая абрынецца на вашых нашчадкаў праз пару стагоддзяў, не так і патрэбны вам гэты тытул. Там і без княства ды графства прыйдзецца нясоладка, а ўжо з ім…**

**Падпісны індэкс 00469**